**МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

Установа адукацыі
«МАГІЛЁЎСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ імя А.А. КУЛЯШОВА»

# ГЕАГРАФІЧНА-СТАТЫСТЫЧНЫ СЛОЎНІК МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

## У трох тамах

## Том 1
## А – Ж

Аўтар-укладальнік
*І.М. Шаруха*




Магілёў 2012

УДК 913 (476.4) (03)
ББК 26.89(4Беи)я2
Г27

*Друкуецца па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага савета
УА «МДУ імя А.А. Куляшова»*

**Рэцэнзенты:**
Кафедра фізічнай геаграфіі і картаграфіі Харкаўскага нацыянальнага
ўніверсітэта імя В. Каразіна (доктар геаграфічных навук,
прафесар *В.А. Перасадзька,* прафесар *А.А. Жэмераў*);
доктар геаграфічных навук, прафесар Маскоўскага дзяржаўнага
ўніверсітэта імя М. Ламаносава *А.А. Лукашаў*;
кафедра геалогіі і разведкі карысных выкапняў
УА "Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны"
(в.а. загадчыка кафедры дацэнт *А.І. Паўлоўскі*)

**Геаграфічна-статыстычны слоўнік Магілёўскай вобласці:**
Г27 у 3 т. – Т. 1: А-Ж / аўт.-уклад. І.М. Шаруха; распрац. картаграф. мат-лаў Н.Б. Тупіцына. – Магілёў: УА «МДУ імя А.А. Куляшова», 2012. – 220 с.: іл.

ISBN 978-985-480-784-3

У зводны слоўнік (у 3 тамах: Т. 1. А-Ж; Т. 2. З-О; Т. 3. П-Я) увайшлі дадзеныя аб 19556 фізіка- і эканоміка-геаграфічных аб'ектах па 21 раёне Магілёўскай вобласці. Усе статыстычныя дадзеныя падаюцца па стане на 1.01.2011 г., дадзеныя па полаваўзроставым, нацыянальным складзе – па перапісу 2009 г.

У склад тома 1 увайшлі дадзеныя аб 5805 геаграфічных аб'ектах вобласці на літары А-Ж.

Слоўнік адрасуецца кіраўнікам органаў выканаўчай улады, прадпрыемстваў і устаноў, географам, гісторыкам, эканамістам, краязнаўцам, студэнтам прыродазнаўчых, гуманітарных спецыяльнасцей.

**ISBN 978-985-480-784-3-1**
**ISBN 978-985-480-783-6**

# ГАЛОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

ААБ – акцыянерны ашчадны банк
Аб'яд. – аб'яднаны, аб'яднанне
АБЗ – асфальта-бетонны завод
Авіяц. – авіяцыя
А/г – аграгарадок
Аддз. – аддзяленне
Адклад. – адклады
Адкр. сетка – адкрытая сетка
Адм. – адміністрацыйны
Адмір. – адмірал
Адпач. – адпачынак
Акр. – акруга
Амбул. – амбулаторыя
Апт. – аптэка
Асуш. – асушаны
АТД – адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне
Б.а. – база адпачынку
Бал. – балотны
Батан. – батанічны
Бер. – бераг
Біёл. – біёлаг
Біялаг. – біялагічны
Б-ка – бібліятэка
Бр. магіла – брацкая магіла
Б-ца – бальніца
БШ – базавая школа
Бяроз. – бярозавы
Вар. – варыянт
В. – вёска
Вдзб. – вадазбор
Вдсх. – вадасховішча
верх. – верхні, верхняе, верхавое
Вобл. – вобласць
Воз. – возера
Вол. – воласць
Выс. – выселак
Выш. – вышыня
Вядом. – вядома, вядомы
Г. – горад, гара
Г.п. – гарадскі пасёлак
Гандл. – гандлёвы
Ген. – генерал
Гер. Сав. Саюза – Герой Савецкага Саюза
Гер. Сац. працы – Герой сацыялістычнай працы
Гідрал. – гідралагічны
ГП – газаправод
Грануламетр. скл. – грануламетрычны склад.
Губ. – губерня
Д.а. – дом адпачынку
Д.б.н. – доктар біялагічных навук
Д.в.н. – доктар ваенных навук
Д.г.-м.н. – доктар геолага-мінералагічных навук
Д.г.н. – доктар геаграфічных навук
Д.гіст.н. – доктар гістарычных навук
Д.м.н. – доктар медыцынскіх навук
Д.п.н. – доктар педагагічных навук
Д.с.-г.н. – доктар сельскагаспадарчых навук
Д.с.н. – доктар сацыялагічных навук
Д.т.н. – доктар тэхнічных навук
Д.ф.-м.н. – доктар фізіка-матэматычных навук
Дом сац. пасл. – дом сацыяльных паслуг
Д/с – дзіцячы садок
ДБ – дом быту
Дз. лаг. – дзіцячы лагер
Дзярн.-падзол. – дзярнова-падзолістая глеба
ДК – дом культуры
Дойлід. – дойлідства
Дуб. – дубовы
Жалезн. – жалезны
жан. – жанчыны
Жывёлагад. – жывёлагадоўля
З – захад
З.а. – зона адпачынку
Забалоч. – забалочаны
Зак. – заказнік
Западз. – западзіна
Засц. – засценак
Збож. – збожжавыя
Зімав. яма – зімавальная яма
Зледз. – зледзяненне
Імп. – імперыя
К.б.н. – кандыдат біялагічных навук
К.в.н. – кандыдат ваенных навук
К.г.-м.н. – кандыдат геолага-мінералагічных навук
К.г.н. – кандыдат геаграфічных навук
К.гіст.н. – кандыдат гістарычных навук
К.м.н. – кандыдат медыцынскіх навук
К.п.н. – кандыдат педагагічных навук
К.-с – калгас
К.с.-г.н. – кандыдат сельскагаспадарчых навук
К.с.н. – кандыдат сацыялагічных навук
К.т.н. – кандыдат тэхнічных навук

К.ф.-м.н. – кандыдат фізіка-матэматычных навук
к/т-р – кінатэатр
К-т – камбінат
Кальц. – кальцыевы
Каналізав. – каналізаваны
Карм. – кармавыя
КБМ – камбінат будаўнічых матэрыялаў
КПП – комплексны прыёмны пункт УКП "Бытпаслугі"
Краязн. – краязнаўчы, краязнаўца
Крын. – крыніца
К-с – комплекс
К-с БРЖ – комплекс па адкорму буйной рагатай жывёлы
КУСП – калектыўнае ўнітарнае сельскагаспадарчае прадпрыемства
КХП – камбінат хлебапрадуктаў
Л.д. – лясная дача
Л.м. – лясны масіў
Лев. – левы
ЛЭП – лінія электраперадач
Лясн. – лясніцтва
М. б. – месца былога (былой)
Мал.-мясн. – малочна-мясная
Ман. – манастыр
Мастац. – мастацтва
Матэр. – матэрыялаў
Мемар. – мемарыяльны
Мкр-н – мікрараён
МНС – міністэрства надзвычайных сітуацый
МТФ – малочна-таварная ферма
Мужч. – мужчыны, мужчынскі
Муз. – музычная
Мяст. – мястэчка
Мясц. – мясцовы
Н.у.м. – над узроўнем мора
Насадж. – насаджэнні
Нац. – нацыянальны
Нізін. – нізінны, нізіннае
НП – нафтаправод
П. – пасёлак
П. п. – помнік прыроды
П/а – паштовае аддзяленне
Пав. – паверхня
Пасел. – паселішча
Пашт. ст. – паштовая станцыя
Пд – поўдзень
Пераваж. – пераважна
Перасых. – перасыхаючы
П-ка – паліклініка
Пл. – плошча
Пн – поўнач
Помн. – помнік
ПП – прыватнае прадпрыемства
Пр. – правы
Праф. – прафесар
Прып. п. – прыпыначны пункт на чыгунцы
Прыт. – прыток
ПШ – пачатковая школа
Пясч. – пясчаны
Р. – рака
Р.п. – рабочы пасёлак
Рад. – радовішча
Рас. – Расійскі
Раўн. – раўніна
Р-д – раз'езд
РКЦ – разлікова-касавы цэнтр
Р-н – раён
Руск. – рускі
Руч. – ручай
Рц – раённы цэнтр
Рыбагад. – рыбагадоўля
С. – сяло
С.-г. угоддзі – сельскагаспадарчыя ўгоддзі
С-с – саўгас
С/с – сельскі савет
Сан. – санаторый
Свінагад. – свінагадоўля
СВК – сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў
СДК – сельскі дом культуры
Скрыж. – скрыжаванне
Снп – сельскі населены пункт
Спецыяліз. – спецыялізацыя
Ст. – станцыя
Сульфат. – сульфатны
Супясч. – супясчаны
СШ – сярэдняя школа
Студз. – студзень
СТФ – свіна-таварная ферма
Сядз. – сядзіба
Сяр. – сярэдні
Тарф. – тарфяны
Тарф.-бал. – тарфяна-балотны
Т-ра – тэмпература
Тэхн. – тэхнічная
У – усход
У скл. – у складзе
Узр. – узрост

Укл. – уключны
Укр. – украінскі
УКСП – унітарнае калектыўнае сельскагаспадарчае прадпрыемства
Улад. – уладанне
Ур. – урочышча
Уч-к – участак
Ф. – ферма
Фальв. – фальварак
ФАК – фізкультурна-аздараўленчы комплекс
ФАП – фельчарска-акушэрскі пункт
Фермер. гасп. – фермерская гаспадарка
Фіз.-геаграф. – фізіка-геаграфічны
Х. – хутар
Хваёв. – хваёвы
Хларыд. – хларыдны
Хутк. дапам. – хуткая дапамога
Ц. – цэнтр
Частк. – частка, часткова
Чыг. – чыгунка
Чыг. ст. – чыгуначная станцыя
Швед. – шведскі
Шк. – школа
Шчыльн. – шчыльнасць
Э/б – эксперыментальная база
Эл/падст. – электрападстанцыя
Ялов. – яловы
Яўр. – яўрэйскі

**СКАРАЧЭННІ ГЕАГРАФІЧНЫХ НАЗВАЎ:**

Асіп. – Асіповіцкі
Бабр. – Бабруйскі
Бых. – Быхаўскі
Бял. – Бялыніцкі
Глуск. – Глускі
Гор. – Горацкі
Дрыб. – Дрыбінскі
Касц. – Касцюковіцкі
Кір. – Кіраўскі
Клім. – Клімавіцкі
Краснап. – Краснапольскі
Кругл. – Круглянскі
Крыч. – Крычаўскі
Маг. – Магілёўскі
Мсц. – Мсціслаўскі
РФ – Расійская Федэрацыя
Слаўг. – Слаўгарадскі
Хоц. – Хоцімскі
Ц.-Бярэзінская – Цэнтральна-Бярэзінская
Чав. – Чавускі
Чэр. Чэрыкаўскі
Шкл. – Шклоўскі

# ПРАДМОВА

Ідэя стварэння географа-статыстычнага слоўніка Магілёўскай вобласці прыйшла ў 1993 г. географам МДУ імя А.А. Куляшова Г. Рыдзеўскаму і І. Шаруху пасля прапрацоўкі і абмеркавання пяцітомнага выдання "Географа-статыстычны слоўнік Расійскай імперыі" П.П. Сямёнава-Цян-Шанскага.

На першым этапе быў складзены план даследаванняў (спачатку разлічвалі на 7-8 гадоў – 1993 – 2000 гг., але збор дадзеных расцягнуўся па асобных аб'ектах да 2008 г.), была распрацавана анкета.

За 1993 – 2003 гг. было разаслана 550, раздадзена – 1950 анкет. Напрыклад, у Шклоўскі раён было накіравана 225, у Слаўгарадскі – 115, Хоцімскі – 100, Чэрыкаўскі – 86 анкет. На 2500 анкет атрымана 240 адказаў: поштай каля 35, перададзена па першым патрабаванні каля 75, па шматразовых просьбах і патрабаваннях – каля 130. Такім чынам, эфектыўнасць працы па анкетах склала 9,6% (крыху лепш, чым вынікі анкетавання, праведзеным М. Ламаносавым у XVIII ст.). Вусным анкетаваннем было ахоплена каля 1000 чалавек, у т.л. аднаразова – 659 (студэнты МДУ спецыяльнасці "Геаграфія. Біялогія" – 163, "Біялогія. Геаграфія" – 141, "Геаграфія" – 26; педагагічнага факультэта – 196, славянскай філалогіі – 115, гістарычнага факультэта – 18), шматразова – больш за 330 чалавек. Пры рэдагаванні зводнага варыянта слоўніка (2011 г.) накіраваны 31 ліст-запыт у раённыя структуры выканаўчай улады; атрымана на іх адказаў: па першым патрабаванні – 13, па другім – 4, па трэцім – 2, па чацвёртым – 1, пятым – 0, шостым – 1.

Па літаратурных, картаграфічных крыніцах, дадзеных палявых даследаванняў (практыкі студэнтаў географаў, гісторыкаў, філолагаў), матэрыялах карэспандэнтаў, з 20 кастрычніка 1993 да 1 лістапада 2010 г. зафіксавана 62300 назваў аб'ектаў. З гэтай агульнай колькасці, пры апрацоўцы і друкаванні асобных частак (21: у часопісах "Магілёўская Даўніна", 1993 – 2001, "Магілёўскі мерыдыян", 2001 – 2008, асобнымі выданнямі – Круглянскі Клімавіцкі, Клічаўскі раёны), у 1993 – 2008 гг. не падцвердзіліся дадзеныя па 40700 назвах. У асобных частках "Геаграфічна-статыстычнага слоўніка Магілёўскай вобласці" надрукаваны дадзеныя прыкладна да 21 тысячы назваў аб'ектаў. У перапрацаваны зводны слоўнік па вобласці (у 3 тамах) увайшлі дадзеныя толькі па 19556 аб'ектах (з улікам таго, што некаторыя аб'екты знаходзяцца на тэрыторыі двух і больш раёнаў – раўніны, узвышшы, рэкі і г.д.).

Структура слоўніка класічная. Усе назвы аб'ектаў прыводзяцца ў алфавітным парадку. Адміністрацыйная прыналежнасць пазначаецца ў дужках, напрыклад (Шкл.) – Шклоўскі раён.

Усе аб'екты падзяляюцца на фізіка-геаграфічныя (рэкі, ручаі, азёры, каналы, сажалкі, узвышшы, раўніны, нізіны, балоты і г.д.) і эканам-геаграфічныя (населеныя пункты, дарогі, кар'еры і г.д.). Большая частка зафіксаваных аб'ектаў – на ўзроўні ўрочышчаў (ур.) – сельска-гаспадарчых, лясных, леса-балотных і г.д.

Для характарыстыкі рэк, ручаёў, каналаў прыводзяцца наступныя дадзеныя: назва (назвы), прыток, басейн, раён, даўжыня, плошча вадазбору, выток (пачатак), вусце і інш. параметры:

***АДАМЕНКА**, р., пр. прыт. р. Дняпро (бас. Чорнага мора) у Быхаўскім р-не. Даўж. 13 км. Пл. вдзб. 65 км$^2$. Выток за 1,3 км на ПнУ ад в. Чарналессе, вусце каля в. Новы Быхаў. Каналізавана. (Бых.).*

***ЗУБІХА**, руч., пр. прыт. руч. Камарынка (бас. р. Прыпяць). Даўж. 4 км. Выток за 0,5 км на Пн ад в. Сельцы, вусце за 1,5 км на ПдУ ад в. Калюга Глускага р-на. (Глуск.)*

***БУДЧЫНСКІ**, канал, меліярац., у Бабруйскім і Жлобінскім р-нах, левы прыт. р. Любіца (бас. р. Дняпро). Даўж. 7,9 км. Выток за 2 км на ПнУ ад в. Панкратавічы, вусце за 1,3 км на ПнУ ад в. Зарэчча Бабруйскага р-на. (Бабр.)*

Для азёр, сажалак, балот падаюцца наступныя звесткі: назва (назвы), прыналежнасць да басейна, прывязка да мясцовасці, плошча, глыбіня, інш. паказчыкі:

***БЕЗЫМЕННАЕ, ПАЛЫКАВІЦКАЕ ВОЗЕРА**, воз., у бас. р. Чарнаводка, за 17 км на З ад г. Шклоў, на мяжы з Круглянскім р-нам. Пл. 0,3 км$^2$. Найб. глыб. 2 м. Пл. вдзб. 9,6 км$^2$. (Шкл.)*

***ЗЯБЕНСКАЯ САЖАЛКА**, сажалка, у рэчышчы р. Зябенка (бас. р. Сож), на ПнУ ад в. Зябень Чэрыкаўскага р-на. Пл. 1,6 га. Культ.-быт. знач. (Чэр.)*

***АРЭХАЎКА**, балота, верх., на ПнУ р-на, на Пн ад в. Брусы Клічаўскага р-на, у вдзб. р. Сушанка. Пл. 800 га. Пад рэдкім хваёв. лесам. (Кліч.)*

***ГАНЧАНСКАЕ БАЛОТА**, балота, у Кіраўскім і Клічаўскім р-нах, нізін. (55%), верх. (35%) і пераходн. тыпу, на ПнУ р-на, за 4 км на ПдЗ ад в. Грыбава Слабада. Пл. 3,6 тыс. га. У межах прам. пакладу 2,5 тыс. га. Здаб. торфу. Да сяр. 1990-х гг. здаб. торфу на ўгнаенне. (Кір., Кліч.)*

Для раўнін, узвышшаў – назва, прывязка да тэрыторыі, галоўныя параметры:

***АРШАНСКА-МАГІЛЁЎСКАЯ РАЎНІНА**, фіз.-геаграф. р-н, раўн. У.–Беларускай прав., у Магілёўскай вобл. (Клімавіцкі, Крычаўскі, Шклоўскі, Дрыбінскі, часткова Бялыніцкі, Горацкі, Касцюковіцкі, Краснапольскі, Круглянскі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Хоцімскі, Чавускі, Чэрыкаўскі) і ПдУ часткі Віцебскай вобл. Мяжуе з Чачэрскай раўн. на Пд і ПдЗ, з Ц.-Бярэзінскай раўн. на З, Аршанскім узв. на ПнЗ і Горацка-Мсціслаўскай раўн. на ПнУ. Пл. каля 12 тыс. км$^2$. У вобл. – з ПнЗ на ПдУ больш чым на 200 км, з З на У ад 50 да 120 км. Старажытн. назва У часткі – Раданская (Радомльская) раўн. Пав. раўнін.*

*з платападоб. уч-камі з крыста-суфазійн. формамі. Выш. 150-200 м. Найвыш. кропка – 224 м н.у.м. каля в. Палыкавічы Шклоўскага р-на, найніж. – 131 м у даліне р. Сож у Чэрыкаўскім р-не. Агул. нахіл тэр. з ПнЗ на ПдУ. Р. бас. р. Дняпро: Проня з Бася і Растой, Сож. На Пд – пр. прыт. р. Беседзь – Жадунька з Крупняй, Дзяражня. (Бял., Гор., Дрыб., Касц., Клім., Краснап., Кругл., Крыч., Маг., Мсц., Хоц., Чав., Чэр., Шкл.)*

Усебакова характарызуюцца зоны адпачынку, паркі, асабліва прыродныя аб'екты – заказнікі і помнікі прыроды рэспубліканскага і мясцовага значэння:

***ГАНЧАНКА**, з.а., мясц. знач., у Клічаўскім р-не, з 1981 г., за 34 км на ПнУ ад Бабруйска, 3 км ад Клічава Клічаўскага р-на, на бер. р. Ольса і яе прыт. рр. Ганчанка і Генка. (Кліч.)*

***БЕЛЫЯ РЭЧКІ**, зак., мясц. знач., з 1994 г., гідрал., за 1 км на ПнУ ад в. Новае Заліцвінне, за 2 км на ПдУ ад в. Забуднянскія Хутары Кіраўскага р-на. Пл. 113 га. (Кір.)*

***БРЫЗГУН, БРАЗГУН**, п. п., мясц. знач., гідрал., за 3 км на ПдУ ад в. Наркі Чэрыкаўскага р-на, на тэр. ДЛГУ "Чэрыкаўскі лясгас". Пл. 0,02 га. (Чэр.)*

***БЯРОЗАЎСКІ ПАРК**, парк, у б. в. Бярозаўка Шклоўскага р-на, пейзажны, кан. XIX – пач. XX ст. Пл. 4 га. 40 відаў драўн. раслін: хвоі Веймутава, сібірск. кедр. хвоя, лістоўніца сібірск., еўрапейск. і японск., піхты сібірская. Помн. сядз.-парк. мастац. (Шкл.)*

Для характарыстыкі адміністрацыйных адзінак (вобласць, акруга, гарадскі раён, сельскі раён, гарадскі савет, сельскі савет, пасялковы савет) прыводзяцца наступныя дадзеныя: назва, гады існавання, тэрытарыяльныя прывязкі, даты заснавання, скасавання, якасныя і колькасныя параметры:

***АРШАНСКАЯ АКРУГА**, акр., адм. адз. АТД БССР, у 1924 – 1930 гг. ц. – г. Орша. Пл. ад 7,9 (1924 г.) да 11,7 тыс. км² (1927 г.). Нас. 572,3 тыс. чал. (1927 г.). Укл. у 1924 г. 10 р-наў (Аршанскі, Багушэўскі, Горацкі, Дрыбінскі, Дубровенскі, Копыскі, Коханаўскі, Круглянскі, Лядненскі, Талачынскі), 108 с/с. У 1927 г. далуч. р-ны з Барысаўскай акр. – Крупскі, Чарэйскі, з Калінінскай – Мсціслаўскі і Расненскі. Скасавана 26.07.1930 г. (Гор., Дрыб., Кругл., Мсц.)*

***БЯЛЫНКАВІЦКІ С/С**, с/с, на ПдУ р-на. Утвор. 20.08.1924 г. у Бялынкавіцкім р-не Калінінскай акр., з 26.09.1927г. у Бялынкавіцкім р-не Магілёўскай акр., з 04.08.1927 у Касцюковіцкім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Касцюковіцкім р-не, з 20.02.1938 у Магілёўскай вобл. СВК "К.-с "Прагрэс" (в. Ліпаўка). 22 снп, 1054 двароў, 2545 жых. (Касц.)*

***БУДСКІ С/С**, с/с, на ПнУ Горацкага р-на, у 1954 – 2001 гг. Утвор. 16.07.1954 г. шляхам аб'яд. Коцелеўскага і Паршынскага с/с. У 2001 г. скасаваны. Тэр. перададз. Паршынскаму, Горскаму с/с. (Гор.)*

Даецца характарыстыка радовішчам карысных выкапняў:

***БУЛГАКАЎСКАЕ**, рад., торфу, на Булгакаўскім Балоце Клімавіцкага р-на. Глыб. торфу да 4,7 м. Зап. 1,7 млн. т. Не распрацоўв. (Клім.)*

Для характарыстыкі населеных пунктаў падаюцца дадзеныя: назва (назвы), тып пасялення (у 95% выпадкаў назвы і тыпы пасяленняў, за выключэннем аграгарадкоў, даюцца паводле нарматыўнага даведніка, які мае юрыдычную сілу Закона "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Бларусь: Магіл. вобл.: Нарматыўны давед. / І.А. Гапоненка, В.П. Лемцюгова, І.М. Шаруха і інш.; Пад рэд. В.П. Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2007. – 407 с; у астатніх – на падставе кансенсусу з дадзенымі раённых выканаўчых саветаў; статус аграгарадка прыводзіцца выключна паводле дадзеных мясцовых уладаў), статус, адміністрацыйная прыналежнасць, дата заснавання, першага ўспаміна ў дакументах; колькасць двароў, насельніцтва (паводле звестак райвыканкамаў), найважнейшыя гістарычныя (па гістарычных крыніцах) і статыстычныя дадзеныя, звесткі аб прадпрыемствах, установах (паводле звестак райвыканкамаў), помніках; для цэнтраў сельскіх – адлегласць да раённага цэнтра, чыгуначнай станцыі; інш. дадзеныя:

***АБІДАВІЧЫ**, а/г, ц. с/с Быхаўскага р-на і СВК "Абідавічы", вядом. з 1300 г. як с., 245 двароў, 611 жых., п/а, АТС, ФАП, д/с-СШ, муз. шк., СДК, б-ка, сац. пункт, філ. фізкульт.-аздараўл. ц., КПП, 3 крамы, буфет, стал., гандл. ц., МТФ, СТФ, мехдвор, зерняток. У 1897 г. – 178 двароў, 1197 жых., 3 ветракі, шк., піцейны дом, пашт. ст., нар. вуч. 2 гарадзішчы (ур. Чырвоная Горка), 2 селішчы, стаянка, могільнік. Бр. магіла сав. воінаў, помн. землякам. Да чыг. ст. і рц – 30 км. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кu/км². (Бых.)*

***АБРУБЕЦ**, п., да 1976 г. у Верамейскім с/с Чэрыкаўскага р-на. Ліквідаваны. (Чэр.)*

***АДАМЕНКА**, п., Навабыхаўскі с/с Быхаўскага р-на, 10 двароў, 22 жых., СТФ Часткова спалены фашыстамі ў 1944 г. Селішча (ур. Абідня, Радышава Гара). Могільнікі. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/ км². (Бых.).*

***АДАМІН**, фальв., да 1920-х гг. у Кульшыцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)*

Характарыстыка ўрочышчаў уключае звесткі: назва (назвы), тып урочышча, прывязка да мясцовасці, дадатковыя характарыстыкі:

***АБРАМІНА**, ур., с-г. угоддзі, за 3,5 км на ПдУ ад в. Мілаславічы Клімавіцкага р-на. (Клім.)*

***ЧОРНЫ БЕРАГ**, ур., лясное, на пр. бер. р. Сож, паміж дарогай Журавель – Бакаў і р. Сож, за 2,5 км на ПдЗ ад в. Журавель Чэрыкаўскага р-на. Курган. Могільнік. (Чэр.)*

***ЦЯЛУШСКАЯ ЛЯСНАЯ ДАЧА**, л.д., на ПдУ р-на, на З і ПдЗ ад в. Цялуша Бабруйскага р-на, на лев. бер. р. Бярэзіна. Пл. 14000 га. Хваёв. лясы (76%), ельнікі (3), чорнаалешнікі (6). Маляўн. Краявіды прыдатн. для адпач., турызму. (Бабр.)*

На пачатку 2000-х гг. праект па складанні кадастра геаграфічных аб'ектаў Магілёўскай вобласці быў падтрыманы Беларускім Рэспубліканскім Фондам Фундаментальных Даследаванняў – БРФФД (№ дзярж. рэг. 20014922).

Складальнік слоўніка ўдзячны за дапамогу ў зборы матэрыялаў, парады, заўвагі пры падрыхтоўцы да друку асобных частак, апрацоўцы тамоў зводнага слоўніка: прафесару МДУ *В. Рагаўцову* (першасныя палявыя матэрыялы); старшаму выкладчыку кафедры беларускай мовы МДУ *Т. Шарнёвай* (апрацоўка першасных матэрыялаў); загадчыку кафедры археалогіі МДУ *В. Капыціну* (дадзеныя па археалагічных помніках); былому начальніку аддзела кадраў Магілёўскага абласнога ўпраўлення статыстыкі, географу *С. Кандратаву* (статыстычныя дадзеныя), фотакарэспандэнту выдавецтва "Талака" *А. Ліціну* (першасныя палявыя дадзеныя); пастаяннаму кансультанту праекта, Ганароваму члену Беларускага геаграфічнага таварыства, дацэнту *П. Лярскаму*; галоўнаму геолагу Магілёўскага філіала "Геасервіс" С. Лярскаму (дадзенныя па геалогіі); доктару філалагічных навук, вядучаму навукому супрацоўніку Інстытута мовазнаўства НАНБ, прафесару *В. Лемцюговай*, супрацоўніку ДКП "Картгеацэнтр" *Р. Лопух* (картаграфічныя дадзеныя), старшыні ГА "Беларускае геаграфічнае таварыства", доктару геаграфічных навук, прафесару БДУ *П. Лопуху*; членам Магілёўскага абласнога аддзела геаграфічнага таварыства *Н. Байковай, А. Болатаву, Д. Грума, Г. Рыдзеўскаму, А. Агееву, У. Хамякову, Ю. Жураву, М. Шамро, М. Беляеву, В. Крывіцкаму, В.Бузмаковай, З. Кірэевай, Дз. Чыжу, Л. Пашкевіч* (збор, апрацоўка дадзеных, падрыхтоўка да друку); доктару геаграфічных навук, прафесару *Б. Нешатаеву*, дэкану факультэта прыродазнаўства МДУ дацэнту *Г. Ціханчук* (тэхнічная падтрымка); валанцёрам праекта *С. Украінку* (рэдагаванне, апрацоўка дадзеных), *М. Шаруху* (набор, апрацоўка, тэхнічнае суправаджэнне), *Ю. Папковай* (тэхнічная дапамога), *Н. Тупіцынай* (распрацоўка карт), а таксама **карэспандэнтам і інтэрв'юерам ў раёнах і гарадах абласнога падпарадкавання**:

**Асіповіцкі** (3): Барадзіч Г., Карчавая(Раманюк) А., Ярашэвіч Ю.

**Бабруйскі, Бабруйск** (4): Болатаў А., Болатава І., Скрыпка П., Хаджаян А.

**Быхаўскі (8)**: Балуценка М., Барысаў Г., Іванько М., Карнеева В., Хадановіч Т., Хобатаў М., Цішкова В., Украінка С.

**Бялыніцкі** (23): Барабанава Т., Бліндзерава А., Бунакова Т., Бяссценная А., Відусава В., Гаранінава Н., Гаранінаў М., Зайцава Н., Казакова Н., Казакова Л., Ларчанка В., Марозава В., Мельнікаў Ф., Падашэўка Н., Паўлава М., Рыняк І., Рак Т., Рак С., Самец У., Сімановіч А., Сімановіч Х., Снытка А., Цівуноў М.

**Глускі** (1): Бабакоў А.

**Горацкі** (21): Андрэева А., Бейзерава С., Бразгуноў І., Гарунёва Н., Гусянок С., Дударава Н., Елісеева Л., Ермалаева Н., Іванова Ф., Каробкіна Н., Карпіцкая С., Квасава М., Кірпічэнка Ф., Крысікава С., Курачко І., Лагно А., Новікава Т., Пугач Т., Садоўнікава А., Сафронава А., Чыж Д.

**Дрыбінскі** (6): Дзятлаў А., Зайцава В., Пруднікава А., П'янусава Н., Рудзяк Н., Цімошчанка Н.

**Касцюковіцкі** (17): Азаранка П., Аляхновіч Н., Арцёмчык Ю., Бараўцова Р., Гарбунова Г., Гурская Т., Дударук А., Загародная В., Клімава Т., Кокатава Л., Малюга А., Немцава В., Папкова А., Судзілоўская В., Усаў С., Чарнякоў А., Шаванда М.

**Кіраўскі** (19): Бандаровіч В., Бяляеў А., Бяляеў В., Вежнавец К., Восіпава Т., Зайцава Т., Невядомская Н., Петрачэнка С., Радзюкоў М., Рачкоўская А, Рудкоўская В., Рудкоўская І., Рудкоўскі В., Русецкая Г., Шпакоўскі У., Шэпетаў М., Шчэрбіч А., Шчэрбіч Л., Эрліх І.

**Клімавіцкі** (39): Алёшчанка М., Асмалоўская З., Аўчыннікава С., Багдаўшова А., Башкардзіна В., Блахіна Л., Буракова В., Бялова Л., Бяндоўская А., Галкоўская Д., Галкоўская Ж., Галкоўскі А., Глазунова Л., Грашчанка А., Емяльянава Т., Жугар Н., Іванова С., Іванчанка А., Казадоева А., Кандраценка С., Кузьмянкова С., Курлукова Г., Курносава Н., Мікалаева К., Моціна І., Невядомская Н., Пеціна Е., Пракаповіч М., Пятрушчанка В., Рубан Г., Сакава Н., Саламаціна Н., Севярынава А., Страчук В., Цыкаленка Н., Чарнякова К., Шведава Л., Шылава Г., Шылаў С.

**Клічаўскі** (19): Ачыновіч Л., Біндзюкова Н., Варэнікава К., Галацэвіч І., Давідовіч В., Ізмер Р., Караткевіч С., Крывальцэвіч М., Лебедзь С., Меркіна Н., Паджыгераў Дз., Снапкова Т., Сакава Н., Сакава В., Сакава Л., Толсцік Л., Сазанавец В., Смаршчок В., Фясько Я.

**Краснапольскі** (11): Аўсянкіна С., Войтава А., Гетава І., Еўдакімаў М., Кажурэнка Т., Каранкевіч Н., Кулягіна І., Круглікаў А., Кузьмянкова П., Марзалюк А., Марзалюк І.

**Круглянскі** (17): Антосікава Н., Бяляеў М., Бяляева А., Ганчарова А., Грыц Н., Зяцеў Дз., Косціна М., Кунец З., Мацюшэўская А., Мацюшэўская К., Мяцеліца В., Савік К., Савік Р., Цалавальнікаў В., Чэрціна А., Шафранская М., Шкала А.

**Крычаўскі** (13): Андросенка А., Баброва К., Жавіна Л., Іваіцкая Г., Каўганава Н., Лукашэнка В., Марозаў А., Пракаповіч М., Радзько А., Саманкова Ж., Сямёнава Т., Ціханаў І., Шкрэдаў С.

**Магілёўскі, Магілёў** (5): Барысенка М., Бяспанскі С., Груздоў В., Ліцін А., Сідарэнка Б.

**Мсціслаўскі** (21): Анголава Т., Бабкова Т., Бакуленка В., Гасянкоў А., Гуркова Н., Дарашэнка Т., Дарашэнка А., Дольнікава А., Касцюшкіна Г., Качала Т., Краўчанка В., Маісеенка Дз., Падгайская В., Падкавенка А., Самасейка І., Селязнёва А., Скальскоў А., Скрыган А., Суздалева А., Халімончык А., Ціханоўская А.

**Слаўгарадскі** (29): Андрэева А., Бабічава Т., Бонкіна К., Бялова А., Варанцова А, Воранава А., Ганчарова К., Давыдзенка Л., Елісеева А., Елісеева Л., Караленка М., Красімава А., Ларковіч Т, Магдалева К., Прачкіна Ф., Прачуханава Т., Рудзяк Н., Таркан Л., Сарока А., Семчанка К., Сідарава Н., Суманава Н.,

Свірыд В., Тачылава Е., Ярашэнка В., Ярмоленка А.В., Ярмоленка А.С., Яўсеенка В., Яшкін І.

**Хоцімскі** (14): Бядай А., Грыбянкоў М., Дубасава К., Кастроў В., Кроцікаў А., Крывіцкі В.М., Крывіцкі В.В., Мазанкоў А., Пастаялкіна З., Пачкай М., Прошкін А., Рагаўцова Н., Сіманенка І., Яроміна Е.

**Чавускі** (21): Бяляеў А., Ганчарова Н., Івіцкая Г., Кутавы П., Кутавая Н., Лаўрыновіч І., Лугаўнёва А., Малахаў І., Мядзведзева Н., Панцялеева А., Рагаўцова Н., Рагуеў А., Радзюкоў М., Ратнікава П., Шамро М.В., Шамро М.М., Шпартаў Ю., Шыбут С, Шыбут Св., Яўсеева І., Яўсееў Я.

**Чэрыкаўскі** (17): Зайцава С., Зубава А., Жаранкова С., Іванюгіна А., Касцюшка А., Лосева Н., Новікаў А., Лярскі П., Лініч Т., Парахно М., Пецярбурцаў А., Рагаўцоў А., Рагаўцова Г., Сцяпанава С., Уладзімірава І., Хныкава А., Шамро М.

**Шклоўскі** (29): Агееў А., Байкова Н., Барысевіч Л., Бяляева М., Вінаградава А., Галіноўская Л., Гаўрусева Н., Грудзіна А., Загародная В., Кавалёў І., Карнялюк А., Косцераў А., Кучарэнка М., Майсееў І., Матузка А., Міхайлоўская Г., Міхайлоўская Н., Падгурскі П., Парфёнава Н., Пушкарова А., Радзюкоў М., Раманава Л., Рыбакова Г., Рыдзеўская Л., Савіч І., Саракач В., Семчанка В., Цыпянкова І., Ярмоленка В.

Пры ўдакладненні дадзеных па раёнах, у жніўні-кастрычніку 2011 г. актыўна прымалі удзел старшыні, намеснікі старшынь, адказныя супрацоўнікі раённых выканаўчых саветаў: П. Шукаловіч, А. Шаўлюга, І. Арцёмчык (Асіповіцкі), М. Шалкоўскі (Бабруйскі), М. Кароцін, В. Рагавы (Быхаўскі), А. Варонін, Н. Серыкава (Бялыніцкі), А. Багель, Г. Бяляцкі (Глускі), І. Макар (Горацкі), П. Панасюга, Д. Пімашэнка (Дрыбінскі), М. Барычаў, С. Стасеў (Касцюковіцкі), У. Піскіжаў, В. Гаршкова (Кіраўскі), Ф. Вашчыла, Г. Данілкіна (Клічаўскі), В. Захаранка, Е. Дзівакова (Клімавіцкі), І. Балаханаў (Краснапольскі), А. Дуцько, С. Лазоўскі (Круглянскі), І. Пракопаў, В. Сысоеў, Т. Кірпічова, А. Фаміна (Крычаўскі), Дз. Гобараў, В. Яленскі (Магілёўскі), В. Віцюноў, В. Капусцін, Л. Касцюк (Мсціслаўскі), У. Даніленка, Т. Бабічава (Слаўгарадскі), Ф. Вішнеўскі, А. Ярмоленка (Хоцімскі), А. Мацюлін (Чавускі), М. Кадаценка, А. Новікава (Чэрыкаўскі), А. Бойка, А. Давыдовіч (Шклоўскі).

Складальнік слоўніка ставіць перад сабой мэту – азнаёміць як мага больш шырокае кола навукоўцаў, краязнаўцаў, жыхароў Магілёўскага Падняпроўя з назапашанымі дадзенымі, каб у далейшым выправіць, дапоўніць слоўнік. Згаджаемся з думкай акадэміка І. Сразнеўскага, што поўных слоўнікаў не існуе.

Але будзем імкнуцца да найбольшай паўнаты!

Водзывы, парады, дапаўненні дасылаць: 212030, Магілёў, вул. Першамайская, 44, корпус № 3 МДУ, кафедра геаграфіі іаховы прыроды.

*Складальнік І. Шаруха*
20.10.1993 – 11.11.2011 г.

# А

**АБАГУЛЕНЫ ДВОР**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Дудаковічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**АБАЛЕНШЧЫНА**, ур., лясное, каля в. Горкі Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**АБАЛОННЕ, БАЛОННЯ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, каля в. Радуцічы Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**АБАЛОННЕ**, ур., хмызова-балотнае, на У воз. Плывун, паміж воз. Плывун і Смольня Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**АБАЛОННЯ**, ур., с.-г. угоддзі, заліўны луг, на пр. бер. р. Пціч, на ПнУ ад в. Падлужжа Глускага р-на. (Глуск.)

**АБІДАВІЦКАЕ**, вдсх., бас. р. Дняпро, за 0,1 км на Пд ад в. Абідавічы Быхаўскага р-на. Пл. 21,2 га. Вар. назвы – Вадасховішча, Возера. (Быx.)

**АБІДАВІЦКІ ПЕРАКАТ**, перакат, р. Дняпро, насупраць в. Абідавічы Быхаўскага р-на. (Быx.)

**АБІДАВІЦКІ С/С**, с/с Быхаўскага р-на, на ПдУ р-на. Утвор. 20.08.1924 г. у Журавіцкім р-не Магілёўскай акр., з 1930 у Журавіцкім р-не, з 1931 у Быхаўскім р-не, з 1935 у Доўскім р-не, з 1935 у Журавіцкім р-не, з 1938 у Журавіцкім р-не Гомельскай вобл. З 17.12.1956 г. у Быхаўскім р-не Магілёўскай вобл. СВК “Абідавічы” (а/г Абідавічы). 21 снп, 871 двор, 2067 жых. У зоне забруджв. ад 1 да 5 Кі/км$^2$ – 13 снп, ад 5 да 15 Кі/км$^2$ – 8 снп. (Быx.)

**АБІДАВІЧЫ**, а/г, ц. с/с Быхаўскага р-на і СВК “Абідавічы”, вядом. з 1300 г. як с., 245 двароў, 611 жых., п/а, АТС, ФАП, д/с-СШ, муз. шк., СДК, б-ка, сац. пункт, філ. фізкульт.-аздараўл. ц., КПП, 3 крамы, буфет, стал., гандл. ц., МТФ, СТФ, мехдвор, зерняток. У 1897 г. – 178 двароў, 1197 жых., 3 ветракі, шк., піцейны дом, пашт. ст., нар. вуч. 2 гарадзішчы (ур. Чырвоная Горка), 2 селішчы, стаянка, могільнік. Бр. магіла сав. воінаў, помн. землякам. Да чыг. ст. і рц – 30 км. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км$^2$. (Быx.)

**АБІДАВІЧЫ**, ур., с.-г. угоддзі, за 4 км на ПнЗ ад в. Абідавічы Быхаўскага р-на, на лев. бер. р. Дняпро. (Быx.)

**АБІДНЯ**, селішча, на лев. бер. р. Адаменка, на У ад в. Адаменка Быхаўскага р-на. Месца знах. скарбу. (Быx.)

**АБІДНЯ**, ур., с.-г. угоддзі, сенажаць, у в. Адаменка Быхаўскага р-на. (Быx.)

**АБІСІНІЯ**, п., Пд частка г. Магілёў, у р-не мясак-та, паміж вул. Габраўская, Гомельская шаша, пр-там Дзімітрава, Маўчанскага, пр-та Шміта. (Маг.)

**АБЛОЖКІ**, ур., лясное, каля в. Капачы Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**АБЛОННЕ**, р., назва часткі рэчышча р. Парасіца, паміж вв. Шышава, Філіпава, Красуліна Горацкага р-на. (Гор.)

**АБЛОННЕ**, ур., с.-г. угоддзі, на пр. бер. р. Парасіца, на З ад в. Філіпава. (Гор.)

**АБНАЖЭННЕ, АГАЛЕННЕ**, п. п., рэсп. знач., геалаг., на З ускр. г. Чэрыкаў. Пр. адвершак яру, адкрыты ў даліну р. Сож. Міжледавік. адклады. Вар. назвы – Чэрыкаўскае агаленне. (Чэр.)

**АБОРАК**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Астрэйкавічы Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**АБРАІМАЎКА**, в., Міхееўскі с/с Дрыбінскага р-на, 12 двароў, 24 жых. (Дрыб.)

**АБРАМАЎ ВІР**, л.м., за 1,8 км на З ад в. Сабалёўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**АБРАМЁНКАЎ ХУТАР**, л.м., за 1,5 км на Пн ад в. Сабалёўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**АБРАМІНА**, л.м., за 4 км на ПдУ ад в. Мілаславічы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**АБРАМІНА**, ур., с-г. угоддзі, за 3,5 км на ПдУ ад в. Мілаславічы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**АБРУБ**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн ад в. Стары Дрыбін Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**АБРУБЕЦ**, п., да 1976 г. у Верамейскім с/с Чэрыкаўскага р-на. Ліквідаваны. (Чэр.)

**АБРУБЕЦ**, ур., с.-г. угоддзі, за 2 км на ПнЗ ад в. Ясная Паляна Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**АБРУБЕЦ**, ур., с.-г. угоддзі, паміж вв. Верамейкі і Беліца, за 1,5 км на ПнУ ад в. Верамейкі Чэрыкаўскага р-на (Чэр.)

**АБРЫВІСТЫ БЕРАГ**, ур., абрыў, на пр. бер. р. Вабіч, у в. Пральня Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**АБШЧЫНА**, п., да 1975 г. у Хоцімскім п/с с/с Хоцімскага р-на. Ліквідаваны. (Хоц.)

**АБШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, паміж вв. Васільеўка, Бруеўка Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**АБЫХОДНАЕ**, ур., с.-г. угоддзі, поле, ворыва КУСГП "Доўгавіцкі" Клічаўскага р-на. Пл. 33,1 га. (Кліч.)

**АВЕРКІН БЯРЭЗНІК**, ур., лясное, каля в. Буда Горацкага р-на. (Гор.)

**АВЕРКІН**, х., да 1920-х гг., у Будскім с/с Горацкага р-на. Ліквідаваны. (Гор.)

**АВЕЧЫ КУРГАН**, пагорак, на У ад дарогі Свіслач – Паліцкае, на З ад сутоку руч. Крывавы і р. Бярэзіна, на ПнУ ад в. Свіслач Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**АВІЯГАРАДОК**, ваен. гарадок, б. база ВПС СССР, у г. Бабруйск. (Бабр.)

**АГАЛЕННЕ**, п. п. Гл. Абнажэнне. (Чэр.)

**АГАПІЛАВА**, ур., с.-г. угоддзі, на З ад ур. Забалацце, за 4,5 км на Пн ад в. Маісеевічы Асіповіцкага р-на. 160,4 м н.у.м. (Асіп.)

**АГАРОДЖА**, ур., лясное, каля в. Згода Глускага р-на. (Глуск.)

**АГЕЕВА БАЛОТА**, ур., леса-балотнае, паміж вв. Прыбар і Ніканавічы Быхаўскага р-на. (Бых.)

**АГЕЕВА**, в., Кабінагорскі с/с Слаўгарадскага р-на, 2 двары, 2 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². (Слаўг.)

**АГЕЕВА**, п., да 1990-х гг. у Кабінагорскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**АГЕЕЎКА**, в., Мастоцкі с/с Магілёўскага р-на, 28 двароў, 50 жых., ФАП. (Маг.)

**АГЛОБЛЯ**, в., да 1964 г. Гл. в. Славянка Круглянскага р-на. (Кругл.)

**АГУЛА**, в., Вяззеўскі с/с Асіповіцкага р-на, 7 двароў, 8 жых. (Асіп.)

**АГУЛА**, ур., лясное, за 2,4 км на У ад в. Вабічы Шклоўскага р-на. Пл. 5 га. (Шкл.)

**АДАМАВА ЯМА**, вір, на р. Пціч у в. Засц. Глускага р-на. (Глуск.)

**АДАМАЎ ЛУГ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Засценак Усцярхі Глускага р-на, насупраць ур. Адамава Яма. (Глуск.)

**АДАМАЎ РАВОК**, роў, у лесе, паміж вв. Шапялевічы і Беларусь Круглянскага р-на. (Кругл.)

**АДАМАЎКА**, в., да 1943 г. у Рудкаўшчынскім с/с Горацкага р-на. Спалена фашыстамі. (Гор.)

**АДАМАЎШЧЫНА**, ур., лясная паляна, каля в. Прыбар Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**АДАМЕНКА**, п., Навабыхаўскі с/с Быхаўскага р-на, 10 двароў, 22 жых., СТФ Часткова спалены фашыстамі ў 1944 г. Селішча (ур. Абідня, Радышава Гара). Могільнікі. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Бых.).

**АДАМЕНКА**, р., пр. прыт. р. Дняпро (бас. Чорнага мора) у Быхаўскім р-не. Даўж. 13 км. Пл. вдзб. 65 км². Выток за 1,3 км на ПнУ ад в. Чарналессе, вусце каля в. Новы Быхаў. Каналізавана. (Бых.).

**АДАМІН**, фальв., да 1920-х гг. у Кульшыцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**АДАМІНА**, маёнтак, да 1920-х гг. у Кульшыцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Далуч. да в. Кульшычы. (Слаўг.)

**АДАРВАНКА**, п. Гл. в. Атарванка Горацкага р-на. (Гор.).

**АДБОЙ**, ур., частка лесу, на ПнЗ ад в. Уланава Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**АДВЕРНІЦА**, в., Ланькаўскі с/с Бялыніцкага р-на, 10 двароў, 14 жых. Вар. назвы – в. Атверніца. (Бял.).

**АДЗІНОКАЯ САСНА**, асобная хвоя, каля 80 год, на лев. бер. р. Бярэзіна ў д. Ялізава Асіповіцкага р-на, паміж ракой і чыг., на дамбе. (Асіп.)

**АДОЛЬФАВА**, ур., лясное, каля б. п. Галдабуршчына Бялыніцкага р-на. (Бял.).

**АДОЛЬФАЎ**, фальв. да 1920-х гг. у Галоўчынскім с/с Бялыніцкага р-на. Ліквідаваны. (Бял.).

**АДОЛЬФАЎСКІ ЛЕС**, ур., лясное на Пд ад в. Шамаўка Круглянскага р-на. (Кругл.)

**АДРЫНКІ**, ур., лясное, на З ад в. Падлужжа Глускага р-на. (Глуск)

**АДСТОЙНІК**, ур., с.-г. угоддзі, на ПнЗ ад в. Людкаў Быхаўскага р-на. Адстойнік к-са БРЖ. (Бых.).

**АДЭЛЬ**, в., да 1964 г. у Клетненскім с/с Глускага р-на. Ліквідавана. Злуч. з в. Андрэеўка. Гл. в. Новаандрэеўка. (Глуск.)

**АДЭЛЬЖДОРФ**, в. Гл. в. Адэль Глускага р-на. (Глуск.)

**АДЭЛЬНЯ**, в., да 1930-х гг. у Васькавіцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідавана. (Слаўг.)

**АДЭЛЬНЯ**, ур., с.-г. угоддзі, на м. б. в. Адэльня Слаўгарадскага р-на, у вусці р. Пясчанка, на пр. бер. р. Сож. (Слаўг.)

**АЖЫГАЎШЧЫНА**, в., да 1950-х гг. у Мазалаўскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідавана. (Мсц.)

**АЗАНЧАЎКА**, в., да 1981 г. у Высакаборацкім с/с Краснапольскага р-на. Ліквідавана. (Краснап.)

**АЗАРАВІЧЫ**, в., Добраўскі с/с Горацкага р-на, 25 двароў, 50 жых. (Гор.)

**АЗАРАЎКА**, в., да кан. 1990-х гг. у Княжыцкім с/с Магілёўскага р-на. Ліквідавана. (Маг.)

**АЗАРАЎКА**, п., да 1980-х гг. у Княжыцкім с/с Магілёўскага р-на. Ліквідаваны. (Маг.)

**АЗАРЫЧ**, в. Гл. в. Азарычы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**АЗАРЫЧЫ**, в., Лапаціцкі с/с Слаўгарадскага р-на, вядом. з 1560 г., 20 двароў, 27 жых., дом сац. пасл., 2 старажытн. стаянкі, гарадзішча ва ўр. Гарадок (Глінішча). Бр. магіла сав. воінаў. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Слаўг.)

**АЗЕР'Е**, в., Заходскі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з 1560 г. як с. Азёры, 27 двароў, 45 жых. (Шкл.)

**АЗЁРАЎКА**, в., з 1920-х гг. у Трасцінскім с/с Хоцімскага р-на, 1 двор, 1 жых. Вар. назвы – в. Азяроўка. (Хоц.)

**АЗЁРНАЕ**, ур., с.-г. угоддзі, вакол прудоў, па р. Парасіца, уздоўж вул. Азёрная ў г. Горкі. Вар. назвы – Вазёрнае. (Гор.)

**АЗЁРНАЯ**, в., да 1975 г. у Трасцінскім с/с Хоцімскага р-на. Далуч. да в. Трасціно. Да 1964 г. – в. Мужычок. (Хоц.)

**АЗЕРСКАЕ**, п., да 1930-х гг. у Гіжэнскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**АЗЕРЦЫ**, в., Лазовіцкі с/с Клімавіцкага р-на, 2 двары, 5 жых. (Клім.)

**АЗЕРШЧЫНА**, ур., лясное, на пр. бер. р. Сож, каля в. Аляксандраўка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**АЗЁРЫ**, в., Бортнікаўскі с/с Бабруйскага р-на, 23 двары, 50 жых., ф. (Бабр.).

**АЗЁРЫ**, в., да пач. XX ст., у Бабруйскім р-не, каля в. Мальева. Ліквідавана. (Бабр.)

**АЗЁРЫ**, в., Ляснянскі с/с Круглянскага р-на, вядом. з XVI ст., 14 двароў, 16 жых., ф. Кург. могільнік. (Кругл.).

**АЗЁРЫ**, ур., хмызова-балотнае, на м. б. в. Азёры, на лев. бер. р. Бярэзіна Бабруйскага р-на. (Бабр.).

**АЗЕРЫШЧА**, в. Гл. в. Серкаўка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**АЗОЕЎКА**, в., Сялецкі с/с Касцюковіцкага р-на, 15 двароў, 23 жых. (Касц.)

**АЗЯРКІ**, в., да 1940-х гг. у Глускім р-не. Ліквідавана. Радз. А. Крукоўскага, бел. геолага. (Глуск.)

**АЗЯРОЎКА**, в. Гл. в. Азёраўка Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**АЗЯРОЎКА**, вдсх., на р. Жадунька (бас. р. Беседзь), паміж г.п. Хоцімск і в. Азяроўка Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**АЗЯРОЎКА**, ур., с.-г. угоддзі, паміж г.п. Хоцімск і в. Азяроўка, па р. Жадунька. Пл. 750 га (укл. вдсх.). (Хоц.)

**АЗЯРУТА**, ур., с.-г. угоддзі, заліўны луг з невялік. сажалкай, в. Немерка Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**АЗЯРЦО**, л.м., за 2 км на У ад в. Післяціна Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**АЗЯРЫНА**, в., да 1944 г. у Жаліўскім с/с Чавускага р-на. Спалена фашыстамі. (Чав.)

**АЗЯРЫНА**, вдсх., на руч. Будкаўка, на ПнЗ ад в. Галоўчын Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**АЗЯРЫНА**, п., да 1962 г. у Жаліўскім с/с Чавускага р-на. Далуч. да в. Радучы. (Чав.)

**АЗЯРЫНА**, п., у XX ст. у Чавускім р-не. Ліквідаваны. (Чав.)

**АЗЯРЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, за 3 км на ПдЗ ад в. Радучы Чавускага р-на. (Чав.)

**АЗЯРЫШЧА**, в., Лапіцкі с/с Асіповіцкага р-на, 14 двароў, 21 жых. Кург. могільнік. (Асіп.)

**АЗЯРЫШЧА**, зак., мясц. знач., гідрал., у Чавускім р-не, з 1993 г., за 1,5 км на Пн ад в. Асінаўка, за 2,5 км на ПнУ ад в. Быкава. Пл. 93 га. Водаахоўн. знач., тарфянік, рэгулятар стоку. (Чав.)

**АЗЯРЫШЧА**, рад., торфу, за 1,5 км на Пн ад в. Асінаўка Чавускага р-на. Пл. 93 га. Зап. торфу 268 тыс. т. Не распрацоўв. (Чав.)

**АЗЯРЫШЧА**, руч., левы прыт. р. Мяртвіца (бас. р. Чорная Натапа). Даўж. каля 4 км. Выток і вусце каля в. Луты Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**АЗЯРЫШЧА**, ур., в. Гаўрыленка Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**АЗЯРЫШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, заліўны луг, за 0,2 км на Пд ускр. в. Мікадзімава Горацкага р-на. (Гор.)

**АЗЯРЫШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, на 3 ад в. Новы Быхаў Быхаўскага р-на. (Бых.).

**АЗЯРЫШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, на 3 ад в. Хралішчава Круглянскага р-на. (Кругл.)

**АЗЯРЭДЗІШЧА**, ур., лясное, на лев. бер. Канава Корчанка, за 2 км на ПнЗ ад в. Рудня Глускага р-на. (Глуск.)

**АЗЯРЭЦ**, в., да 1993 г. у Мокраўскім с/с Касцюковіцкага р-на. Ліквідавана. (Касц.)

**АЗЯРЭЦ**, п., да 1920-х гг. у Гіжэнскім с/с Слаўгарадскага р-на. Далуч. да в. Гіжэнка. (Слаўг.)

**АЗЯРЭЦ**, п., частка в. Гіжэнка Слаўгарадскага р-на. Вар. назвы – Вазярэц, Вызярэц, Зярэц. (Слаўг.)

**АІР**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на Пн ад в. Кішчыцы Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**АКАДЭМГАРАДОК**, мкр-н, ПнУ частка г. Горкі Горацкага р-на. (Гор.)

**АКАДЭМІЧНЫЯ АГАРОДЫ**, с.-г. угоддзі БДСГА, на тэр. БДСГА у г. Горкі. (Гор.)

**АКАДЭМІЯ**, мкр-н, Акадэмгарадок, ПнУ частка г. Горкі. (Гор.)

**АКІМАВА БАЛОТА**, балота, верхавое, на Пн ад в. Бродак Крычаўскага р-на, каля б. х. Акімаў. Вар. назвы – Гарэлае Балота. (Крыч.)

**АКІМАЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Звянчатка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**АКІМАЎ**, х., да 1930-х гг. у Маляціцкім с/с Крычаўскага р-на. Ліквідаваны. (Крыч.)

**АКОЛІЦА ПЯЧАРЫ**, в. Гл. в. Пячары Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**АКОЛІЦА**, в. Гл. в. Ваколіца Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**АКОЛІЦА**, в., Гарохаўскі с/с Бабруйскага р-на, 10 жых. (Бабр.)

**АКОЛІЦА**, руч. Гл. руч. Ваколіца Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**АКОП ШАНЦЫ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Сапяжынка Быхаўскага р-на. На м. акопаў 1812 г. (Бых.)

**АКОП**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,3 км ад в. Зелянковічы, каля дарогі Зелянковічы – Зубарэвічы. Гарадзішча. Вар. назвы – ур. Горкі Глускага р-на. (Глуск)

**АКОП**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Гарадок Заводскаслабодскага с/с Магілёўскага р-на. Гарадзішча. (Маг.)

**АКОП**, ур., хмызов., за 7,5 км на ПдЗ ад в. Даколь. Гарадзішча Глускага р-на. (Глуск)

**АКОПЫ**, акопы, ва ўр. Высокі Бераг, каля в. Сялец Быхаўскага р-на. (Бых.)

**АКОПЫ**, л.м., на У ад в. Обча Бабруйскага р-на. Кург. могільнік. Мясц. – назва Курганы. (Бабр.)

**АКОПЫ**, ур., с.-г. угоддзі, на пр. бер. р. Гнілка, у сутоку рр. Гнілка і Друць, у в. Радча Круглянскага р-на. Селішча. (Кругл.)

**АКРУГА**, ур., лясное, вакол в. Ясная Паляна Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**АКСЁНАВА**, л.м., за 0,2 км на Пд ад в. Макеевічы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**АКСЁНАЎКА**, ур., с.-г. угоддзі, за 2 км на Пд ад в. Чырвоная Слабада Быхаўскага р-на. Пл. каля 100 га. (Бых.)

**АКСЁНАЎКА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Хачынка Быхаўскага р-на. (Бых.)

**АКСЁНАЎКА**, х., да пач. 1930 гг. у Чырвонаслабодскім с/с Быхаўскага р-на. Ліквідаваны. (Бых.)

**АКСЕНЬКАВІЧЫ**, в., Запольскі с/с Бялыніцкага р-на, вядом. з XVIII ст., 13 двароў, 19 жых., дом сац. пасл., крама, ф. Бр. магіла сав. воінаў і парт., магіла партызана. Часткова спалена фашыстамі ў 1943 г. У XIX ст. – дзягцярня. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Бял.)

**АКСІННІН ХУТАР**, ур., лясное, на ПнУ ад в. Слабада, каля в. Елькаўшчына Круглянскага р-на. (Кругл.)

**АКСІННІНА КУПЕЛА**, сажалка. Гл. Аксінніна Сажалка Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**АКСІННІНА САЖАЛКА**, сажалка, у ц. в. Ясная Паляна (Нецкаў) Чэрыкаўскага р-на. Вар. назвы – Аксінніна Купела. (Чэр.)

**АКУЛА**, л.м., за 2,5 км на Пн ад в. Кісялёва Буда Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**АКУЛА**, с.-г. угоддзі, каля лесу, за 3 км на Пн ад в. Кісялёва Буда Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**АКУЛЕНКА**, руч., пр. прыт. р. Асліўка (бас. р. Друць) Круглянскага р-на. Даўж 3 км. Выток і вусце каля в. Мікуленка. Вар. назвы – Мікулінка. (Кругл.)

**АКУЛІНЦЫ**, в., Сухароўскі с/с Магілёўскага р-на, 4 двары, 4 жых., ф. (Маг.)

**АКУНЁЎКА**, в., Гарадзішчанскі с/с Шклоўскага р-на, ц. ААТ "Новае–Юбілейнае", вядом. з XVII ст., 107 двароў, 326 жых., п/а, АТС, аддз. ААБ "Беларусбанк", ФАП, шк.-сад, клуб, б-ка, КПП, крама, мал.-тав. к-с. (Шкл.)

**АКУНЁЎКА**, х., да 1920-х гг. у Гарадзішчанскім с/с Шклоўскага р-на. Ліквідаваны. (Шкл.)

**АКУНЁЎСКАЕ БАЛОТА**, ур., леса-балотнае, на З ускр. в. Акунёўка Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**АКУНЁЎСКІ С/С**, с/с Шклоўскага р-на, у 1924 – 1927 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Шклоўскім р-не Магілёўскай акр., у 1927 перайменав. у Сліжаўскі с/с. (Шкл.)

**АКУШКІ**, в., Ходараўскі с/с Горацкага р-на, 10 двароў, 20 жых., ф. (Гор.)

**АКЦЯБР**, в., да 1990-х гг. у Таўкачоўскім с/с Шклоўскага р-на. Ліквідавана. (Шкл.)

**АКЦЯБР**, п., Вяззеўскі с/с Асіповіцкага р-на, 10 двароў, 13 жых. (Асіп.)

**АКЦЯБР**, п., да 1990-х гг. у Лабанаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на. Ліквідаваны. (Чэр.)

**АКЦЯБР**, п., да 1999 г. у Сідараўскім с/с Краснапольскага р-на. Ліквідаваны. (Краснап.)

**АКЦЯБР**, п., да 2009 г. у Гіжэнскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. Вар. назвы – п. Красны Акцябр, Чырвоны Кастрычнік. (Слаўг.)

**АКЦЯБР**, п., Кавалёўскі с/с Бабруйскага р-на, 41 двор, 118 жых. (Бабр.)

**АКЦЯБР**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,2 км на ПдЗ ад в. Барыскавічы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**АКЦЯБР**, ур., с.-г. угоддзі, за 3,6 км на У ад в. Баркі II Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**АКЦЯБРСК**, в., Акцябрскі с/с Клічаўскага р-на, 54 двары, 122 жых., ФАП, клуб, крама, аграсядз. "Новіка", ф. Бр. магіла сав. воінаў і партызан. Да 1964 г. – в. Кабылянка. (Кліч.)

**АКЦЯБРСКАЕ**, рад., мелу, на ПдЗ ускр. г. Крычаў Крычаўскага р-на. Звяз. з адклад. туронскага ярусу. Персп. зап. 23,9 млн. т. Магутн. 12,0-19,0 м. Мел белы, светла-шэры шчыльны, зрэдку трэшчынаваты. Не распрацоўв. (Крыч.)

**АКЦЯБРСКІ ДУБ–ВОЛАТ**, п. п., рэсп. знач. з 1963 г., у Асіповіцкім р-не. Узр. больш за 180 год, выш. 37 м, дыям. 1,3 м. (Асіп)

**АКЦЯБРСКІ КАНАЛ**, канал, меліярац., пр. прыт. р. Нясята (бас. р. Дняпро). Даўж. 7 км. Пачын. за 1,7 км на ПнУ ад в. Новае Сяло, вусце за 1 км на Пд ад в. Асінаўка Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**АКЦЯБРСКІ С/С**, с/с Клічаўскага р-на, на З р-на (ц. в.Стары Востраў). Перайменав. 10.09.1964 г. з б. Кабылянскага с/с Кіраўскага р-на. З 06.01.1965 г. у Клічаўскім р-не. З 18.02.1972 г. Ц. с/с – в. Стары Востраў. СВК "К. імя Тэльмана" (в. Стары Востраў). 8 снп, 259 двароў, 579 жых. (Кліч.)

**АКЦЯБРСКІ**, адм. гарадскі р-н, у г. Магілёў. Гл. р-н Кастрычніцкі. (Маг.)

**АКЦЯБРСКІ**, п., да 1976 г. у Чырванабудскім с/с Крычаўскага р-на. Ліквідаваны. (Крыч.)

**АКЦЯБРЫНА**, в., Ланькаўскі с/с Бялыніцкага р-на, 3 двары, 4 жых. Да 1964 г. – назва в. Царковішча. (Бял.)

**АЛА**, в., Баравіцкі с/с Кіраўскага р-на, вядом. з XVIII ст., 5 двароў, 15 жых., дом сац. пасл. У 1897 г. – 32 двары, 193 жых., у 1909 – 28 двароў, 209 жых. Спалена фашыстамі ў 1944 г. Пасля вайны адноўлена. (Кір.).

**АЛА**, р., у Кіраўскім і Бабруйскім р-нах Магілёўскай і ў Гомельскай абл., левы прыт. р. Бярэзіна (бас. р. Дняпро). Даўж. 100 (у Кіраўскім р-не – 34, Бабруйскім – 28) км. Пл. вдзб. 1230 км². Выток за 1,2 км на З ад в. Віленка (руч. Віленка) Кіраўскага р-на, вусце ў Светлагорскім р-не Гомельскай вобл. Гал. пр.: Беліца, Любіца (справа). Каля в. Міхалёва Бабруйскага р-на – наліўн. сажалка (пл. 15 га). (Бабр., Кір.)

**АЛАДЗЕНКА**, в., да 1977 г. у Кручанскім с/с Круглянскага р-на. Ліквідавана. (Кругл.)

**АЛАДЗЕНКА**, ур., захмызав. с.-г. угоддзі, за 2 км на З ад в. Дарожкавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**АЛАДЗІНКА**, ур., с.-г. угоддзі, па вул. Аладзінка, у в. Елькаўшчына Круглянскага р-на. (Кругл.)

**АЛЕГАНЬКАВЫ КУСТЫ**, ур., захмызаваныя с.-г. угоддзі, у в. Шароеўка Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**АЛЕЕЎШЧЫНА**, р., левы прыт. р. Хоцішча (бас. р.Дняпро). Даўж. 4 км. Вусце каля б. в. Дуброўка Слаўгарадскага р-на, выток – Безыменнае воз. (Слаўг.)

**АЛЕЕЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, на З ад б. в. Кульшычы Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**АЛЕЕЎШЧЫНА**, х., да 1930-х гг. у Кульшыцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**АЛЕЙНІКАВА**, в., да XX ст. у Дрыбінскім р-не. Ліквідавана. (Дрыб.)

**АЛЕЙНІКАЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, па дарозе Дараганава-Камары, у в. Дараганава Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**АЛЕЙНІКАЎ**, х., да 1920-х гг. у Дараганаўскім с/с Асіповіцкага р-на. Ліквідаваны. (Асіп.)

**АЛЕКСАНДРОВА**, в., Ваўкавіцкі с/с Чавускага р-на, вядом. з XVIII ст., 15 двароў, 25 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². (Чав.)

**АЛЕКСАНДРОВА**, в., Круглянскі с/с Круглянскага р-на, вядом. з XIX ст., 3 двары, 8 жых. Старажытн. курган. Спалена фашыстамі ў 1944 г. Пасля вайны адноўлена. (Кругл.)

**АЛЕКСАНДРОЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, 2 калодзежы, дзікі сад, за 1 км на ПнЗ ад в. Папоўцы Чавускага р-на. Вар. назвы – Чортаў Хутар. (Чав.)

**АЛЕКСАНДРОЎ**, в., да 1990 г. у Краснаслабодскім с/с Быхаўскага р-на. Адселена. (Бых.)

**АЛЕКСАНДРОЎ**, в., Семукацкі с/с Магілёўскага р-на, 24 двары, 29 жых. (Маг.)

**АЛЕКСАНДРОЎ**, п., Семукацкі с/с Магілёўскага р-на, 3 двары, 3 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Маг.)

**АЛЕКСАНДРОЎ**, фальв., у кан. XIX ст. – 1920-х гг. Далуч. да в. Александрова Чавускага р-на. (Чав.)

**АЛЕКСАНДРОЎ**, х., у 1880 – 1920-х гг. у Ваўкавіцкім с/с. Далуч. да в. Александрова Чавускага р-на. (Чав.)

**АЛЕКСАНДРОЎКА**, в., Жаліўскі с/с Чавускага р-на, вядом. з XIX ст., 20 двароў, 35 жых. У 1847 г. – 23 жых. Спалена фашыстамі ў 1944 г. Пасля вайны адноўлена. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Чав.)

**АЛЕКСАНДРОЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Міхайлавічы Горацкага р-на. (Гор.)

**АЛЕКСАНДРОЎШЧЫНА**, х., да 1930-х гг. у Маслакоўскім с/с Горацкага р-на. Ліквідаваны. (Гор.)

**АЛЕКСАНДРЫЙСКАЕ**, рад., пясч.-жвір. матэр., на Пн ад в. Александрыя Шклоўскага р-на. Зап. 2,8 млн. м². Магутн. 1,0–10,0 м. Распрацоўв. (Шкл.)

**АЛЕКСАНДРЫЙСКІ С/С**, с/с Шклоўскага р-на, на Пн р-на, з ц. у в. Вялікі Мяжнік. Утвор. 20.08.1924 г. у Копыскім р-не Аршанскай акр., з 26.07.1930 у Копыскім р-не, з 08.07.1931 у Шклоўскім р-не., з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. ААТ: "Александрыйскае" (в. Александрыя). 18 снп, 625 двароў, 1490 жых. (Шкл.)

**АЛЕКСАНДРЫЯ ДРУГАЯ, АЛЕКСАНДРЫЯ II**, в., у 1939 – 1950-х гг. на м. хутароў. Аб'ядн. з в. Александрыя I Шклоўскага р-на. Раней сядз. бацькоў першага Прэзідэнта РБ А. Лукашэнкі. (Шкл.)

**АЛЕКСАНДРЫЯ ПЕРШАЯ, АЛЕКСАНДРЫЯ I**, в., у 1930 – 1950-х гг. у Александрыйскім с/с. Аб'ядн. з в. Александрыя II Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**АЛЕКСАНДРЫЯ**, в., Александрыйскі с/с Шклоўскага р-на, ц. ААТ "Александрыйскае", вядом. з XVII ст., 215 двор, 583 жых., п/а, АТС, аддз. ААБ "Беларусбанк", урач. амбул., б-ца, ветуч-к, СШ (з 1886 г., новы буд. з 1996; вучыўся, а потым выкл. гіст. і геаграф. А. Лукашэнка), д/с № 14, ц. культ. і досуг., ДК, б-ка, гатэль, лазня, ФАК, КПП, 4 крамы, кавярня, стал., пост ДАІ, МНС, МТФ, СТФ, ст. водазабесп. і каналізац., ачышчальн. збуд. У 1645 г. – ц. войт., з 1775 – належ. С. Зорычу, у 1783 – 1784 – мяст. У 1812 г. дзейн. атрад Дз. Давыдава. У 1886 г. – 312 жых. З 1924 г. – Ц. с/с у Копыскім р-не, з 08.07.1931 у Шклоўскім р-не. У 1969 г. далуч. п. Александрыя. Ад назвы вёскі – назва Александрыйскага міжледавікоўя – з кан. бярэзінск. да пач. дняпр. ледавікоўя (460 – 320 тыс. год назад; асабліва добра прагляд. па адклад. ва ўр. Мацвееў Рог). (Шкл.)

**АЛЕКСАНДРЫЯ**, п., да 1969 г. у Александрыйскім с/с Шклоўскага р-на. Далуч. да в. Александрыя. (Шкл.)

**АЛЕКСАНДРЫЯ**, ур, захмызав. с.-г. угоддзі, на З ад в. Бахань Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**АЛЕКСАНДРЫЯ**, фальв., да 1930-х гг. у Баханскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**БАШАРЫНА ПОЛЕ**, ур. Гл. ур. Чорная Гразь, у в. Старая Каменка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**БАШКЕЕЎКА**, ур., лясное, за 2,5 км на ПнУ ад в. Цітаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БАШКІРАЎКА**, в., Гарадзецкі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з XIX ст., 17 двароў, 35 жых., мал.-тав. к-с. У XIX ст. – вінакурны з-д, млын. (Шкл.)

**БАШКІРАЎКА**, х., да 1920-х гг. у Гарадзішчанскім с/с Шклоўскага р-на. Далуч. да в. Башкіраўка. (Шкл.)

**БАШКОЎ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Смаліца Быхаўскага р-на. (Бых.)

**БАЯВІК**, в. Гл. в. Аніліна, Анэліна Быхаўскага р-на. (Бых.)

**БАЯВЫ ПАСЁЛАК**, ур., с.-г. угоддзі, за 2 км на ПдЗ ад в. Звянчатка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БАЯВЫ**, п., да 1982 г. у Кісялёвабудскім с/с Клімавіцкага р-на. Ліквідаваны. (Клім.)

**БАЯКОВА**, воз., за 1 км ад в. Яноўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БАЯНАВА**, в., Клетненскі с/с Глускага р-на, вядом. з XVIII ст., 31 двор, 35 жых. (Глуск.)

**БАЯНАВІЦКІ**, канал., меліярац., пр. прыт. р. Даколька (бас. р. Прыпяць), у Глускім р-не. Даўж. 13 км. Пач. за 2,5 км на З ад в. Бабровічы, вусце за 5 км ад в. Барбарова. (Глуск.)

**БАЯНОЎСКАЯ КАНАВА**, канал. Вар. назвы – канал Баянавіцкі Глускага р-на. (Глуск)

**БАЯРСКАЯ ГАРА**, ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на Пн ад в. Ігнатаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БАЯРСКАЯ ДАРОГА**, дарога, Сялец – Баяры Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**БАЯРСКІ БУГОР**, ур., с.-г. угоддзі, паміж р. Сож і воз. Лучнае. Гарадзішча. Вар. назвы – ур. Селішча. (Клім.)

**БАЯРШЧЫНА**, в., да 1980-х гг. у Васаўскім с/с Бабруйскага р-на. Ліквідавана. (Бабр.)

**БАЯРЫ**, в., Лабковіцкі с/с Крычаўскага р-на, 2 двары, 3 жых. (Крыч.)

**БАЯРЫ**, в., Сычкаўскі с/с Бабруйскага р-на, 38 двароў, 56 жых., 2 крамы. Бр. магіла сав. воінаў, кург. могільнік. (Бабр.)

**БДЗІЧ**, р., старажытн. назва р. Пціч Глускага р-на. (Глуск.)

**БЕГУНОВА**, ур., лясное, на ПдЗ ад в. Шапялевічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БЕЖАНКА**, р., мясц. назва р. Бежыца Глускага р-на. (Глуск)

**БЕЖАНКА**, уч-к р. Пціч з хутк. цячэн., на Пн ад в. Пціч Глускага р-на. (Глуск)

**БЕЖАНКІН ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Дзямідавічы Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**БЕЖЫЦА**, р., левы прыт. р. Пціч (бас. р. Прыпяць), у Глускім р-не. Даўж. 15 км. Выток каля в. Крукаўшчына, вусце за 2 км на У ад в. Бярозаўка. Рэчышча ад вытоку і на прац. 5,2 км каналізав. (Глуск.)

**БЕЗНАЗОЎНАЕ ВОЗЕРА**, вдсх., на р. Добасна (бас. р. Дняпро), каля п. Няпгун Кіраўскага р-на. (Кір.)

**БЕЗНАЗОЎНАЕ ВОЗЕРА**, воз., бас. Дняпра, за 0,1 км на З ад чыг., за 1 км на ПдЗ г. Быхаў. Селішча. (Бых.)

**БЕЗНАЗОЎНАЕ ВОЗЕРА**, воз., бас. р. Дняпро, на ПдЗ г. Быхаў, на З ад чыгункі. (Бых.)

**БЕЗНАЗОЎНАЕ ВОЗЕРА**, воз., старык, у Быхаўскім р-не, на лев. бер. р. Дняпро, за 0,8 км на Пд дарогі Вараніно – Быхаў. (Бых.)

**БЕЗНАЗОЎНАЕ**, вдсх., паміж вв. Арэхаўка і Чаравач Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**БЕЗНАЗОЎНАЕ**, воз., на Пн в. Сялец Горацкага р-на, бас. р. Пална, праточн. Пл. 0,16 км². Даўж. 0,8, шыр. 0,3 км. (Гор.)

**БЕЗНАЗОЎНЫ**, руч. Гл. руч. Вудажка Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЗНАЗОЎНЫ**, руч., бас. Старога Возера, упад. у Старое Возера, злів. з двух руч. Адзін з іх з ур. Выганка Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**БЕЗНАЗОЎНЫ**, руч., левы прыт. р. Вабіч (бас. р. Друць). Даўж. 3 км. Выток на Пн ад в. Паўлінка, вусце за 1 км на З ад в. Рудня Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**БЕЗНАЗОЎНЫ**, руч., левы прыт. р. Варонінка (бас. р. Дняпро). Даўж. 5 км. Выток і вусце каля в. Перакладавічы Быхаўскага р-на. (Бых.)

**БЕЗНАЗОЎНЫ**, руч., левы прыт. р. Добрасць, выток і вусце каля в. Пушкары Крычаўскага р-на. Даўж. 2,1 км. (Крыч.)

**БЕЗНАЗОЎНЫ**, руч., левы прыт. р. Друць (бас. Дняпро), у Быхаўскім р-не. Даўж. 11 км. Выток на ПнУ ад в. Цвердава Быхаўскага р-на, на мяжы з Магілёўскім р-нам, вусце за 6 км на

3 ад в. Цвердава. Стараж. назва руч. Тавердаў. (Быx.)

**БЕЗНАЗОЎНЫ**, руч., левы прыт. р. Проня. Даўж. 8 км. Выток на У ад г.п. Дрыбін, вусце ў г.п. Дрыбін. Раней назвы – руч. Дрыбна, Дрыбня. (Дрыб.)

**БЕЗНАЗОЎНЫ**, руч., пр. прыт. р. Вабіч (бас. р. Друць). Даўж. 9 км. Выток на ПнЗ ад в. Галоўчын, вусце ў в. Галоўчын Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**БЕЗНАЗОЎНЫ**, руч., пр. прыт. р. Крупня, пераўтвор.у канаву у 1980 г. За 1 км на У ад в. Муравіль. (Касц.)

**БЕЗНАЗОЎНЫ**, руч., пр. прыт. р. Лахва (бас. р. Дняпро). Даўж. 4 км. Выток і вусце ў р-не в. Касічы Быхаўскага р-на. (Быx.)

**БЕЗНАЗОЎНЫ**, руч., пр. прыт. р. Ліпаўка (бас. р. Дняпро). Даўж. каля 3 км. Выток і вусце каля в. Заполле Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**БЕЗНАЗОЎНЫ**, руч., пр. прыт. р. Чорная Натапа (бас. р. Сож). Даўж. 2 км. Выток і вусце каля в. Ананічы Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**БЕЗНАЗОЎНЫ**, руч., пр. прыт. руч. Выдлінка (бас. р. Раста). Даўж. 3 км. Выток і вусце – каля в. Вайнілы Чавускага р-на. Перасых. (Чав.)

**БЕЗЫМЕННАЕ ВОЗЕРА**, воз., у бас. р. Дняпро, на ПдЗ ад б. в. Кульшычы Слаўгарадскага р-на. Выток р. Алееўшчына. (Слаўг.)

**БЕЗЫМЕННАЕ ВОЗЕРА**, воз., у бас. р. Чарнаводка ў Круглянскага р-на. Вар. назвы – Палыкавіцкае. (Кругл.)

**БЕЗЫМЕННАЕ**, воз., возерападоб. пашыр. на руч. – пр. прыт. р. Белая Натапа, на ПнЗ в. Капачы Мсціслаўскага р-на. Вар. назвы – Казінскае. (Мсц.)

**БЕЗЫМЕННАЕ**, воз., старык, на лев. бер. р. Сож, в. Ушакі Чэрыкаўскага р-на, каля воз. Вялікае. (Чэр.)

**БЕЗЫМЕННАЕ, ПАЛЫКАВІЦКАЕ ВОЗЕРА**, воз., у бас. р. Чарнаводка, за 17 км на З ад г. Шклоў, на мяжы з Круглянскім р-нам. Пл. 0,3 км². Найб. глыб. 2 м. Пл. вдзб. 9,6 км². (Шкл.)

**БЕЗЫМЕННАЯ ВЫШЫНЯ**, пагорак, паміж р. Дняпро і воз. Плавун, вв. Даманова і Дубаўка Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч. Вар. назвы – р. Васькоўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., левы прыт. р. Арціслаўка (бас. р. Дняпро). Даўж. 7 км. Выток на Пд, вусце на З ад в. Дубраўка Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., левы прыт. р. Арціслаўка (бас. р. Дняпро). Даўж. 9 км. Выток і вусце каля в. Плешчыцы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., левы прыт. р. Глінец (бас. р. Сож). Даўж. 2,4 км. Выток і вусце ў р-не в. Удага Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., левы прыт. р. Ельня (бас. р. Дняпро). Даўж. 5 км. Выток і вусце ў р-не б. в. Новая Ельня Краснапольскага р-на. Кург. могільнік. (Краснап.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., левы прыт. р. Капуснік (бас. р. Дняпро). Даўж. 4 км. Выток і вусце каля в. Княжыцы Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., левы прыт. р. Проня (бас. р. Дняпро). Даўж. 3 км. Выток і вусце каля в. Крукаўшчына Дрыбінскага р-на. Старажытн. стаянка. (Дрыб.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., левы прыт. р. Раста (бас. р. Дняпро). Даўж. 8 км. Выток на У ад в. Капані, вусце за 1 км на З ад в. Капані Чавускага р-на. (Чав.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., левы прыт. руч. Глінец (бас. р. Сож). Даўж. 4,5 км. Выток за 0,5 км на ПнЗ ад в. Удага, вусце за 0,7 км на Пн ад в. Удага Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., левы прыт. руч. Падол (бас. р. Бася). Даўж. 2 км. Выток на З, вусце ў в. Благаўка Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Відлінка (бас. р. Раста). Даўж. 2 км. Выток на ПнУ ад в. Атражжа, вусце на ПдЗ ад в. Атражжа Чавускага р-на. (Чав.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Вудага (бас. р. Сож). Даўж. 1,5 км. Выток і вусце ў р-не в. Ляхі Чэрыкаўскага р-на. Вар. назвы – руч. Ляхаўка. (Чэр.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Глінец (бас. р. Волчас). Даўж. каля 0,5 км. Выток і вусце на ПнЗ ад в. Зоры Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Глінец (бас. р. Сож). Даўж. 2,6 км. Выток за 1,5 км на ПдУ ад в. Лешчавіна Чэрыкаўскага р-на, вусце за 0,5 км на Пн ад в. Зоры. (Чэр.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Дамашня (бас. р. Сянна). Даўж. 3,2 км. Выток і вусце ў р-не в. Міхайлаўка Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Калініца (бас. р. Дняпро), выток і вусце у р-не г. Клімавічы. Селішча. (Клім.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Кашанка (бас. р. Проня). Даўж. 3 км. Выток і вусце каля в. Дзедня Чавускага р-на. (Чав.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Проня (бас. р. Сож). Даўж. 7 км. Выток каля в. Рабінавая Слабодка, вусце ў в. Галузы Чавускага р-на. (Чав.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Рэкта Другая. Даўж. каля 1,3 км. Выток і вусце за 5,5 км на ПдЗ ад в. Вепрын Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Сож (бас. р. Дняпро). Даўж. 7,8 км. Выток на Пд в. Вепрын з Вепрынскага воз., вусце на У в. Гронаў Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Сож (бас. р. Дняпро). Даўж. каля 4,8 км. Выток на Пн ад в. Лісань, вусце на ПнУ ад в. Вепрын Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Сож (бас. р. Дняро). Даўж. 1,3 км. Выток і вусце на Пн ад в. Ушакі Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Сож (бас. р. Дняро). Даўж. каля 5 км. Выток і вусце паміж вв. Лімень і Манастырок Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., пр. прыт. р. Сянна (бас. р. Сож). Даўж. 1 км. Выток і вусце каля б. в. Чудзяны Чэрыкаўскага р-на. Вар. назвы – руч. Чудзяна. (Чэр.)

**БЕЗЫМЕННЫ**, руч., у Чэрыкаўскім і Крычаўскім р-нах. Даўж. 4,5 км. Выток на ПнЗ ад п. Майскі Чэрыкаўскага р-на, вусце ў Крычаўскім р-не. (Крыч., Чэр.)

**БЕЗЫМЯНКА**, р., левы прыт. р. Рудзея (бас. р. Раста). Даўж. 8 км. Выток за 4 км на Пн ад в. Пароеўка, вусце на З ад в. Пароеўка Чавускага р-на. (Чав.)

**БЕЗЫМЯННАЕ ВОЗЕРА**, воз., старык, у пойме пр. бер. р. Сож, за 4 км на ПнУ ад п. Сіліна Поле Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**БЕЗЫМЯННАЯ РОШЧА**, ур. Гл. ур. Рошча Безымянная, Гай Безназоўны Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**БЕЗЫМЯННЫ**, руч. Гл. руч. Памежны Быхаўскага р-на. (Бых.)

**БЕЗЫМЯННЫ**, руч., в. Васькавічы Слаўгарадскага р-на. Вар. назвы – р. Пасека. (Слаўг.)

**БЕЗЫМЯННЫ**, руч., левы прыт. р. Асцер (бас. р. Сож). Даўж. 2 км. Выток і вусце на У ад в. Дзягавічы Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**БЕЗЫМЯННЫ**, руч., левы прыт. р. Бася (бас. р. Дняпро). Даўж. 5 км. Выток на У ад в. Шастакі, вусце за 3 км на ПдЗ ад в. Шастакі Дрыбінскага р-на (Дрыб.)

**БЕЗЫМЯННЫ**, руч., левы прыт. р. Трасна (бас. р. Дняпро), у Быхаўскім р-не. Даўж. 11 км. Выток за 8 км на У ад в. Усохі, вусце на ПнЗ в. Усохі. Магчыма, гэта р. Усаж (Усох), якая згадв. у XVII – XVIII стст. (Бых.)

**БЕЗЫМЯННЫ**, руч., пр. прыт. р. Даколька (бас. р. Пціч). Даўж. 3 км. Выток на Пд ад в. Байлюкі, вусце на Пн ад в. Байлюкі Глускага р-на. (Глуск)

**БЕЗЫМЯННЫ**, руч., пр. прыт. р. Проня (бас. р. Сож). Даўж. 6 км. Выток на Пд, вусце на У ускр. в. Дужаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**БЕЗЫМЯННЫ**, руч., пр. прыт. р. Сож (бас. р. Дняпро). Даўж. 9 км. Выток на З в. Падасінкі, вусце на ПнУ в. Зуі Крычаўскага р-на. Класічныя меандры. Вар. назвы – р. Асінка. (Крыч.)

**БЕЗЫМЯННЫ**, руч., пр. прыт. р. Сожа, выток і вусце каля в. Паклады Крычаўскага р-на. Даўж. 2 км. (Крыч.)

**БЕЗЫМЯННЫ**, руч., пр. прыт. р. Чарняўка (бас. р. Дняпро). Даўж. 4 км. Выток і вусце каля в. Трысціўка Быхаўскага р-на. (Бых.)

**БЕЗЫМЯННЫ**, руч., пр. р. Сож (бас. р. Дняпро). Даўж. 4,6 км. Каналізав. на прац. 2,8 км. Выток і вусце ў р-не в. Ганаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЕЗЫМЯННЫ**, руч., у яры Яр, пр. прыт. р. Волчас, выток і вусце у р-не в. Горкі Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**БЕЙЗЕРАЎ РАВОК**, роў, за 0,25 км на Пн ад в. Запруддзе Горацкага р-на. (Гор.)

**БЕЙЗЕРАЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, за 3 км на ПнУ ад в. Горы Горацкага р-на. Пл. каля 20 га. (Гор.)

**БЕЙЗЕРАЎ**, х., да 1920-х у Горскім с/с Горацкага р-на. Ліквідаваны. (Гор.)

**БЕКАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, за 2 км на У ад в. Паравалочня Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЕЛАВІЦА**, в., назва в. Бяседавічы на пач. XX ст. Гл. в. Бяседавічы Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**БЕЛАВОДДЗЕ**, ур., с.-г. угоддзі, на У ад в. Сяргеевічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**БЕЛАВУГАЛ**, ур., с.-г. угоддзі, поле, в. Зубры Горацкага р-на. (Гор.)

**БЕЛАВУСАЎ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, на пр. бер. р. Ельня, на ПнУ ад б. в. Новая Ельня Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**БЕЛАГАРАДОК**, назва г.п. Бялынічы ў XVI ст. (Бял.)

**БЕЛАГОРСКАЯ СЛАБАДА**, в. Гл. в. Белагорская Быхаўскага р-на. (Бых.)

**БЕЛАГОРСКАЯ**, в., старажытн., да XV ст. увах. у склад г. Быхаў, пазней Белагорская Слабада Быхаўскага р-на. (Бых.)

**БЕЛАДУБРАЎСКАЯ ПЛЁСА**, зімав. яма, на р. Беседзь, каля в. Белая Дуброва Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**БЕЛАДУБРАЎСКІ ПЛЁС**, ур. Гл. ур. Беладубраўская Плёса Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**БЕЛАДУБРАЎСКІ С/С**, с/с на ПдЗ Касцюковіцкага р-на. Утвор. 20.08.1924 г. у Касцюковіцкім р-не Калінінскай акр., з 26.09.1927 у Касцюковіцкім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Касцюковіцкім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. 16.07.1954 ліквідаваны, далуч. да Студзянецкага с/с. 08.12.1959 перайменав. у Беладубраўскі с/с. СВК "Дуброва" (а/г Белая Дуброва), "К.-с "Парыжская Камуна" (г. Касцюковічы). 17 снп, 515 двароў, 1088 жых. У зоне забруджв.глебы радыёнуклідамі ад 1 да 5 Кu/км$^2$ – 15 снп. (Касц.)

**БЕЛАЕ БАЛОТА**, балота, каля в. Беліца Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЛАЕ БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, на пр. бер. р. Пціч, за 1,2 км на ПдУ ад в. Дварэц Глускага р-на. (Глуск.)

**БЕЛАЕ БАЛОТА**, ур., леса-балотнае, паміж п. Кіраўскае і в. Жалвінец Глускага р-на. (Глуск.)

**БЕЛАЕ БАЛОТА**, ур., с.-г. угоддзі, сенажаць, у в. Скрыпліца Кіраўскага р-на. (Кір.)

**БЕЛАЕ**, балота, каля в. Маліннікі Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**БЕЛАЕ**, в. Гл. в. Белая Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**БЕЛАЕ**, ур., с.-г. угоддзі, на ПнУ г. Чавусы. (Чав.)

**БЕЛАЕ**, х., да 1930-х гг. на У ад в. Плёсы Бабруйскага р-на. Ліквідаваны. (Бабр.)

**БЕЛАЕ-ВУЗСКІ**, п., Пн частка в. Белая Дрыбінскага р-на. Вар. назвы – п. Вузскі. (Дрыб.)

**БЕЛАЕ-ЗАМАКРАНСКІ**, п., Пд частка в. Белая Дрыбінскага р-на. Вар. назвы – п. Замакранскі. (Дрыб.)

**БЕЛАЕ-ШПУЛЬНІКІ**, п., У частка в. Белая Дрыбінскага р-на. Вар. назвы – п. Шпульнікі. (Дрыб.)

**БЕЛАЗОРАЎШЧЫНА**, засц., да 1920-х гг. у Кручанскім с/с Круглянскага р-на. Ліквідаваны. (Кругл.)

**БЕЛАЗОРАЎШЧЫНА**, ур., захмызав. с.-г. угоддзі, за 1 км на У ад в. Паграбішча Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БЕЛАЛІЧКА**, р., пр. прыт. р. Рдзіца (бас. р. Дняпро). Даўж. 6 км. Выток і вусце на Пд в. Нераж Быхаўскага р-на. Селішча. (Бых.)

**БЕЛАРУСКІ**, п., да 1978 г. у Вішоўскім с/с Бялыніцкага р-на. Далуч. да в. Вішоў. Бр. магіла сав. воінаў. (Бял.)

**БЕЛАРУСКІЯ ГОРКІ**, чыг. ст. Гл. чыг. ст. Пагодзіна Горацкага р-на. (Гор.)

**БЕЛАРУСЬ**, в., з 1919 г. у Шапялевіцкім с/с Круглянскага р-на, 32 двары, 58 жых. Спалена фашыстамі ў 1941 г. Пасля вайны аднаўлена. (Кругл.)

**БЕЛАРУСЬ**, п., да 1990-х гг. у Бортнікаўскім с/с Бабруйскага р-на. Ліквідаваны. (Бабр.)

**БЕЛАХВОСТАВА ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,5 км на ПнУ ад пантону праз Сож, каля в. Крамянка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**БЕЛАЯ БЯРОЗА**, ур., лясное, за 0,3 км на ПдУ ад в. Паўлавічы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЕЛАЯ БЯРОЗА**, х., да 1920-х гг. у Лазовіцкім с/с Клімавіцкага р-на. Далуч. да в. Паўлавічы як п. Прылепаўка. Гл. п. Прылепаўка. (Клім.)

**БЕЛАЯ ВАДЗІЦА**, п., да XX ст. у Дрыбінскім р-не. Ліквідаваны. (Дрыб.)

**БЕЛАЯ ГАРА**, пагорак выш. 12 м, за 0,8 км на У ад в. Дубраўка II Шклоўскага р-на. Раней здаб. белай гліны. Гарадзішча. Могілкі. (Шкл.)

**БЕЛАЯ ГАРА**, пагорак на пр. бер. р. Сож, за 0,7 км на ПнУ ад в. Паклады Крычаўскага р-на, на Пн ад яра. Старажытн. стаянка. (Крыч.)

**БЕЛАЯ ГАРА**, пясч. пагорак, на пр. бер. р. Друць, на У в. Цяцерына Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БЕЛАЯ ГАРА**, рад., крэйды, 2 км ад в. Юзафоўка Хоцімскага р-на, на бер. р. Беседзь. (Хоц.)

**БЕЛАЯ ГАРА**, рад., мелу, уч-к рад. Гайшын Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**БЕЛАЯ ГАРА**, ур. Гл. ур. Сямёнаўка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**БЕЛАЯ ГАРА**, ур., лясное, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Бярозаўка, за 1,5 км на У ад в. Дужаўка Слаўгарадскага р-на. Кург. могільнік (ур. Курганне). (Слаўг.)

**БЕЛАЯ ГАРА**, ур., на ПнУ ускр. в. Дубраўка І Шклоўскага р-на. Гарадзішча. (Шкл.)

**БЕЛАЯ ГАРА**, ур., с.-г. угоддзі з гарадзішчам, на пр. бер. р. Дняпро, паміж вул. Вільня і Правабярэжная ў г. Быхаў. (Бых.)

**БЕЛАЯ ГАРА**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,2 км на Пд ад в. Гайшын Слаўгарадскага р-на, насупраць старыцы р. Сож. Вар. назвы – Сямёнаўскі Роў. (Слаўг.)

**БЕЛАЯ ГАРА**, ур., с.-г. угоддзі, за 5 км на У ад в. Еўдакімавічы Шклоўскга р-на. (Шкл.)

**БЕЛАЯ ГАРА**, ур., с.-г. угоддзі, па р. Беседзь, у в. Юзафова Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**БЕЛАЯ ГРЫВА**, грыва, у пойме р. Асцёр Клімавіцкага р-на, у в. Барсукі. (Клім.).

**БЕЛАЯ ГРЫВА**, пагорак, за 1,5 км на Пд ад в. Хатовіж Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЕЛАЯ ДАРОГА**, дарога, Слабада – Арэхаўка Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БЕЛАЯ ДАРОГА**, мясц. назва дарогі Казаброддзе – Замышкі Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БЕЛАЯ ДУБРОВА**, а/г, ц. с/с Касцюковіцкага р-на і СВК "Дуброва", 301 двор, 686 жых., п/а, АТС, аддз. ААБ "Беларусбанк", ФАП, СШ, д/с, ц. культуры, б-ка, пункт сац. пасл., КПП, 2 крамы, стал., лясн., 2 ф. 2 Магілы сав.воінаў, 3 стаянкі, 3 селішчы, 2 гарадзішчы, курган, кург. могільнік. У 1833 г. – 650 жых., у 1909 – 1014, у 1926 – 1025 жых. П. перасял. з вв. Астравок, Клеткі, Клеявічы. Радз.: М. Жалтакова, медыка, д.м.н.; К. Палікарповіча, археолага. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны аднаўлена. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². Да рц – 12, да чыг. ст. Камунары 16 км. (Касц.)

**БЕЛАЯ ДУБРОВА**, ур., лясное, на Пн ад в. Вохар Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЛАЯ ЛУЖА**, л. м., на ПнЗ ад в. Ясень Асіповіцкага р-на. (Асіп)

**БЕЛАЯ ЛУЖА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Зарэчча Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БЕЛАЯ НАТАПА**, р., левы прыт. р. Чорная Натапа (бас. р. Дняпро), у Мсціслаўскім р-не. Даўж. 50 км. Выток каля в. Багацькаўка, вусце на Пд ад в. Ластрыгіна. Пл. вдзб. 235 км². У верх. і сяр. плынях каналіза. (Мсц.)

**БЕЛАЯ, БЕЛАЕ**, а/г, Чэрнеўскі с/с Дрыбінскага р-на, 218 двароў, 619 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", урач. амбул., СШ, д/с "Сонейка", СДК, б-ка, сац. прытулак, КПП, 2 крамы, уч-к УКП "Жылкамгас". Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны аднаўлена. Ц. с/с у 1924 – 1959 гг. Часткі: Шпульнікі (Белае-Шпульнікі) – на У, Замакранскі (Белае–Замакранскі) – на Пд, Вузскі (Белае–Вузскі) – на Пн. (Дрыб.)

**БЕЛАЯ**, р., пр. прыт. р. Друць (бас. р. Дняпро), у Кіраўскім р-не. Даўж. 20 км. Пл. вдзб. 111 км². Выток на ПнУ ад в. Новае Заліцвінне, вусце за 1,25 км на Пн ад в. Падсёлы. Асн. пр. – р. Чарабамірка (злева). (Кір.)

**БЕЛІВЩА**, п., да 1971 г. у Жаліўскім с/с Чавускага р-на. Ліквідаваны. (Чав.)

**БЕЛІВЩА**, ур., с.-г. угоддзі, за 4 км на З ад в. Сялец Чавускага р-на. (Чав.)

**БЕЛІВЩА**, х., да 1920-х гг. у Жаліўскім с/с Чавускага р-на. Ліквідаваны. (Чав.)

**БЕЛІВЩКІ РОЎ**, роў, за 5,5 км на ПдУ ад в. Радучы Чавускага р-на. (Чав.)

**БЕЛІНКА**, в. Эсьмонскі с/с Бялыніцкага р-на, 4 двары, 9 жых. (Бял.)

**БЕЛІЦА**, р., левы прыт. р. Будлянкі (бас. р. Раста), у Магілёўскім і Чавускім р-нах. Выток на ПнУ ад в. Стужыца Нядашаўскага с/с Магілёўскага р-на, вусце – у Чавускім р-не. Гл. р. Ржаўка (Маг., Чав.)

**БЕЛІЦА**, р., пр. прыт. р. Ала (бас. р. Дняпро). Даўж. 15 км. Пл. вдзб. 126 км². Выток за 1,2 км на ПнУ ад п. Беларусь, вусце паміж вв. Мікулічы і Туркі. Рэчышча каналізав. (Бабр.)

**БЕЛІЦА**, руч., пр. прыт. р. Волчас (бас. р. Сож), у Чэрыкаўскім р-не. Даўж. 5 км. Вы-

ток і вусце ў р-не вв. Новая і Старая Беліца. Вар. назвы – Бель, Руса. (Чэр.)

**БЕЛЫ БЕРАГ**, воз., старык, лев. бер. р. Бярэзіна, на мяжы Бабруйскага і Кіраўскага р-наў, за 3 км на З ад в. Думанаўшчына Кіраўскага р-на. (Бабр.)

**БЕЛЫ БЕРАГ**, воз., старык, у бас. р. Бярэзіна, на яе лев. бер., на мяжы Бабруйскага і Кіраўскага р-наў, за 2 км на З ад в. Думаноўшчына Бабруйскага р-на. Пл. 0,5 км$^2$. 2 астравы (1 га). Пратока з р. Бярэзіна. (Бабр., Кір.)

**БЕЛЫ БЕРАГ**, зак., мясц. знач., краявідны, з 1997 г., у Бабруйскім і па мяжы з Кіраўскім р-нам, на тэр. ур. Белы Бераг Кіраўскага р-на. (Кір.)

**БЕЛЫ БЕРАГ**, пясч. пр. бер. р. Друць, на ПдУ в. Кунцы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БЕЛЫ БЕРАГ**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, на мяжы з Бабруйскім р-нам, за 2 км на З ад в. Думаноўшчына. Ва ўр. – воз. Белы Бераг, зак. Белы Бераг Кіраўскага р-на. (Кір.)

**БЕЛЫ ВУГАЛ**, ур., лясное, за 2,5 км на ПдУ ад в. Канахоўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЕЛЫ КАМЕНЬ**, в., з XVIII ст. у Бялынкавіцкім с/с Касцюковіцкага р-на, 23 двары, 42 жых. (Касц.)

**БЕЛЫ КАМЕНЬ**, валун на полі, каля в. Дзягавічы Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**БЕЛЫ КАМЕНЬ**, валун, у рэчышчы р. Беседзь, на Пн ад Хоцімск, каля Іванаўскай Рошчы Хоцімскага р-на. На глыб. 3 м – валун. (Хоц.)

**БЕЛЫ КАМЕНЬ**, ур. Гл. Камень Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**БЕЛЫ ЛОГ**, в., да 1943 г. у Запольскім с/с Бялыніцкага р-на. Спалена фашыстамі. (Бял.)

**БЕЛЫ ЛОГ**, ур., с.-г. угоддзі, за 2,3 км на ПдУ ад в. Дубраўка II Шклоўскага р-на, за 0,9 км на ПдУ ад ур. Сарвірава Балота. (Шкл.)

**БЕЛЫ МОХ**, в., Падсолтаўскі с/с Мсціслаўскага р-на, 36 двары, 82 жых., МТФ. Месца знах. скарбу. У 1897 г. – 332 жых. Радз. М. Лісоўскага, бел. мастака. (Мсц.)

**БЕЛЫ РУЧАЙ**, р., частка Парасіцы, на З г. Горкі. (Гор.)

**БЕЛЫ РУЧАЙ**, руч., пр. р. Парасіца (бас. р. Дняпро). Даўж. 8 км. Выток на Пн ад в. Глінькава Горацкага р-на, упад. у Аршанскае воз. у г. Горкі. Вар. назвы – руч. Глінькава. (Гор.)

**БЕЛЫЯ БЯРОЗЫ**, ур., лясное, за 0,5 км на З ад в. Патаронаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЕЛЫЯ БЯРОЗЫ**, х., да 1920-х гг. у Клімавіцкім р-не. Ліквідаваны. (Клім.)

**БЕЛЫЯ РЭЧКІ**, зак., мясц. знач., з 1994 г., гідрал., за 1 км на ПнУ ад в. Новае Заліцвінне, за 2 км на ПдУ ад в. Забуднянскія Хутары Кіраўскага р-на. Пл. 113 га. (Кір.)

**БЕЛЫЯ РЭЧКІ**, рад. торфу, ва ўр. Белыя Рэчкі Кіраўскага р-на. Зап. торфу 117 тыс. т. Не распрацоўв. (Кір.)

**БЕЛЫЯ РЭЧКІ**, ур., леса-балотнае, за 1 км на ПнУ ад в. Новае Заліцвінне, за 2 км на ПдУ ад в. Забуднянскія Хутары Кіраўскага р-на. (Кір.)

**БЕЛЫЯ**, в., да 1943 г. у Завалочыцкім с/с Глускага р-на. Спалена фашыстамі. (Глуск.)

**БЕЛЫЯ**, ур., лясное, за 5 км на Пн ад в. Яўсеевічы Глускага р-на. (Глуск.)

**БЕЛЬ II, БЕЛЬ ДРУГАЯ**, в., да 1976 г. у Лабковіцкім с/с Крычаўскага р-на. Ліквідавана. (Крыч.)

**БЕЛЬ III, БЕЛЬ ТРЭЦЯЯ**, в., да 1976 г. у Лабковіцкім с/с Крычаўскага р-на. Ліквідавана. (Крыч.)

**БЕЛЬ III, БЕЛЬ ТРЭЦЯЯ**, п., частка в. Бель Першая Крычаўскага р-на, ф. (Крыч.)

**БЕЛЬ, БЕЛЬ I, БЕЛЬ ПЕРШАЯ**, в., Лабковіцкі с/с Крычаўскага р-на, ц. СВК "Бель", 167 двароў, 398 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, амбул., д/с-СШ, дз. прытулак, СДК, б-ка, КПП, гандл. ц., бутэрбродная, лесапільня, аэрадром с.-г. авіяц., конеф., каўбасн. цэх, цэх па пераапрац. садавіны, ф., кацельня. Ц. с/с у 1924 – 1954 гг. Кург. могільнік. Помн. У. Леніну, сав. летчыку А. Гуменнікаву. Радз.: А. Гуменнікава; М. Бабровіча, А. Стальмахова, В. Гуменькова – балт. маракоў-паўстанцаў (1906 г.); М. Цытовіча, Гер. Сац. Працы, грунтазнаўца. (Крыч.)

**БЕЛЬ**, в., з 1976 г. Вар. назвы – в. Бель Першая Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**БЕЛЬ**, в., Заходскі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з XVII ст., 33 двары, 61 жых., свінак-с ЗАТ "Бель". У 1604 г. – с., "104 дыма". Спалена фашыстамі ў 1941 г. Пасля вайны адноўлена. (Шкл.)

**БЕЛЬ**, в., Раздзельскі с/с Мсціслаўскага р-на, вядом. з XVII ст., 31 двор, 56 жых. Гарадзішча. У 1622 г. – с., у 1897 г. – 372 жых., вятрак. (Мсц.)

**БЕЛЬ,** прып. п., на чыг. Крычаў – Магілёў Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**БЕЛЬ,** руч. Гл. руч. Беліца Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЛЬ,** ур., с.-г. угоддзі, луг, на ПдЗ ад в. Лясныя, каля в. Дудаковічы Кругянскага р-на. (Кругл.)

**БЕЛЬ,** ур., с.-г. угоддзі, поле з белай глінай, у в. Буда Горацкага р-на. (Гор.).

**БЕЛЬГА,** п., Верамейскі с/с Чэрыкаўскага р-на. Гл. п. Бельгійскі. (Чэр.)

**БЕЛЬГА,** ур. Гл. Бельговае балота Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЛЬГІЙСКІ,** п., Верамейскі с/с Чэрыкаўскага р-на, 7 двароў, 14 жых., дом сац. пасл. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². Вар. назвы – п. Бельга, Бяльгійскі. (Чэр.)

**БЕЛЬГОВАЕ БАЛОТА,** ур., хмызова-балотнае, паміж п. Бельгійскі і в. Наркі Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БЕЛЬКАЎШЧЫНА,** засц., да 1920-х гг. у Кручанскім с/с Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БЕЛЬНЯ,** ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на З ад в. Роськаў Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЕЛЬСКАЕ,** рад., жалезн. балотных руд, каля в. Бель II Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**БЕЛЬСКАЕ,** рад., мін. вод, у в. Бель II Крычаўскага р-на. Дэбіт 9,5 м³/сут. Вада хларыдна-натрыевая. (Крыч.)

**БЕЛЬСКАЯ ГАРА,** пагорак, на ПнУ ад в. Бель I Крычаўскага р-на. 180,0 м н.у.м. (Крыч.)

**БЕЛЬСКІ С/С,** с/с, у 1924 – 1954 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Крычаўскім р-не Калінінскай акр., з 26.09.1927 у Крычаўскім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Крычаўскім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. 16.07.1954 г. тэр. с/с далуч. да Лабковіцкага с/с Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**БЕЛЬСКІ С/С,** с/с. Гл. Кішчыцкі с/с Дрыбінскага р-на. Ліквідаваны 16.09.1959 г. Тэр. далуч. да Любіжскага с/с Горацкага р-на і Чэрнеўскага с/с Шклоўскага р-на. (Дрыб.)

**БЕЛЬШЧЫНА,** ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на З ад в. Дубраўка Першая Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**БЕЛЯЁЎСКАЯ КАЦВІНА,** лагчына сярод поля, у в. Антонаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**БЕНКЕНДОРШЧЫНА,** в. Гл. в. Кабіна Гара Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**БЕНКЕНДОРШЧЫНА,** маёнтак, у 1828 – 1917 гг. у Кабінагорскім с/с Слаўгарадскага р-на. Далуч. да в. Кабіна Гара. Мясц. назва Мікіндоршчына. (Слаўг.)

**БЕРАБАЛАХ,** ур., с.-г. угоддзі, каля в. Слопішча Асіповіцкага р-на, каля дарогі Мяжное – Слопішча. (Асіп.)

**БЕРАГ,** ур., с.-г. угоддзі, поле СВК імя С. Будзённага Клічаўскага р-на. Пл. 12,8 га. (Кліч.)

**БЕРАГІ,** ур., с.-г. угоддзі, поле СВК імя С. Будзённага Клічаўскага р-на. Пл. 18,8 га. (Кліч.)

**БЕРАЖКІ,** в., Клетненскі с/с Глускага р-на, 8 двароў, 12 жых. (Глуск.)

**БЕРАЖКІ,** ур., с.-г. угоддзі, на З ад в. Запруддзе Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БЕРАЖОК,** ур., с.-г. угоддзі, луг, на бер. р. Беседзь Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**БЕРАЖЫСТАЕ,** в., Лабковіцкі с/с Крычаўскага р-на, вядом. з XVIII ст., 24 двары, 44 жых. (Крыч.)

**БЕРАЗЕТНЯ,** в., Раздзельскі с/с Мсціслаўскага р-на, вядом. з XVI ст., 13 двароў, 19 жых. Бр. магіла сав. воінаў. Гарадзішча, селішча. У 1560 г. – ц. маёнтка, у 1798 – 1799 гг. узброен. выступы сялян. У XIX ст. – пашт. ст., карчма, у 1897 г. – 37 двароў, 238 жых. У 1930 г. арг. к.-с "Перамога". (Мсц.)

**БЕРАЗЕТНЯ,** фальв., да 1920-х гг. у Раздзельскім с/с. Ліквідаваны. У 1909 г. – 13 двароў, 125 жых. (Мсц.)

**БЕРАЗІНА ДНЯПРОЎСКАЯ,** р. Гл. р. Бярэзіна–Дняпроўская. (Бабр., Кір.)

**БЕРАЗІНА,** р., пр. прыт. р. Дняпро (бас. Чорнага мора), у Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай (Асіповіцкі, Бабруйскі, Кіраўскі, Клічаўскі р-ны), Гомельскай абл., Даўж. 613 км. Пл. вдзб. 24,5 тыс. км². Выток у Віцебскай вобл., вусце у Гомельскай. Суднаходная. Лесасплаў. Гал. пр.: Ваўчанка, Бабруйка, Брожка (справа), Вір (злева). Порт Бабруйск. (Асіп., Бабр., Кір., Кліч.).

**БЕРАЗІНА,** рачны порт, на р. Беразіна, у скл. г. Бабруйск. Вар. назвы – порт Бярэзіна. (Бабр.)

**БЕРАЗІНА,** чыг. ст., на чыг. Мінск – Жлобін, Бабруйск – Рабкор, у скл. г. Бабруйск. Вар. назвы – чыг. ст. Бярэзіна. (Бабр.)

**БЕРАЗНЯК,** ур., с-г. угоддзі, каля в. Мілейкава Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**БЕРАЗНЯКІ І, БЕРАЗЯКІ ПЕРШЫЯ,** в., да 1993 г. у Наваельнінскім с/с Краснапольс-

кага р-на. Адселена. Ц. с/с у 1924 – 1954 гг. (Краснап.)

**БЕРАЗНЯКІ II, БЕРАЗНЯКІ ДРУГІЯ**, в., да 1993 г. у Наваельнінскім с/с Краснапольскага р-на. Адселена. Бр. магіла сав. воінаў. (Краснап.)

**БЕРАЗУГА**, в., Мхініцкі с/с Краснапольскага р-на, 3 двары, 8 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². (Краснап.)

**БЕРАЗУГА**, ур., лясное, каля в. Сямёнаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЕРАЗУЙКАЎСКІ ЛУГ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Беразуйкі Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**БЕРАЗУЙКІ**, в., Сялецкі с/с Мсціслаўскага р-на, вядом. з XVI ст., 27 двароў, 41 жых. Магіла сав. воіна. У 1582 г. – с., у 1897 г. – 501 жых. (Мсц.)

**БЕРАЗУХА**, ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на У ад в. Родня Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЕРАЗЫНЯ**, р., назва р. Бярэзіна ў XV ст. (Кліч., Бабр., Кір.)

**БЕРАЗЯЦКІ С/С**, с/с Краснапольскага р-на, у 1924 – 1954 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Краснапольскім р-не Калінінскай акр., з 09.06.1927 у Краснапольскім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Краснапольскім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. 16.07.1954 г. тэр. с/с далуч. да Наваельненскага с/с. (Краснап.)

**БЕРАСНЁВА ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Бароньні Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**БЕРАСНЁЎКА**, в., Баравіцкі с/с Кіраўскага р-на, 8 двароў, 11 жых., дом сац. пасл. Радз. У. Саламахі, сцэнарыста, публіц. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. Ц. с/с у 1924 – 1954 гг. (Кір.)

**БЕРАСНЁЎКІ**, з.а., мясц. знач., з 1981 г., у верх. цяч. р. Добасна, каля в. Берасnёўка Кіраўскага р-на. (Кір.)

**БЕРАСНЁЎСКІ С/С**, с/с Кіраўскага р-на, у 1924 – 1954 гг. 16.07.1954 г. перайменав. у Хвойніцкі с/с. (Кір.)

**БЕРАСТОЎШЧЫНА**, ур., лясное, на ПнЗ в. Уланава Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**БЕРВЫ**, в., Казловіцкі с/с Глускага р-на, вядом. з XVIII ст., 4 двары, 4 жых. У 1897 г. – 10 двароў, 65 жых. (Глуск.)

**БЁРДА**, в., Патоцкі с/с Клічаўскага р-на, вядом. з XVI ст., 68 двароў, 188 жых., п/а, АТС, ФАП, НСШ, крама, спартзала, лясн., цэх п/э плёнкі, СТФ, ф. Ц. с/с у 1939 – 1960 гг. Спалена фашыстамі ў сакавіку 1943 г. Пасля вайны адноўлена. Вар. назвы – Біярда(о). (Кліч.)

**БЁРДАЎСКАЕ ЛЕСАНАСАДЖЭННЕ**, п. п. рэсп. знач., батан., з 1970 г., Клічаўскі лясгас, Бёрдаўскае лясн., кв. 19. Унік. насаджэнне грабу на Пн мяжы яго распаўсюджання. Пл. 52,7 га. Граб – каля 85 год, дуб пад 160. (Кліч.)

**БЁРДАЎСКІ С/С**, с/с Клічаўскага р-на, у 1924 – 1960 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Клічаўскім р-не Бабруйскай акр. як Ваевіцкі с/с, з 26.07.1930 у Клічаўскім р-не, 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл., у 1939 г. перайменав. у Бёрдаўскі с/с. 21.10.1960 г. тэр. с/с далуч да Клічаўскага п/с. (Кліч.)

**БЕРДЫ**, в., да XX ст. у Бабруйскім р-не. Ліквідавана. (Бабр.)

**БЕРНАТАВА ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Лука Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**БЕРНАТАЎ МОСТ**, ур., с.-г. угоддзі, каля моста праз канаву Ручэй, у в. Лука Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**БЕРЦЫНЬ**, р., пр. прыт. р. Бярэзіна (бас. р. Дняпро), у Асіповіцкім р-не. Даўж. 4,5 км. Выток на З в. Шэйпічы, вусце каля в. Чучча. (Асіп.)

**БЕСАВА БАЛОТА**, ур., леса-балотнае, паміж вв. Бескаўка, Лыкінка, Чорная Сасна, Забалоцце Мсціслаўскага р-на, да мяжы з Чавускім р-нам. Пл. больш за 1000 га. Вар. назвы – Вялікае. (Мсц.)

**БЕСЕДЗЬ**, р., у Смаленскай вобл. РФ, Хоцімскім і Касцюковіцкім р-нах Магілёўскай вобл. РБ, у Бранскай вобл. РФ, у Гомельскай вобл., левы прыт. р. Сож (бас. р. Дняпро). Даўж. 261 км. Гушч. рачн. сеткі 0,36 км/км². Выток у Смаленскай вобл., вусце у Гомельскай. Вар. назвы – р. Задунка. (Хоц., Касц.)

**БЕСКАКОВА**, в., Мазалаўскі с/с Мсціслаўскага р-на, 3 двары, 6 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Мсц.)

**БЕСКАЎКА**, в., Забалацкі с/с Мсціслаўскага р-на, 8 двароў, 12 жых. Бр. магіла сав. воінаў. (Мсц.)

**БЕСТРАНЬ**, в., Міхееўскі с/с Дрыбінскага р-на, 7 двароў, 12 жых. (Дрыб.).

**БЕСЯДСКАЕ**, рад., пяскоў, за 1,5 км на Пд ад ц. г.п. Хоцімск. (Хоц.)

**БЕСЯДСКІ ПРУДОК**, в., Трасцінскі с/с Хоцімскага р-на, вядом. з XVIII ст., 22 двары, 46 жых., дом сац. паслуг. Старажытн. стаянка, 2 селішчы. У 1858 – 1864 гг. мукамол. мануфактура. Вар. назвы – в. Бяседскі Прудок. (Хоц.)

**БЗДЗЕГ**, ур., лясное, за 1,5 км на ПдУ ад в. Андраны Мсціслаўскага р-на, каля Гарэлага балота. Вар. назвы – Лес Бздзег. (Мсц.)

**БІБІКАЎШЧЫНА**, ур., лясное, каля в. Жаролы Слаўгарадскага р-на. Вар. назвы – ур. Бібіўшчына. (Слаўг.)

**БІБІЎШЧЫНА**, ур. Гл. ур. Бібікаўшчына. (Слаўг.)

**БІБКАЎШЧЫНА**, в., Сычкаўскі с/с Бабруйскага р-на, 7 двароў, 8 жых. (Бабр.)

**БІБКАЎШЧЫНА**, прып. п. у Бабруйскім р-не, на чыг. Бабруйск – Асіповічы. (Бабр.)

**БІЗІЕВА ЛУЧКА**, ур., с.-г. угоддзі, на Пд в. Шапялевічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БІЗЮКІ**, в., у 1654 – 1941 гг. у Мазалаўскім с/с Мсціслаўскага р-на. Перайменав. у в. Майская. Гл. в. Майская. (Мсц.)

**БІЗЮКІ**, фальв., да 1920-х гг. у Мазалаўскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідаваны. (Мсц.)

**БІЛДАРАВА**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,5 км на ПдЗ ад в. Пятроўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БІР**, в., Першамайскі с/с Дрыбінскага р-на, 7 двароў, 8 жых. Месца знах. скарбу. (Дрыб.).

**БІРКІН АЭРАДРОМ**, ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на ПнУ ад в. Васькаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БІРКУЛАВА**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,5 км на ПнУ ад в. Завідаўка Горацкага р-на. (Гор.)

**БІРКУЛІХА**, частка дарогі Горы – Завідаўка, за 1,5 км на ПнУ ад в. Завідаўка Горацкага р-на. (Гор.)

**БІРУК**, частка л. м., на ПнУ ад в. Красны Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БІРУЛІ**, в., Горскі с/с Краснапольскага р-на, 4 двары, 7 жых. Бр. магіла сав. воінаў. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Краснап.)

**БІРЧА І, БІРЧА ПЕРШАЯ**, п., Бортнікаўскі с/с Бабруйскага р-на, 3 двары, 4 жых. (Бабр.)

**БІРЧА ІІ, БІРЧА ДРУГАЯ**, п., Бортнікаўскі с/с Бабруйскага р-на, 3 двары, 8 жых. (Бабр.)

**БІРЧА**, в., Бортнікаўскі с/с Бабруйскага р-на, 102 двары, 199 жых., вядом. з XVI ст., ф. Бр. магіла сав. воінаў. Вар. назвы – в. Бірчанка. (Бабр.)

**БІРЧАНКА**, в. Гл. в. Бірча Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**БІРЧАНКА**, руч., левы прыт. р. Ала (бас. р. Дняпро). Даўж. 6 км. Выток на Пд в. Бірча, вусце ў в. Бірча Бабруйскага р-на. Рэчышча каналізав. (Бабр.)

**БІСКУПКА**, в., Машчаніцкі с/с Бялыніцкага р-на, 14 двароў, 29 жых., дом сац. пасл. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Бял.)

**БІЯРДА**, в. Гл. Бёрда (Кліч.)

**БІЯРДО**, в. Гл. Бёрда. (Кліч.).

**БЛАГАВІЦКІ С/С**, с/с Чавускага р-на, у 1924 – 2009 гг. на ПнЗ р-на. Утвор. 20.08.1924 г. у Чавускім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Чавускім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. 23.12.2009 г. перайменав. у Каменскі с/с. (Чав.)

**БЛАГАВІЧЫ**, в., Каменскі с/с Чавускага р-на і СВК "Святло Кастрычніка", вядом. з 1560 г. як с., 140 двароў, 334 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, ФАП, СШ, б-ка, крама, фермер. гасп. "Прагрэс-М" (садаводства, дрэваапрац.), 2 ф. Бр. магіла сав. воінаў. Царква (XIX ст.). У 1604 г. – ц. войт., у 1785 – 532 жых., у 1797 пабуд. царква. У 1879 г. – вінакурня, млын, карчма. У 1897 г. – 933 жых., 2 кірмашы, кузня, 2 хлебазап. крамы. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. Ц с/с у 1924 – 2009 гг. (Чав.)

**БЛАГАВІЧЫ**, прып. п., на чыг. Крычаў – Магілёў Чавускага р-на. (Чав.)

**БЛАГАВІЧЫ**, фальв., у XIX ст. – 1920-х гг. у Благавіцкім с/с. Далуч. да в. Благавічы. (Чав.)

**БЛАГАДАЦЬ**, в., Кабінагорскі с/с, 9 двароў, 10 жых., дом сац. пасл. Бр. магіла сав. воінаў, помн. землякам. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². (Слаўг.)

**БЛАГАДАЦЬ**, л.м., за 1 км на Пд ад в. Буйнічы Магілёўскага р-на. Пл. 75 га. Гарадзішча. (Маг.).

**БЛАГАЎКА**, в., Гарадзішчанскі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з XVII ст., 27 двароў, 34 жых., МТФ. У 1616 г. – с. Пагост. Гарадзішча (ур. Гарадок). Спалена фашыстамі ў 1944 г. Пасля вайны адноўлена. (Шкл.)

**БЛАГАЎКА**, в., да 1975 г. у Чарняўскім с/с Хоцімскага р-на. Далуч. да в. Енаполле. (Хоц.)

**БЛАГАЎКА**, п., ПнЗ частка в. Енаполле Хоцімскага р-на, па р. Благаўка. (Хоц.)

**БЛАГАЎКА**, р., пр. прыт. р. Беседзь (бас. р. Сож). Даўж. 10 км. Выток за 1,2 км на У ад в. Мосін, вусце каля в. Енаполле Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**БЛАГІНЬ**, балота, каля в. Глініца Краснапольскага р-на. Паданне пра карэту Карла XII, што тут нібыта праваліліася. (Краснап.)

**БЛАЖКІ**, в., Ленінскі с/с Горацакага р-на, без жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Гор.)

**БЛАКІТНАЯ КРЫНІЦА**, воз. Гл. воз. Клінаўскае Слаўгарадскага р-на. Вар. назвы – Сіні Калодзеж. (Слаўг.)

**БЛАКІТНАЯ КРЫНІЦА, ГАЛУБАЯ КРЫНІЦА**, п. п., рэсп. знач. з 1985 г., за 0,3 км на ПдЗ ад б. в. Кліны Кабінагорскага с/с Слаўгарадскага р-на. Азярына дыям. 25 м, з абсадкай дубу, ліпы, вольхі чорнай, ляшчыны. Вых. з глыб. 100–200 м, прах. праз тоўшчу крэйды. Эталон чысціні пітной вады. Мінер. 197 мг/л. На Мядовы Спас, 14.08 – шмат пілігрымаў. (Слаўг.)

**БЛАКІТНАЯ КРЫНІЦА**, руч., пр. р. Галуба (бас. р. Сож). Гл. Галубая крыніца Слаўгарадскага р-на. Дэбіт 5 тыс.м³/сут. (Слаўг.)

**БЛЕУНГ**, в. Гл. в. Бліунг Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЛЕЎКА**, в., да 1964 г. у Вішоўскім с/с Бялыніцкага р-на. Перайменав.у в. Усход. Гл. в. Усход. (Бял.)

**БЛЁЎКІ**, в. Гл. в. Фашчаўка Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**БЛІЖНЕРЭЧЫЦКАЕ ВОЗЕРА**, вдсх., на руч., левы прыт. р. Волчас (бас. р. Сож), плацінкае, на Пд ад б. в. Бліжняя Рэчыца Чэрыкаўскага р-на. Пл. 29,5 га. Рыбагасп. знач. (Чэр.)

**БЛІЖНІ ВОСТРАЎ**, ур., с.-г. угоддзі, за 5 км на ПнЗ ад в. Піцер Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЛІЖНІ ЛУГ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, у в. Бярозаўка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**БЛІЖНЯЯ ПРОРВА**, ур., завадзь, на р. Зубр, на У ад в. Бароньві Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**БЛІЖНЯЯ РЭЧЫЦА**, в., да 2004 г. у Рэчыцкім с/с Чэрыкаўскага р-на. Ліквідавана. (Чэр.)

**БЛІЗКІ МОХ**, ур., невялік. балота, каля в. Зубры Горацкага р-на. (Гор.).

**БЛІЗНІЦЫ**, в., да 1948 г. у Клетненскім с/с Глускага р-на. Ліквідавана. (Глуск.)

**БЛІЗНІЦЫ**, рукаў р. Пціч, каля в. Радуцічы Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**БЛІНДАЖ**, ур., лясное, за 2 км на ПдЗ ад в. Караны Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**БЛІНКОЎ БЯРЭЗНІК**, ур., бярэзнік, у в. Антонаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**БЛІННІКАЎ ШМАТ**, ур., лясное, за 1,5 км на ПнЗ ад в. Стары Дзедзін Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЛІНОЎКА**, руч., левы прыт. р. Друць (бас. р. Дняпро). Даўж. 6 км. Выток паміж вв. Дразды і Папоўка, вусце – паміж вв. Прыгані I, -III Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БЛІЎНГ**, в., Гусаркаўскі с/с Клімавіцкага р-на, 8 двароў, 17 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. Вар. назвы – в. Блеунг, Блюм. (Клім.)

**БЛІЎНГ**, воз., ва ўр. Бліўнг Клімавіцкага р-на. Пл. 6 га. (Клім.)

**БЛІЎНГ**, ур., лясное, за 6 км ад г. Клімавічы. Пл. 989 га. Воз. Бліўнг. (Клім.)

**БЛІЎНГСКАЯ**, сажалка, за 0,5 км на Пн ад в. Бліунг Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БЛУДЗЕМЛЯ**, в., старажытн. назва в. Блудзімля Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**БЛУДЗЕМЛЯ**, руч. Др. назв. руч. Блудзімля Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**БЛУДЗІМЛЯ I, БЛУДЗІМЛЯ ПЕРШАЯ**, в., да 1940-х гг. у Забычанскім с/с Касцюковіцкага р-на. Ліквідавана. (Касц.)

**БЛУДЗІМЛЯ II, БЛУДЗІМЛЯ ДРУГАЯ**, в., да 1940-х гг. у Забычанскім с/с Касцюковіцкага р-на. Ліквідавана. (Касц.)

**БЛУДЗІМЛЯ**, в., у XVI ст. – 1993 г. у Забычанскім с/с Касцюковіцкага р-на. Ліквідавана. (Касц.)

**БЛУДЗІМЛЯ**, руч., пр. прыт. р. Дзяражня (бас. р. Сож). Даўж. 4 км. Выток на З ад в. Блудзімля Касцюковіцкага р-на. Вар. назвы в. Дзідава. (Касц.)

**БЛУДНІЦА**, ур., лясное, за 1 км на З ад в. Дзямідавічы Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**БЛУДНІЦА**, ур., лясное, за 2 км на Пд ад в. Ордаць Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**БЛЮМ**, в. Гл. в. Бліунг Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БОБРЫК**, в., да 1976 г. у Родненскім с/с Клімавіцкага р-на. Ліквідавана. (Клім.)

**БОБРЫК**, ур., лясное, за 3 км на ПнУ ад в. Казусёўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БОБРЫК**, ур., с.-г. угоддзі, за 2 км на ПдЗ ад в. Забялышын Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**БОБРЫКАВЫ ЛЯДЫ**, ур., с.-г. угоддзі, поле, у в. Буда Горацкага р-на. (Гор.)

**БОБРЫКІ**, в., да 1973 г. у Лютненскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідавана. (Мсц.)

**БОЗАК**, в., Ліпеньскі с/с Асіповіцкага р-на, 13 двароў, 17 жых., дом сац. пасл. (Асіп.)

**БОЙНЯ**, ур., лясное, у в. Дараганава Асіповіцкага р-на. Раней скатабойня. (Асіп.)

**БОКАТАЎКА**, в., Заводскаслабодскі с/с Магілёўскага р-на, 6 двароў, 6 жых. У зоне забруджв. глебаў па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Маг.)

**БОКІЯ**, в., да 1937 г. у Вішнёўскім с/с Бабруйскага р-на. Ліквідавана. (Бабр.)

**БОЛДЫРАЎКА**, п., да 1938 г. у Беладубраўскім с/с Касцюковіцкага р-на. Перайменав. у п. Марозаўка. (Касц.)

**БОЛІН**, в., да 1993 г. у Наваельнінскім с/с Краснапольскага р-на. Адселена. (Краснап.)

**БОЛІХАВА**, ур., лясное, на ПдЗ ад в. Веприн Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**БОЛЬВАР**, фальв., да 1920-х гг. у Лапаціцкім с/с Слаўгарадскага р-на, каля в. Улукі, на р. Ляснянка. Ліквідавана. (Слаўг.)

**БОЛЬШЫ АСІННІК**, ур., леса-балотнае, з зараснікамі асіны, у в. Рэкта Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**БОМ**, ур., с.-г. угоддзі, па р. Пціч, у в. Дараганава Асіповіцкага р-на. Раней пераход праз р. Пціч. (Асіп.)

**БОНАРЫ**, р., у Талачынскім р-не і па мяжы з Шклоўскім р-нам, левы прыт. р. Бярозаўка (бас. р. Дняпро). Даўж. 10 км. Выток у Талачынскім р-не, вусце на ПнЗ ад в. Баркі Другія Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**БОНДАРАВА ГАРА**, пагорак, Пд в. Цяцерына Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БОНДАРАВА**, ур., лясное, за 2 км на ПнУ ад в. Кавалёўка І Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БОНДАРАВА**, ур., лясное, каля в. Звянчатка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БОНДАРАЎ МОХ**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, у в. Рэкта Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**БОНІ**, в., Бялынкавіцкі с/с Касцюковіцкага р-на, вядом. з XVIII ст., 19 двароў, 30 жых., дом сац. пасл. (Касц.)

**БОР ГАЛЫНШЧЫНА**, л.м., на мяжы Касцюковіцкага і Краснапольскага р-наў. (Касц.)

**БОР ПАГРАННЫ**, л.м., паміж р. Бярэзіна і в. Каменка Асіповіцкага р-на. Назва пашыр. з XVI ст. (Асіп.)

**БОР ЦЫКУНЫ**, ур., лясное, на ПдЗ ад в. Саматэвічы Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**БОР**, в., да II пал. XX ст. у Ляснянскім с/с Круглянскага р-на. Вар. назвы – в. Леснічоўка. (Кругл.)

**БОР**, в., Ланькаўскі с/с Бялыніцкага р-на, 12 двароў, 15 жых. (Бял.)

**БОР**, ур. Гл. ур. Дварэц Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**БОР**, ур. Гл.ур. Дварэц Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**БОР**, ур., лясное, за 0,5 км на Пд ад в. Масцішча Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**БОР**, ур., лясное, за 1 км на Пд ад в. Вугольшчына Бялыніцкага р-на. Кург. могільнік часоў Старажытн. Русі. (Бял.)

**БОР**, ур., лясное, за 1,7 км на ПдУ ад в. Вусце Чэрыкаўскага р-на, на лев. бер. р. Сож. (Чэр.)

**БОР**, ур., лясное, каля в. Паўлавічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**БОР**, ур., лясное, на ПнЗ ад в. Дудаковічы Круглянскага р-на, каля дарогі Дудаковічы – Зубава. (Кругл.)

**БОР**, ур., лясное, на ПнЗ ад в. Мехава Круглянскага р-на. Частка Паўлаўскага лесу. (Кругл.)

**БОР**, ур., с.-г. угоддзі, на З ад в. Марцянавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БОРАН**, р., старажытн. назва р. Дняпро. Вар. назвы – р. Баран (Бых., Маг., Шкл.)

**БОРАХАВА БАЛОТА**, ур., леса-балотнае, за 1 км на ПдЗ ад в. Губіна Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**БОРАХАВА ВОЗЕРА**, сажалка, у в. Шапялевічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БОРАХАЎ МОСТ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Галоўчын Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**БОРДЗЬ**, ур., с.-г. угоддзі, паміж г. Чавусы і в. Пуцькі, за 3 км на Пн ад г. Чавусы. Рад. карбанатнай сыравіны. (Чав.)

**БОРКАВА**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,3 км на ПнЗ ад в. Яноўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БОРКІ І, БОРКІ ПЕРШЫЯ**, х., да 1920-х гг. у Баханскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**БОРКІ ІІ, БОРКІ ДРУГІЯ**, х., да 1920-х гг. у Баханскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**БОРКІ**, в., Баравіцкі с/с Кіраўскага р-на, 27 двароў, 49 жых., клуб-музей, крама. Магіла ахвяр фашызму. Мемар. к-с "Памяці спаленых вёсак Магілёўскай вобл." Спалена фашыстамі ў 1942 г. Пасля вайны адноўлена. (Кір.)

**БОРКІ**, в., да 2006 г. у Янаўскім с/с Хоцімскага р-на. Ліквідавана. (Хоц.)

**БОРКІ**, п., Абідавіцкі с/с Быхаўскага р-на, без жых. (Бых.)

**БОРКІ**, п., у 1861 – 1990-х гг. у Баханскім с/с Слаўгарадскага р-на. Перададз. Быхаўскаму РВК. У 1861 – 1939 гг. літоўск. пасяленне. (Бых.)

**БОРКІ**, пагорак, паміж вв. Падгор'е і Засмолькі Быхаўскага р-на. 156 м н.у.м. (Бых.)

**БОРКІ**, ур., асуш. с.-г. угоддзі, на пр. бер. р. Суша, за 5 км на Пд ад п. Ганчанскі Клічаўскага р-на, на мяжы з Кіраўскім р-нам. (Кліч.)

**БОРКІ**, ур., леса-балотнае, за 5 км на ПдЗ ад в. Орсічы Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**БОРКІ**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,5 км на Пд ад в. Боркі Кіраўскага р-на. (Кір.)

**БОРКІ**, ур., с.-г. угоддзі, паміж вв. Падгор'е і Засмолькі Быхаўскага р-на. (Бых.)

**БОРКІ**, х., да 1930-х гг. у Чырвонаслабодскім с/с Быхаўскага р-на, на ПдУ ад в. Ніканавічы. Ліквідаваны. (Бых.)

**БОРТНАЕ**, в., да 1943 г. у Карытненскім с/с Асіповіцкага р-на. Спалена фашыстамі разам з жых. (Асіп)

**БОРТНАЕ**, ур., с.-г. угоддзі, за 2 км на ПдУ ад в. Мяжное Асіповіцкага р-на, па дарозе Мяжное – Карытнае. Бр. магіла. (Асіп.)

**БОРТНІКАЎСКІ С/С**, с/с Бабруйскага р-на, на У р-на. Утвор. замест вол. 21.08.1925 г. у Бабруйскім Першым р-не. З 04.08.1927 г. у Бабруйскім Першым р-не і акрузе, з 26.07.1930 у Бабруйскім р-не; з 20.02.1938 у скл. Магілёўскай вобл. З 20.09.1944 г. у Бабруйскім р-не Бабруйскай вобл., з 08.01.1954 г. – у Бабруйскім р-не Магілёўскай вобл. СВК "Гігант" (а/г Вялікія Бортнікі), "К.-с імя Ф. Дзяржынскага (а/г Міхалёва-І). 25 снп, 1445 двароў, 3092 жых. (Бабр.)

**БОРТНІЦКІ**, канал, меліярац., у бас. Дняпро, у Бабруйскім р-не. Пач. за 0,3 км на ПдЗ ад в. Малінаўка, упад. у р. Ала каля в. Вялікія Бортнікі. (Бабр.)

**БОРЦЫ**, ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на З ад в. Красоўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**БОРШНІЦКАЯ ДАРОГА**, ур., лясное, на ПдЗ ад в. Боўсевічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**БОТЧА, КЕЧКАЎКА**, р., левы прыт. р. Свіслач (бас. р. Бярэзіна) у Асіповіцкім р-не. Даўж. 26 км. Выток за 2 км. на Пн ад в. Лазавое, вусце за 1 км на У ад в. Вязычын. Часткова каналізав. Пл. вдзб. 138 км². (Асіп)

**БОЎКА**, балота, у бас. р. Ухлясць, паміж вв. Боўкі Быхаўскага і Іванішчавічы Слаўгарадскага р-наў. (Бых., Слаўг.)

**БОЎКІ**, в., Смаліцкі с/с Быхаўскага р-на, 16 двароў, 33 жых., МТФ. Магілы сав. воінаў, партызан і падпольшчыкаў. Спалена фашыстамі ў 1944 г. Пасля вайны адноўлена У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/ км². (Бых.)

**БОЎКІНСКІ ЛЕС**, л.м., вакол в. Боўкі Быхаўскага р-на. (Бых.)

**БОЎСЕВІЦКІ С/С**, с/с Круглянскага р-на, у 1924 – 1954 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Круглянскім р-не Аршанскай акр., з 26.07.1930 у Круглянскім р-не, з 25.07.1931 у Талочынскім р-не, з 12.02.1935 у Круглянскім р-не, з 20.02.1938 г. у тым жа р-не Магілёўскай вобл. Ліквідаваны ў 1954 г. (Кругл.)

**БОЎСЕВІЧЫ**, в., Шапялевіцкі с/с Круглянскага р-на, вядом. з XVI ст., 40 двароў, 64 жых. 2 магілы партызанаў. Ц. с/с у 1924 – 1954 гг. (Кругл.)

**БОЎШАВА**, в., Дашкаўскі с/с Магілёўскага р-на, 41 двор, 59 жых., крама, ф. Кург. могільнік. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². (Маг.)

**БОЎШЧЫНА**, х., да 1930-х гг. у Лапаціцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**БОХАВАНКА**, ур., с.-г. угоддзі, каля в. Юзафоўка Хоцімскага р-на. Даўж. 2 км. (Хоц.)

**БОХАНАВІЦКАЕ**, рад. Гл. рад. Бахаоўскае Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ДАВЫДАЎКА**, слабада, старажытн. частка г. Клімавічы. (Клім.)

**ДАВЫДЗЬКАЎ РАВОК**, ур., с.-г. угоддзі з ярам, на ПдЗ ад в. Марцянавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДАВЫДЗЬКАЎ**, х., да 1920-х гг. у Рубежскім с/с Круглянскага р-на. Ліквідаваны. (Кругл.)

**ДАВЫДКАВА**, ур., леса-балотнае, на Пн ад в. Елькаўшчына Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДАВЫЦЬКАЎ ХУТАР, ДАВЫДЗЬКАЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Цяцерына Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДАДЫКАЎШЧЫНА**, ур., лясное, за 1 км на Пн ад в. Круглае Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДАДЫКІН ЛЕС**, ур., лясное, у в. Царковішча Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДАДЭРКІНА ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Баронькі Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДАКЛОНСКІ КАНАЛ**, канал, меліярац., пр. прыт. Буднёўскага канала (бас. р. Дняпро). Даўж. 4,7 км. Пачын. за 0,8 км на З ад в. Залог, упад. у сажалку на Буднёўскім канале за 1,8 км на У ад в. Буднеў Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ДАКЛОНЬ**, в., Нясяцкі с/с Клічаўскага р-на, 2 двары, 2 жых. (Кліч.)

**ДАКОЛЬ**, балота, старажытн. назва балота Даколька Глускага р-на. (Глуск.)

**ДАКОЛЬ**, в., Клетненскі с/с Глускага р-на, ц. СВК "Гвардыя", вядом. з 1558 г., 116 двароў, 328 жых., п/а, АТС, ФАП, д/с, СДК, лясн., крама, ф. Бр. магіла сав. воінаў і партызан, гарадзішча (ур. Гарадзішча), сярод балот. У 1898 – 1900 гг. – лесапільня. Радз. С. Каліноўскага, Гер. Сав. Саюза. (Глуск.)

**ДАКОЛЬ**, маёнтак, да 1920-х гг. у Клетненскім с/с Глускага р-на. Ліквідаваны. (Глуск.)

**ДАКОЛЬ**, р., старажытн. назва р. Даколька Глускага р-на. (Глуск.)

**ДАКОЛЬКА, ДАКОЛЬ**, р., пр. прыт. р. Пціч (бас. р. Прыпяць) у Старадарожскім і Глускім р-нах. Даўж. 43 км. Пл. вдзб. 462 км$^2$. Выток у Старадарожскім р-не, упад. у р. Пціч на 2 км вышэй за в. Касарычы Глускага р-на. Гал. прыт. – Ольніца (злева). (Глуск.)

**ДАКОЛЬКА, СЯЛЕЦКАЕ**, балота, нізін., у вдзб. р. Даколька, за 3 км на ПнЗ ад в. Зорка Глускага р-на. Пл. 3,2 тыс. га, у межах прам. пакладу – 2,4. Сяр. глыб. торфу 9 м. Зап. торфу 8 млн. т. Асуш. 1,1 тыс. га. Астатняя пл. у натур. стане, пад змеш. лесам. (Глуск.)

**ДАКОЛЬСКАЕ**, рад., торфу, на балоце Даколька Глускага р-на. Не распрацоўв. Зак. мясц. знач. (Глуск.)

**ДАЛЕНШЧЫНА**, в., Бацвінаўскі с/с Крычаўскага р-на, вядом. з XVIII ст., 17 двароў, 30 жых. Спалена фашыстамі ў 1942 г. Пасля вайны аднаўлена. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Крыч.)

**ДАЛЕЦКІ МОСТ**, ур., лясное, 2 км на ПдЗ ад в. Ерашоўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДАЛІНА КАХАННЯ**, ур., с.-г. угоддзі, па р. Пціч, у в. Дараганава Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ДАЛЬНІ ВАЛ**, вал. Гл. Палявы Вал. (Маг.)

**ДАЛЬНІ ЛУГ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Бярозаўка Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ДАЛЬНІ ЛЯД**, ур., лясная дзялянка, каля в. Перакладавічы Быхаўскага р-на. (Бых.)

**ДАЛЬНІ РОГ**, ур., с.-г. угоддзі, за 3 км на Пн ад в. Пацава Слабада Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ДАЛЬНІ СТРУШАЎ**, х., да 1960-х гг. у Кульшыцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Далуч. да в. Ржаўка І. (Слаўг.)

**ДАЛЬНІ**, п., Запольскі с/с Бялыніцкага р-на, 2 двары, 2 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Бял.)

**ДАЛЬНІ**, п., Свенскі с/с Слаўгарадскага р-на, 1 двор 2 жых. Да 1964 г. – п. Брак. (Слаўг.)

**ДАЛЬНІ**, п., частка в. Падзевічы Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ДАЛЬНЯЕ ЛЯДА**, в., Баркалабаўскі с/с Быхаўскага р-на, 24 двары, 34 жых., крама. 2 стаянкі камен. веку. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км$^2$. (Бых.)

**ДАЛЬНЯЕ ПОЛЕ**, п., да 1929 г. у Забялышынскім с/с Хоцімскага р-на. Перайменав. у п. Харкаў. (Хоц.)

**ДАЛЬНЯЯ ГРЭБЛЯ**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, на У в. Баронькі Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДАЛЬНЯЯ ПРОРВА**, завадзь, на р. Зубар, другая пасля Бліжняй Прорвы Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДАЛЬНЯЯ**, в. Гл. п. Дальні Свенскага с/с Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ДАМАЛКА**, р., левы прыт. р. Белая Натапа (бас. р. Дняпро) у Мсціслаўскім р-не. Даўж. 6 км. Выток за 1 км на У ад в. Кокатава, вусце ў

в. Зарэчча. Рэчышча каналізав. ў ніж. цяч. на прац. 2,3 км. (Мсц.)

**ДАМАМЕРЫЦКІ С/С**, с/с Клімавіцкага р-на, на ПнЗ р-на. Утвор. 20.08.1924 г. у Клімавіцкім р-не Калінінскай акр., з 09.06.1927 у Клімавіцкім р-не Магілёўскай акр., 26.07.1930 у Клімавіцкім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. 11 снп, 650 двароў, 1580 жых. (Клім.)

**ДАМАМЕРЫЧ**, руч., левы прыт. р. Сaснoўка (бас. р. Сож). Даўж. 6 км. Вар. назвы – руч. Безназоўны Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДАМАМЕРЫЧЫ**, в., ц. с/с Клімавіцкага р-на і філ. "Ніва-Агра" ААТ "Клімавіцкі КХП", 32 двары, 78 жых. У 1883 г. – цагельня. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны аднаўлена. Помн. землякам. Месца знах. скарбу. Да рц – 14, да чыг. ст. Клімавічы – 12 км. (Клім.)

**ДАМАНАЎСКАЯ РУСЕНКА**, в. Гл. в. Даманы Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ДАМАНАЎСКАЯ РУСЕНКА**, в. Гл. Русенка Даманаўская. (Дрыб.)

**ДАМАНОВА РУСКАЕ**, в., да 1920-х гг. назва п. Даманова Бабруйскага р-на. Гл. п. Даманова. (Бабр.)

**ДАМАНОВА ЯЎРЭЙСКАЕ**, в., да пач. XX ст. назва в. Даманова Бабруйскага р-на. Гл. п. Даманова. (Бабр.)

**ДАМАНОВА**, в. Вар. назвы – в. Даманы. Гл. в. Даманы Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ДАМАНОВА**, в., Вішнеўскі с/с Бабруйскага р-на, 28 двароў, 37 жых., ФАП. Да 1920-х гг. – вв. Даманова Рускае, Даманова Яўрэйскае. (Бабр.)

**ДАМАНОВА**, п., Вішнеўскі с/с Бабруйскага р-на, 12 двароў, 16 жых., аграсядз. "Закабай". Бр. магіла сав. воінаў. (Бабр.)

**ДАМАНОЎСКІ ПЕРАКАТ**, перакат, на р. Бярэзіна, на У ад п. Даманова Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ДАМАНОЎСКІ**, востраў, да пач. XX ст. на р. Бярэзіна, насупраць в. Даманова Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ДАМАНОЎСКІ**, зак. Дрыбінскага р-на, біялаг. (паляўн.), мясц. знач., з 1995 г., на мяжы з Магілёўскім р-нам. Пл. 1364 га. Ахова паляўн.-прам. жывёл. (Дрыб.)

**ДАМАНЫ**, в., Чэрнеўскі с/с Дрыбінскага р-на, 38 двароў, 40 жых. Месца знах. скарбу. Вар. назвы – Даманова, Русенка-Даманаўская, Даманаўская Русенка. (Дрыб.)

**ДАМАРАДАЎШЧЫНА**, ур., лясное, за 1,5 км на Пд ад в. Каменка Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ДАМАРАДЫ**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,5 км на Пд ад в. Каменка Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ДАМАРАДЫ**, х., да 1920-х гг. у Шклоўскім р-не. Ліквідаваны. (Шкл.)

**ДАМАРАТЧЫНА**, засц., да 1920-х гг. у Кручанскім с/с Круглянскага р-на. Далуч. да в. Любішча. (Кругл.)

**ДАМАРАТЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Цяцерына Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДАМАРАЦКІЯ**, п., частка в. Маслакі Горацкага р-на. (Гор.)

**ДАМАРАШЧЫНА**, ур., лясное, за 3 км на ПдУ ад в. Асіповічы Горацкага р-на. Пл. каля 70 га. (Гор.)

**ДАМАСОЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,1 км на ПдУ ад в. Сабалёўка Галіцкага с/с Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДАМАШНЯ**, р., пр. прыт. р. Сянна (бас. р. Сож) у Чэрыкаўскім р-не. Даўж. 14 км. Выток на ПнУ ад в. Міхайлаўка, вусце на ПдЗ ад в. Драгунскія Хутары. Пл. вдзб. 29 км². Пад лесам 62%. Баранец звыч. (Чэр.)

**ДАМІКАНАЎ ХУТАР**, ур. Гл. Дамінíканаў Хутар Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДАМІНІКАНАЎ ХУТАР**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, сенажаць, у в. Мехава Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДАНІЛАВА ПАЛЯНКА**, ур., лясная паляна, каля в. Лянёўка Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ДАНІЛАЎ МОСТ**, в., да 1995 г. у Варатынскім с/с Бабруйскага р-на. Ліквідавана. (Бабр.)

**ДАНІЛАЎ МОСТ**, п., Варатынскі с/с Бабруйскага р-на, 8 двароў, 21 жых. Магіла сав. воінаў і ваеннапалон. (Бабр.)

**ДАНІЛАЎ МОСТ**, прып. п., у Бабруйскім р-не, на чыг. Бабруйск – Рагачоў, у скл. п. Данілаў Мост. (Бабр.)

**ДАНІЛАЎ НАДЗЕЛ**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн ад в. Смагілаўка Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДАНІЛАЎ РОГ**, ур., с.-г. угоддзі, па р. Пціч, у в. Халькі Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ДАНІЛАЎКА**, в., да 1960 г. у Мушынскім с/с Мсціслаўскага р-на. Далуч. да в. Барысаўка. (Мсц.)

**ДАНІЛАЎКА**, в., Мілаславіцкі с/с Клімавіцкага р-на, 1 двор, 1 жых. (Клім.)

**ДАНІЛАЎКА**, х., да 1920-х гг. у Гіжэнскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**ДАНІЛАЎСК**, в., Падсолтаўскі с/с Мсціслаўскага р-на, 5 двароў, 6 жых. Бр. магіла сав. воінаў. У 1897 г. – 33 двары, 225 жых. (Мсц.)

**ДАНІЛАЎСК**, сядз., да 1920-х гг. у Падсолтаўскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідавана. У 1897 г. – 7 жых. (Мсц.)

**ДАНІЛКАЎ ВІР**, вір, на р. Каменка, у в. Марцянавічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДАНІЛКІНА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Сялецкае Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДАНОЎСКІ**, х., да 1920-х гг. у Бёрдаўскім с/с Клічаўскага р-на. Ліквідаваны. Гл. ур. Даноўшчына. (Кліч.)

**ДАНОЎШЧЫНА**, ур., лясное, каля в. Бёрда Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ДАНЬКАВІЧЫ**, в., Рыжкавіцкі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з XVII ст., 96 двароў, 271 жых., ФАП, крама. У 1990 – 2000-х гг. – фермер. гасп. "Дыяна", "Д. Маліноўскі", ТДА "Івушка". (Шкл.)

**ДАРАГАНАВА**, а/г, ц. с/с Асіповіцкага р-на, 164 двары, 323 жых., п/а, АТС, б-ца, урач. амбул., апт., д/с-СШ, дз. шк. мастац., сан. шк.-інтэрнат, СДК, б-ка, КПП, лазня, сац. пункт, 2 крамы, гандл. павільён "Асмалоўскі", стал., 2 кацельні, падст. эл/сетак, лясн., аграсядз. "На Пцічы", "Млын". Чыг. ст. Бр. магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму. Стаянка бронз. веку. У 1898 – 1910 гг. – лесапільня. Чыг. ст. Да рц – 32 км. (Асіп.)

**ДАРАГАНАЎСКІ С/С**, с/с Асіповіцкага р-на, на ПдЗ р-на. Утвор. 20.08.1924 г., з 06.01.1965 у р-не. СВК "К.-с "Каўгарскі" (а/г Каўгары). 14 снп, 678 двароў, 1343 жых. (Асіп)

**ДАРАГАЯ**, в., Касцюшкавіцкі с/с Крычаўскага р-на, вядом. з XVIII ст., 36 двароў, 96 жых., б-ка-клуб, крама. У 1890-х гг. частка жых. перасял. у Амурскі край. У 1897 г. – 28 двароў, 210 жых. У 1920-х гг. жых. утвор. п. Доўгі Лог, Новая Дарагая, Ферма, Бранскі, Цэнтральны, Смолішча. Да 1941 г. – торфаз-д "Дарагая". У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км².(Крыч.)

**ДАРАГАЯ**, рад., цагел. сыравіны, за 0,7 км на Пн ад в. Лушчавінка, за 3 км на З ад в. Макаўе, на Пд ад в. Дарагая Крычаўскага р-на. Не распрацоўв. (Крыч.)

**ДАРАГАЯ**, ур., с.-г. угоддзі, каля в. Дарагая Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ДАРАГІНЬ**, в., Ціманаўскі с/с Клімавіцкага р-на, 15 двароў, 41 жых. (Клім.)

**ДАРАГІНЬСКАЕ ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, на лев. бер. р. Пераралочня, за 0,5 км на Пд ад в. Ціманава Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДАРАГОЎКА**, балота. Гл. Драгамілава Балота Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ДАРАГОЎКА**, р. Гл. р. Дарагоўша Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ДАРАГОЎША**, балота. Гл. Драгамілава Балота Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ДАРАГОЎША**, р., на тэр. Магілёўскай вобл. і Бранскай вобл. РФ, левы прыт. р. Каўпіта (бас. р. Беседзь). Даўж. 37 км. Выток на мяжы з РФ, за 3 км на Пд ад в. Арцехаў Краснапольскага р-на, вусце ў РФ. У XIX ст. назва – р. Дарагоўка. (Краснап.)

**ДАРАНКА**, р., у Кіраўскім і Бабруйскім р-нах, пр. прыт. р. Ала (бас. р. Бярэзіна). Даўж. 20,5 км. Выток на ПнУ ад в. Падрэчча Кіраўскага, вусце на ПдУ ад в. Воўчая Гара Бабруйскага р-на. Рэчышча каналізав. (Бабр., Кір.)

**ДАРАФЕЕВА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, у в. Дуброва Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДАРАШОНКАВА ДВОРЫШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Дзягавічы Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ДАРГАМЫСАЛ**, руч. Гл. руч. Даргамысль Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ДАРГАМЫСЛ**, руч. Гл. руч. Даргамысль Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ДАРГАМЫСЛЬ**, руч., пр. прыт. р. Ельня (бас. р. Дняпро). Даўж. 8 км. Выток за 2 км на ПдЗ ад в. Малыя Хутары, вусце на Пн п. Багданаўка Краснапольскага р-на. Вар. назвы – руч. Даргамысл, Даргамысал. (Краснап.)

**ДАРЛІВАЯ**, в., Касцюшкавіцкі с/с Крычаўскага р-на, вядом. з XVIII ст., 18 двароў, 37 жых., дом сац. пасл. Ц. с/с у 1924 – 1925 гг. (Крыч.)

**ДАРЛІВАЯ**, прып. п., на чыг. Крычаў – Магілёў, на Пн ад в. Гарбатка Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ДАРЛІЎСКІ С/С**, с/с Крычаўскага р-на, у 1924 – 1925 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Крычаўскім р-не Калінінскай акр., перайменав. 21.08.1925 у Касцюшкавіцкі с/с. (Крыч.)

**ДАРМАВАТЫ**, ур., с.-г. угоддзі, на Пд ад в. Горы Горацкага р-на. (Гор.)

**ДАРМНЯНІШЧЫНА**, руч. Гл. руч. Дармянішча Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ДАРМЯНІШЧА, ДАРМНЯНІШЧА**, руч., пр. прыт. р. Сянна (бас. р. Сож) у Чэрыкаўскім р-не. Даўж. 3,5 км. Выток і вусце – у р-не в. Малінаўка. (Чэр.)

**ДАРОЖКАВІЦКАЕ ВОЗЕРА**, сажалка, у бас. р. Друць, у в. Дарожкавічы Круглянскага р-на, у скл. ЗАТ "Эксперыментальны рыбгас "Азёрны". (Кругл.)

**ДАРОЖКАВІЧЫ**, в., Кручанскі с/с Круглянскага р-на, вядом. з XVI ст., 22 двары, 48 жых., ф. Да 1940-х гг. – смалакурны з-д. Радз. П. Клімкова, Гер. Сац. працы. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Кругл.)

**ДАРОЦКІ БЯРЭЗНІК**, ур., лясное, каля п. Доркі Быхаўскага р-на. (Бых.)

**ДАРЫ І, ДАРЫ ПЕРШЫЯ**, в., Нядашаўскі с/с Магілёўскага р-на, 39 двароў, 60 жых., вытворч. каап. "Дары". Да 1980-х гг. – ц. Дарскага с/с. Вар. назвы – в. Дары. (Маг.)

**ДАРЫ ІІ, ДАРЫ ДРУГІЯ**, п., да 1958 г. у Дарскім с/с Магілёўскага р-на, у 1958 – 1973 гг. – Малая Бароўка, з 1973 г. у межах Магілёва. Мкр-н на ПдУ. (Маг.)

**ДАРЫ**, в. Гл. в. Дары І Магілёўскага р-на. (Маг.)

**ДАРЫ**, мкр-н, на ПдУ г. Магілёў. (Маг.)

**ДАРЫ**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,3 км на У ад в. Стары Дзедзін Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДАСКА, ДЗЯСНА**, р., пр. прыт. р. Дняпро, у Магілёўскім р-не. Даўж. 11 км. Выток на З ад в. Мяжысяткі, вусце каля в. Дашкаўка. Вдзб. 38 км$^2$, пад лесам – 29%. Да пач. XX ст. – р. Дашкаўка. (Маг.)

**ДАСОВІЧЫ**, в., Заводскаслабодскі с/с Магілёўскага р-на, ц. КУСП "Дасовічы", вядом. з XVI ст., 17 двароў, 26 жых. У 1832 – 1884 гг. – медзеплав. мануфактура. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Маг.)

**ДАСЦІЖЭННЕ**, в., з 1920-х гг. у Хвастовіцкім с/с Глускага р-на, 33 двары, 85 жых. (Глуск.)

**ДАЎГАЖДАНЫ**, ур., с.-г. угоддзі, уздоўж р. Зубар, на Пн в. Бароньki Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДАЎГАМОХАЎСКІ С/С**, с/с Чавускага р-на, у 1924 – 1954 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Чавускім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Чавускім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. Ліквідаваны 16.07.1954 г. Тэр. с/с далуч. да Усушскага с/с. (Чав.)

**ДАЎГІЯ**, ур., с.-г. угоддзі, поле, на У в. Кунцы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДАЎГОЕ БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, па р. Проня, в. Сласцёны Чавускага р-на. (Чав.)

**ДАЎЖАНКА**, в., Доўгаўскі с/с Клічаўскага р-на, 7 двароў, 9 жых. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Кліч.)

**ДАЎЖАНКА**, зак., мясц. знач., гідрал., з 1994 г., у ніж цяч. р. Даўжанка, каля в. Даўжанка Клічаўскага р-на. Пл. 11 га. (Кліч.)

**ДАЎЖАНКА**, р., у Бялыніцкім і Клічаўскім р-нах, пр. прыт. р. Друць (бас. р. Дняпро). Даўж. 37 км. Выток за 1,5 км на У ад в. Стадолішча, на ПнЗ ад в. Дручаны Бялыніцкага р-на, вусце на ПнУ ўскр. в. Даўжанка Клічаўскага р-на. Пл. вдзб. 272 км$^2$. Асн. прыт. – р. Рудка (правы). (Кліч., Бял.)

**ДАЎЖАНКА**, ур., асуш. с.-г. угоддзі, абапал р. Даўжанка, паміж вв. Доўгае і Дубна Клічаўскага р-на (Кліч.).

**ДАЎНІНА**, ур. Вар. назвы – ур. Старына каля вв. Арэхаўка, Градкі Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ДАЧА**, в., да пач. 1990-х гг. у Чарнаборскім с/с Быхаўскага р-на. Ліквідавана. (Бых.)

**ДАЧА**, п., да 1980 г. у Холстаўскім с/с Быхаўскага р-на. Ліквідаваны. (Бых.)

**ДАЧКІ**, ур., лясное, на З ад в. Закрупец Слаўгарадскага р-на. Бр. магіла сав. воінаў. (Слаўг.)

**ДАЧКІ**, ур., с.-г. угоддзі, поле, в. Трылесін Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ДАЧНАЕ**, п., Глушанскі п/с Бабруйскага р-на, 1 двор, 5 жых. (Бабр.)

**ДАЧНАЕ**, п., да 1980 г.у Бабруйскага р-не. Далуч. да г. Бабруйск. Да 1964 г. – в. Карчма. (Бабр.)

**ДАЧНІКІ**, ур., с.-г. угоддзі, на 3 ад в. Баркалабава Быхаўскага р-на, уздоўж. чыг. Магілёў – Быхаў. (Бых.)

**ДАЧНЫ**, мкр-н, на У г. Бабруйск. (Бабр.)

**ДАШКАЎКА**, а/г, ц. с/с Магілёўскага р-на, КСУП "Э/б "Дашкаўка", вядом. з 1597 г. як Багданава Слабада; 639 двароў, 1587 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, б-ца, апт., СШ, д/с, дз. шк. мастац., філ. дз. спарт. шк., СДК, б-ка, гатэль, КПП, гандл. ц., 2 крамы, гандл. павільён, кавярня "Дашкаўка", спарт. к-с, футбол. поле, УКВП "Магілёўская праект.-вынах. ст. аграхімізацыі", РУП "Магілёўская абл. с.-г. вопыт. ст. НАНБ "Дашкаўская", уч-к МУКП "Жылкамгас", парк, чыг. ст. Царква Прп. Сергія Раданежскага. Помн.: у гонар Вял. Айч. вайны, у гонар вайны 1812 г., сядз. дом пач. XX ст. Стаянка камен. веку, 3 гарадзішчы, селішча. У кан. XVIII ст. належ. кн. К. Дашкавай. У XIX ст. – мяст. Да рц – 22 км. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км$^2$. (Маг.)

**ДАШКАЎКА**, в., у XVIII ст. – 2007 г. у Гіжэнскім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідавана. (Слаўг.)

**ДАШКАЎКА**, ур., с.-г. угоддзі, за 3 км на ПнУ ад в. Еўдакімавічы, на Пн ад в. Азёры Шклоўскага р-на. Пл. 42 га. (Шкл.)

**ДАШКАЎСКІ ПАРК**, п. п., мясц. знач., батан., з 1993 г., у в. Дашкаўка. Пл. 10 га. (Маг.)

**ДАШКАЎСКІ С/С**, с/с Магілёўскага р-на, на Пд р-на. Утвор. 20.08.1924 г., з 20.02.1938 у скл. Магілёўскай вобл. КСУП "Э/б "Дашкаўка", УКВП "Магілёўская праект.-вынах. ст. аграхімізацыі", РУП "Магілёўская абл. с.-г. вопыт. ст. НАНБ "Дашкаўская" (а/г Дашкаўка), філ. "Сервалюкс Агра" СЗАТ "Сервалюкс" (а/г Мяжысяткі), ТАА: "Магніт-Магілёў", "З-д арматурны", "Протас Аўта", "Протас Тэхна", "З-д тэхн. тары" (в. Салтанаўка). 14 снп, 2658 двароў, 4960 жых. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км$^2$ – 3 снп, ад 1 да 5 Кі/км$^2$ – 3 снп. (Маг.)

**ДАШКАЎСКІ**, парк, пейзажны, у в. Дашкаўка Магілёўскага р-на. Закладз. у XVIII ст. Пл. 10 га. Мураваны сядз. дом з вежай. Насадж. бярозы, клёну, ліпы, таполі. Захаваўся частк. (Маг.)

**ДАШЧАНКА**, частка дарогі Горы – Валынцава, Горацкага р-на. (Гор.)

**ДАШЧАТЫ МОСТ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Сялец Глускага р-на. (Глуск.)

**ДВА БРАТЫ**, ур., с.-г. угоддзі, за 1,4 км на ПдУ ад в. Дзедава Быхаўскага р-на. Кург. Могільнік. (Бых.)

**ДВА БРАТЫ**, ур., с.-г.угоддзі, за 1,5 км на ПдУ в. Верхняя Тошчыца Быхаўскага р-на. Кург. могільнік. (Бых.)

**ДВА ВАЛУНЫ**, два валуны, каля крын. Святая (Блакітная) Слаўгарадскага р-на. Вар. назвы – Валуны-жаніхі. (Слаўг.)

**ДВА КАЛОДЗЕЖЫ**, два калодзежы, ва ўр. Аляксандраў Хутар Чавускага р-на. (Чав.)

**ДВА КАМЯНІ**, два валуны, у рэчышчы р. Друць, у в. Цяхцін Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ДВАЙНЫ ЛЕС**, ур., лясное, в. Чэрнеўка Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ДВАРАНІНАВІЦКІ**, канал. Гл. канал Рылейка Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ДВАРАНІНАВІЧЫ**, в. Гл. в. Старыя Дваранінавічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ДВАРКІ**, п., частка в. Скляпава Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДВАРОВАЯ ТОНЯ**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, у в. Падлужжа Глускага р-на. (Глуск.)

**ДВАРЫЎЧАНСКІ КАНАЛ**, канал. Гл. канал Церабуцкі Першы Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ДВАРЫЦКАЯ ДАРОГА**, дарога Кіраўск – Клічаў, у Кіраўскім і Клічаўскім р-нах. (Кір., Кліч.)

**ДВАРЭЦ**, в., да 1930-х гг. ў Любоніцкім с/с Кіраўскага р-на. Ліквідавана. (Кір.)

**ДВАРЭЦ**, в., Завалочыцкі с/с Глускага р-на, вядом. з 1560 г. як с., 26 двароў, 60 жых. Радз. С. Шутава, Гер. Сав. Саюза (Глуск.)

**ДВАРЭЦ**, перакат р. Бярэзіна, на мяжы Бабруйскага і Асіповіцкага р-наў, вышэй за сутокі рр. Свіслач і Бярэзіна, за 3 км на Пн ад перакату Вуглата Бабруйскага р-на (Бабр.)

**ДВАРЭЦ**, ур., лясное, у Асіповіцкім і Клічаўскім р-нах, на лев. бер. р. Бярэзіна, насупраць в. Свіслач і сутоку Свіслачы і Бярэзіны, за 5 км на ПдЗ ад в. Віркаў. Вар. назвы – ур. Бор. (Бабр., Кліч.)

**ДВАРЭЦ**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн ускр. в. Лазаравічы Быхаўскага р-на, у луцэ пр. бер. р. Дняпро. Стаянка кам. веку, селішча, курган. (Бых.)

**ДВАРЭЦ**, х., да 1920-х гг. у Завалочыцкім с/с Глускага р-на. Ліквідаваны. (Глуск.)

**ДВАРЭЦ**, х., да 1920-х гг. у Навабыхаўскім с/с Быхаўскага р-на. Ліквідаваны. (Быx.)

**ДВАРЭЦКАЯ БУДА**, в., назва в. Дворацкая Буда Касцюковіцкага р-на ў 1930-х гг. (Касц.)

**ДВОР ГАРБАЦЭВІЧЫ**, в., Гарбацэвіцкі с/с Бабруйскага р-на, 3 двары, 6 жых. (Бабр.)

**ДВОР ГЛУША**, в., Гарохаўскі с/с Бабруйскага р-на, без жых. (Бабр.)

**ДВОР КАНІЧЫ**, двор, узгадв. у XVI ст. Далуч. да в. Канічы Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДВОР КРУГЛЯНСКІ**, мкр-н, ПдУ частка г.п. Круглае. (Кругл.)

**ДВОР КРУГЛЯНСКІ**, фальв., да 1920-х гг. у Круглянскім п/с Круглянскага р-на. Ліквідаваны. (Кругл.)

**ДВОР**, в., да 1958 г. у Клетненскім с/с Глускага р-на. Ліквідавана. (Глуск.)

**ДВОРАЦКАЯ БУДА**, в., Сялецкі с/с Касцюковіцкага р-на, 8 двароў, 11 жых., дом сац. пасл. Вар. назвы – Двор-Буда, Дворская Буда, Дварэцкая Буда. (Касц.)

**ДВОР-БУДА**, в. Гл. Дворская, Дворацкая Буда Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДВОРНЯ**, ур., с.-г. угоддзі, поле, у в. Касмынічы Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ДВОРЫШЧА І, ДВОРЫШЧА ПЕРШАЕ**, в., да 1940-х гг. у Бацэвіцкім с/с Клічаўскага р-на. Ліквідавана. (Кліч.)

**ДВОРЫШЧА І, ДВОРЫШЧА ПЕРШАЕ**, ур., с.-г. угоддзі, поле СВК імя С. Будзённага, на м. б. в. Дворышча Першае Клічаўскага р-на. Пл. 8,6 га. (Кліч.)

**ДВОРЫШЧА ІІ, ДВОРЫШЧА ДРУГОЕ**, в., да 1940-х гг. у Бацэвіцкім с/с Клічаўскага р-на. Ліквідавана. (Кліч.)

**ДВОРЫШЧА ІІ, ДВОРЫШЧА ДРУГОЕ**, ур., с.-г. угоддзі, поле СВК імя С. Будзённага, на м. б. в. Дворышча ІІ Клічаўскага р-на. Пл. 5,8 га. (Кліч.)

**ДВОРЫШЧА**, в., Гарохаўскі с/с Бабруйскага р-на, 4 двары, 5 жых. (Бабр.)

**ДВОРЫШЧА**, в., Дрычынскі с/с Асіповіцкага р-на, 17 дварoў, 25 жых. (Асіп)

**ДВОРЫШЧА**, ур., лясное, на З ад в. Уланава Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ДВОРЫШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, за 3 км на Пд ад в. Вялікі Мох Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДВОРЫШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Паўлавічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ДЖАЛАВА ВОЗЕРА**, вдсх., з 1990-х гг. на р. Трасна, у в. Нiканавічы Быхаўскага р-на. Зарыблена. Вар. назвы – Нiканавiцкае. (Быx.)

**ДЗЕБРА**, п., у скл. в. Шапялевічы Круглянскага р-на, вул. Юбілейная, каля лясн. ур. Дзебра. (Кругл.)

**ДЗЕБРА**, руч., пр. прыт. р. Дняпро, у ц. Магілёва. Даўж. 3 км. Выток у р-не аўтавакзала, цячэ ўздоўж вул. Катоўскага, вусце – ур. Гваздоўка, на З ад ур. Абалонне, насупраць ур. Грабёж. Схілы даліны выш. 10 – 20 м. Паблізу вусця даліна з шыр. больш за 100 м. (Маг.)

**ДЗЕБРА**, руч., пр. прыт. р. Добрая (бас. р. Дняпро) у Горацкім р-не. Даўж. 3 км. Выток на ПдУ в. Рэкатка, вусце на Пд ад в. Рэкатка. Вар. назвы – руч. Дзебранка. (Гор.)

**ДЗЕБРА**, ур., лясное, на пагорках, у в. Парадзіна Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ДЗЕБРА**, ур., лясное. Гл. п. Дзебра ў в. Шапялевічы Круглянскага р-на (Кругл.)

**ДЗЕБРАНКА**, руч. Гл. руч. Дзебра Горацкага р-на. (Гор.)

**ДЗЕБРЫ**, ур., лясное, на З ад в. Шароеўка Чэрыкаўскага р-на. (Чэр.)

**ДЗЕВАШЫЦКІ**, п., да 2004 г. у Эсьмонскім с/с Бялыніцкага р-на. Ліквідаваны. (Бял.)

**ДЗЕВАШЫЧЫ**, в., Эсьмонскі с/с Бялыніцкага р-на, 34 двары, 47 жых., дом сац. пасл., крама. Часткова спалена фашыстамі ў 1944 г. (Бял.)

**ДЗЕВІ-ГАРАДОК**, пагорак. Гл. г. Дзявочая Гара, Дзіві-Гарадок Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ДЗЕД**, ур., лясное, на Пд ад воз. Клячаўскае Крычаўскага р-на, на мяжы з Клімавіцкім р-нам. (Крыч.)

**ДЗЕД**, ур., с.-г. угоддзі, на лев. бер. р. Сож, паміж р. Бароўка і воз. Чорнае, на ПнЗ ад в. Сінеж Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗЕДА СЕМЯКІНА БАЛОТА**, ур., моцна забалоч. с.-г. угоддзі ў ц. в. Халмы Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ДЗЕДА**, ур., с.-г. угоддзі, луг, за 3 км на Пн ад в. Забор'е Краснапольскага р-на. Пл. 1,5 га. (Краснап.)

**ДЗЕДАВА АМШАРА**, ур., западз., у в. Сялец Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ДЗЕДАВА ДЗЯЛЯНКА**, ур., лясная дзялянка, каля в. Чырвоны Бор Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ДЗЕДАВА СЕНАЖАТКА**, ур., лясная паляна, каля в. Лянёўка Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ДЗЕДАВА СЦЕЖКА**, лясная, каля в. Падлужжа Глускага р-на. (Глуск.)

**ДЗЕДАВА**, в., Ямніцкі с/с Быхаўскага р-на, 11 двароў, 15 жых. Бр. магіла сав. воінаў, помн. на месцы злуч. партызан з Сав. Арміяй. У зоне забруджв. глебы па цэзію-137 ад 1 да 5 Кі/км². (Бых.)

**ДЗЕДАВЕЦ**, руч., пр. прыт. р. Белая Натапа (бас. р. Сож) у Мсціслаўскім р-не. Даўж. 3 км. Выток за 2 км на ПнЗ ад в. Вяркееўшчына, вусце на ПдЗ ад в. Залочава. (Мсц.)

**ДЗЕДАЎ КЛІН**, ур., лясное, за 3 км на ПдЗ ад в. Стан Горацкага р-на. (Гор.)

**ДЗЕДАЎ ЛОГ**, лог, на ўскр. лесу, каля в. Царковішча Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗЕДАЎ МЯШОК**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, па р. Даколька, у в. Даколь Глускага р-на. (Глуск.)

**ДЗЕДАЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, каля в. Грыбава Слабада Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ДЗЕДАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на У ад в. Круглае Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗЕДВА**, р., левы прыт. р. Дняпро (бас. Чорнага мора). Даўж. 6 км. Выток на ПдУ ад ур. Гарадок (в. Крывель), вусце на ПнЗ ад в. Аўгустова Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ДЗЕДКАВІЧЫ**, в., да 1990-х гг. у Мазалаўскім с/с Мсцілаўскага р-на. Ліквідавана. Спалена фашыстамі ў 1943 г. Пасля вайны адноўлена. (Мсц.)

**ДЗЕДНАВА**, в., да 1972 г. у Слабодкаўскім с/с Бабруйскага р-на. Далуч. да г. Бабруйск. (Бабр.)

**ДЗЕДНАВА**, мкр-н, з 1972 г. на З г. Бабруйск. (Бабр.).

**ДЗЕДНАВА**, чыг. ст., у скл. мкр-на Дзеднава, у г. Бабруйск, на чыг. Бабруйск-Рабкор. (Бабр.).

**ДЗЕДНАЎСКІ С/С**, с/с Чавускага р-на, у 1924 – 1954 гг. Утвор. 20.08.1924 г. у Расненскім р-не Калінінскай акр., з 09.06.1927 у Расненскім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Расненскім р-не, з 25.07.1931 у Чавускім р-не, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. Ліквідаваны 16.07.1954 г. Тэр. с/с далуч. да Асінаўскага с/с. (Чав.)

**ДЗЕДНЯ**, в., Радамльскі с/с Чавускага р-на, вядом. з XIX ст., 21 двор, 27 жых., п/а, ФАП, крама, ф. Стаянка мезаліту. Бр. магіла сав. воінаў і партызан. У 1909 г. – 117 двароў, 721 жых. Ц. с/с у 1924 – 1954 гг. Спалена фашыстамі ў 1944 г. Пасля вайны адноўлена. (Чав.)

**ДЗЕЖКІНА ГАРА**, пагорак, на У ад в. Конанаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ДЗЕМЕНКА**, в., Карытненскі с/с Асіповіцкага р-на, 21 двор, 49 жых. Магіла сав. воіна. (Асіп.)

**ДЗЕМЕНКА**, ур., с.-г. угоддзі, на м. б. х. Кулевічаў Асіповіцкага р-на, у сутоку рр. Ржаўка і Пціч. (Асіп.)

**ДЗЕМЕНСКІ МОСТ**, ур., с.-г. угоддзі, па р. Пціч. Гл. Кулевічаў Мост Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ДЗЕМЕХАВА**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,7 км на ПдУ ад в. Родня Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗЕМІДЗЕНКАЎ ЛОГ**, ур., лясное, за 3,5 км на ПдУ ад в. Роськаў Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗЁМІН ВІР**, вір, на р. Вербаўка, каля в. Немерка Дрыбінскага р-на. (Дрыб.).

**ДЗЁМІНЫ**, п., частка в. Сямёнаўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗЁМЧЫКАЎ РАВОК**, яр, у в. Дуброва Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДЗЕРАВІНА**, ур., лясное, за 0,5 км на З ад в. Куляшоўка Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗЕРАМЁНКА**, ур., с.-г. угоддзі, на Пд в. Слабада Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗЕРАЎЦЫ**, в. Гл. в. Станцыя Дзераўцы Асіповіцкага р-на. (Асіп)

**ДЗЕРАЎЦЫ**, в., Пратасевіцкі с/с Асіповіцкага р-на, 18 двароў, 32 жых. (Асіп)

**ДЗЕРАЎЦЫ**, прып. п., у скл. в. Станцыя Дзераўцы Асіповіцкага р-на, на чыг. Асіповічы – Старыя Дарогі. (Асіп)

**ДЗЕРБІНКІ**, ур., с.-г. угоддзі, паміж садам в. Радуцічы Асіповіцкага р-на і ўр. Крапчын. (Асіп.)

**ДЗЕРЛПЎКА**, п., да 1976 г. у Цемравіцкім с/с Чавускага р-на. Далуч. да в. Васькавічы. (Чав.)

**ДЗЕРНА**, р., левы прыт. р. Бася (бас. р. Сож) у Шклоўскім р-не. Даўж. 9 км. Выток за 3 км на ПнУ ад в. Навасёлкі, вусце за 1 км на ПдЗ ад в. Майсеенкі. (Шкл.)

**ДЗЕРНА**, р., у Горацкім і Шклоўскім р-нах, левы прыт. р. Бася (бас. р.Дняпро). Даўж. 11 км (у р-не 0,5 км). Выток за 3 км на ПнЗ ад в. Любіж Горацкага р-на, вусце ў Шклоўскім р-не. (Гор.)

**ДЗЕРНАВАЯ**, в., Горскі с/с Краснапольскага р-на, 9 двароў, 16 жых., ф. Кург. могільнік (ур. Шведскі Курган). У зоне забруджв. па цэзію-137 ад 5 да 15 Кі/км². Вар. назвы – в. Дзярновая. (Краснап.)

**ДЗЕРТКІ**, ур., с.-г. угоддзі, каля в. Кляшчоўка Глускага р-на. (Глуск.)

**ДЗЕСЕНКА**, р., у Краснапольскім р-не Магілёўскай вобл. і Бранскай вобл. РФ, пр. прыт. р. Алешня (бас. р. Дняпро). Даўж. 13 (у р-не – 8) км. Выток за 0,5 км на З ад в. Янаўка Краснапольскага р-на, вусце ў РФ. (Краснап.)

**ДЗЕСНАКІТА**, в., Лютненскі с/с Мсціслаўскага р-на, вядом. з 1716 г., 15 двароў, 22 жых. У 1897 г. – 28 двароў, 261 жых., млын, крупадзёрня. (Мсц.)

**ДЗЕСНАКІТА**, сядз., да 1920-х гг. у Лютненскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідавана. У 1897 г. – 1 двор, 4 жых. (Мсц.)

**ДЗЕСНАКІТА**, фальв., да 1920-х гг. у Лютненскім с/с Мсціслаўскага р-на. Ліквідаваны. У 1897 г. – 1 двор, 5 жых. (Мсц.)

**ДЗЕСЯТЫ АКЦЯБР**, п., у 1927 – 1967 гг. у Цялушскім с/с Бабруйскага р-на. Ліквідаваны. (Бабр.)

**ДЗЕСЯТЫ РЭЗ**, ур. Гл. ур. Дзесяты Глускага р-на. (Глуск.)

**ДЗЕСЯТЫ** ур., лясное, за 1,5км на Пд ад ур. Калявосы, на Пд ад ур. Дзевяты Глускага р-на. Вар. назвы – Дзесяты Рэз. (Глуск.)

**ДЗЕСЯЦІДВОРКА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Вадва Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ДЗЕСЯЦІНА**, р., пр. прыт. р. Бярэзіна (бас. р. Дняпро) у Асіповіцкім р-не. Даўж. 7 км. Выток за 2 км на З ад в. Шэйпічы, вусце – у в. Чучча. (Асіп.)

**ДЗЕСЯЦІНА**, ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на ПнЗ ад в. Чучча Асіповіцкага р-на каля дарогі Ялізава – Бабруйск. (Асіп.)

**ДЗЕСЯЦІНКА**, воз., бас. р. Дняпро, каля в. Сасноўка Першая. Пл. 1 га. Назва ад памераў. (Шкл.)

**ДЗЕСЯЦІНЫ**, в., Паўлавіцкі с/с Кіраўскага р-на, 2 двары, 3 жых., дом сац. пасл. (Кір.)

**ДЗЕСЯЦІНЫ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Паўлавічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ДЗЕТДОМ**, п., частка в. Дараганава Асіповіцкага р-на. Б-ца, шк. (Асіп.)

**ДЗЕТДОМАЎСКІ БЕРАГ**, ур., с.-г. угоддзі, на лев. бер. р. Пціч, у в. Дараганава Асіповіцкага р-на. З.а. (Асіп.)

**ДЗЕЎЧЫН**, в., з XV ст. у Гарохаўскім с/с Бабруйскага р-на, без жых. Вар. назвы – Дзяўчын. (Бабр.)

**ДЗІВІ-ГАРАДОК**, пагорак. Гл. г. Дзявочая Гара Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ДЗІДАВА**, руч., старажытн. назва руч. Блудзімля Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДЗІКАЕ БАЛОТА**, балота, каля в. Радуцічы Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ДЗІКАЕ БАЛОТА**, рад., торфу. Гл. Дзікаўскае Глускага р-на. (Глуск.)

**ДЗІКАЕ**, балота верхав. (80%), нізін. (10%) і змеш. (10%) тыпаў, на вдпдз. рр. Пціч і Ліса, за 10 км на ПнУ ад г.п. Глуск. Пл. 1,7 тыс. га, у межах прам. пакладу 1,4 тыс. га. Воз. Дзікае пл. 0,28 км². Глыб. торфу да 6,5 м, сяр. магутн. 2,7 м. Зап. торфу 4 млн.т. Ступень распаду – 30%. Сапрапелі. Распрацоўв. торфапрадпр. "Рэдкі Рог".(Глуск)

**ДЗІКАЕ**, воз., у бас. р. Пціч, за 13 км на ПнУ ад г.п. Глуск, за 3,5 км на У ад п. Кіраўскае Глускага р-на, сярод тарф. балота. Пл. 0,28 км². Злуч. ручаём з р. Ліса. (Глуск.)

**ДЗІКАЕ**, п., да 1961 г. перайменав. у п. Кіраўскае Глускага р-на. Гл. п. Кіраўскае. (Глуск.)

**ДЗІКАЕ**, х., да 1930-х гг. у Глускім р-не. Далуч. да п. Кіраўскае. (Глуск.)

**ДЗІКАНАВА ЛУЖА**, балота, за 3,5 км на ПнЗ ад в. Судзілы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗІКАНАВА**, крын., на пр. бер. р. Лабжанка, на У в. Судзілы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗІКАЎСКАЕ**, рад., сапрапелю, на балоце Дзікае Глускага р-на. Зап. 1,9 млн. м³. Сяр. магутн. 1 м. (Глуск.)

**ДЗІКАЎСКАЕ**, рад., сапрапелю, на воз. Дзікае Глускага р-на. Зап. 336 тыс. м³. Высцілае ўсю азёрную чашу. Сяр. магутн. – 1,2 м. Натуральн. вільготн. 87%. Попельнасць – 37%. Сапрапелі прыдатн. на ўгнаенні. (Глуск.)

**ДЗІКАЎСКАЕ**, рад., торфу, на балоце Дзікае Глускага р-на. Распрацоўв. торфаўч-кам "Дзікае" торфапрадпр. "Рэдкі Рог". (Глуск.)

**ДЗІКІ ВІР**, вір, у сутоку рр. Вабіч і Друць Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ДЗІРАВЫ ЛОГ**, п., да XX ст. у Дрыбінскім р-не. Ліквідаваны. (Дрыб.)

**ДЗІРВІЦА**, ур., лясное, каля в. Чырвоны Бор Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ДЗІЎЕ**, п., да сяр. XX ст. у Лебядзянкаўскім с/с Бялыніцкага р-на. Ліквідаваны. (Бял.)

**ДЗІЎЕ**, ур., леса-хмызов., паміж вв. Прыхабы і Краснае Бялыніцкага р-на, на м. б. п. Дзіўе. (Бял.)

**ДЗІЎНАВА**, в., Ардацкі с/с Шклоўскага р-на, вядом. з 1604 г., 51 двор, 78 жых., МТФ. Бр. магілы сав. воінаў, сав. лётчыкаў. (Шкл.)

**ДЗІЎНАЕ**, с., да XVII ст. паміж г. Шкловам і р. Дняпро. У XVII ст. укл. у скл. г. Шклоў. (Шкл.)

**ДЗІЦЯЧЫ ПАРК**, парк, з 1976 г., на лев. бер. р. Дняпро, у г. Магілёў, на перакрыжав. пр-та Пушкіна і вул. Гагарына. Пл. 3,8 га. ДК вобл., Лядовы палац, дз. атракцыёны. (Маг.)

**ДЗІЦЯЧЫ ПАРК**, парк, у г. Горкі. (Гор.)

**ДЗІЦЯЧЫ ПАРК**, парк, у г. Крычаў, па вул. Абаронная. Атракцыёны. (Крыч.)

**ДЗМІТРАЎКА І, ДЗМІТРАЎКА ПЕРШАЯ**, в. Гл. в. Змітраўка Першая Клічаўскага р-на. Ц. с/с у 1939 – 1966 гг. Бр. магіла сав. воінаў і партызан. (Кліч.)

**ДЗМІТРАЎКА ІІ, ДЗМІТРАЎКА ДРУГАЯ**, в. Гл. в. Змітраўка Другая Клічаўскага р-на. (Кліч.)

**ДЗМІТРАЎСКІ С/С**, с/с Клічаўскага р-на, у 1939 – 1966 гг. Утвор. 10.07.1939 г. на тэр. Клічаўскага с/с, з 20.09.1944 у Клічаўскім р-не Бабруйскай вобл., з 08.01.1954 у Клічаўскім р-не Магілёўскай вобл., з 25.12.1962 у Кіраўскім р-не, з 06.01.1965 у Клічаўскім р-не. 19.08.1966 г. перайменав. у Патоцкі с/с. (Кліч.)

**ДЗМІТРЫЕЎСК**, в. Вар. назвы – в. Саматэвічы Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДЗЮЖКІНА**, воз., старык, на пр. бер. р. Сож, на 1,5 км ніжэй за г. Чэрыкаў, за мастом. (Чэр.)

**ДЗЮНЫ**, пясч. пагоркі, на пр. бер. р. Проня, за 1 км на ПдУ ад в. Цёплае Чавускага р-на, у сутоку руч. Безыменны і р. Проня. (Чав.)

**ДЗЯВІЧНІК**, ур., с.-г. угоддзі, па р. Сураў, у в. Дзямідавічы Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДЗЯВІЧЧА**, ур., пляж, на р.Сураў, у в. Дзямідавічы Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДЗЯВОЧАЯ ГАРА**, пагорак, на пр. бер. р. Віхра, у г. Мсціслаў, на У ад г. Замкавая Гара. Гарадзішча І ст. да н.э. – І ст. н.э. Вар. назвы – Дзеві-гарадок, Дзіві-гарадок. (Мсц.)

**ДЗЯВОЧАЯ ГАРА**, пагорак, у ц. в. Любонічы Кіраўскага р-на. Гарадзішча, этнографаархеалаг. помн. (Кір.)

**ДЗЯВОЧЫ БРОД**, брод, на р. Аслік, у в. Смагілаўка Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДЗЯВОЧЫ ГАРАДОК**, пагорак. Гл. Дзявочая Гара, у г. Мсціслаў. (Мсц.)

**ДЗЯВОЧЫ ПЛЯЖ**, пляж, на пр.бер. р. Радуча, у в. Аляксандраўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ДЗЯВУЛІНЫ**, ур., лясное, за 2 км на ПнУ ад в. Студзянец Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗЯВЯТЫ**, ур., лясное, за 1 км на Пд ад ур. Калявосы Глускага р-на. Вар. назвы – Дзевяты Рэз. (Глуск.)

**ДЗЯВЯТЫ КІЛАМЕТР**, л.м., на м. б. чыг. р-да Дзевяты Кіламетр Асіповіцкага р-на. (Асіп)

**ДЗЯВЯТЫ КІЛАМЕТР**, чыг. р-д, да 1967 г. у Лапіцкім с/с Асіповіцкага р-на на развілцы чыг. Асіповічы – Мар'іна Горка і Асіповічы – Градзянка. Ліквідаваны. (Асіп)

**ДЗЯВЯТЫ ПАСЁЛАК**, в. Гл. в. Троіцкі Хоцімскага р-на. (Хоц.)

**ДЗЯВЯТЫ РЭЗ**, ур. Вар. назвы – ўр. Дзевяты Глускага р-на. (Глуск.)

**ДЗЯВЯЦІГАРА**, гара. Вар. назвы – Дзявочая Гара Кіраўскага р-на. Гарадзішча. (Кір.)

**ДЗЯГЦЯКУРНЯ**, ур., лясное, каля в. Сіманавічы Глускага р-на. Да пач. XX ст. здаб. жывіцы і выраб дзёгцю. (Глуск.)

**ДЗЯГЦЯРКА**, руч., левы прыт. р. Вільчанка (бас. р. Дняпро). Даўж. 5 км. Выток на У ад в. Палетнікі, вусце ў в. Вейна Магілёўскага р-на. (Маг.)

**ДЗЯГЦЯРНЯ**, ур., лясное, за 4 км на З ад в. Роськаў Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗЯНЬГУБ**, ур., с.-г. угоддзі, паміж вв. Стрыкалі і Ферма Горацкага р-на. (Гор.)

**ДЗЯГАВІЦКАЯ РАКА**, руч. Гл. руч. Дзягаўка Крычаўскага р-на. (Крыч.)

**ДЗЯГАВІЦКАЯ**, руч. Гл. руч. Дзягаўка Крычаўскага р-на (Крыч.)

**ДЗЯГАВІЧЫ**, в., Краснабудскі с/с Крычаўскага р-на, вядом. з XVIII ст., 165 двароў, 321 жых., п/а, АТС, ФАП, б-ка, д/с-СШ, культ.-спарт. ц., крама, ф. 2 старажытн. стаянкі, кур-

ган, кург. могільнік, помн. землякам, У. Леніну. Радз. А. Манінай, Гер. Сац. Працы. (Крыч.)

**ДЗЯГАЎКА**, руч., левы прыт. р. Сож (бас. р. Дняпро). Даўж. 6 км. Выток за 0,8 км на Пн ад в. Ліцьвінава Крычаўскага р-на, вусце за 1,5 км на Пд ад чыг. моста праз р. Сож у г. Крычаў. Вар. назвы – р. Дзягавіцкая, Дзягавіцкая Рака. (Крыч.)

**ДЗЯГЦЯРКА**, р., верх. плынь р. Вільчанка, да ўпадз. у яе р. Шчацінка. Даўж. 9 км (ад в. Палетнікі). 2 вдсх. у вв. Вейна, Навасёлкі Магілёўскага р-на. (Маг.)

**ДЗЯГЦЯРНІЦА**, ур., лясное, каля в. Зеляцькова Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДЗЯГЦЯРНЯ**, ур., лясное, на ПнЗ ад в. Акунёўка Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ДЗЯГЦЯРНЯ**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,5 км на У ад в. Аляксандраўка II Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ДЗЯГЦЯРСКІ РАВОК**, роў, каля лесу, у в. Філатава Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДЗЯГЦЯРШЧЫНА**, ур., лясная паляна, у лесе на З ад в. Цяцерын Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДЗЯДЗЕБЛЯ**, канава, меліярац., левы прыт. р. Пціч (бас. р. Прывяць). Пач. і вусце каля в. Птушычы Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ДЗЯДЗІНЕЦ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Паўлавічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ДЗЯДЗІХІНА КОПАНЬКА**, сажалка, у ц. в. Сялецкае Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДЗЯДКАЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, поле, за 1,5 км на У ад в. Добрая Горацкага р-на. (Гор.)

**ДЗЯДКАЎ ХУТАР**, х., да 1930-х гг.у Добраўскім с/с Горацкага р-на. Ліквідаваны. (Гор.)

**ДЗЯДКІ**, в., Заводскаслабодскі с/с Магілёўскага р-на, 7 двароў, 7 жых. (Маг.)

**ДЗЯДКОЎ ХУТАР**, ур., хмызовае, в. Трылесін Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ДЗЯДОВІЧАЎ БЯРЭЗНІК**, ур., хмызовае, у в. Сенькава Горацкага р-на. (Гор.)

**ДЗЯДЫ**, ур., лясное, за 1,5 км на Пн ад в. Гута Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗЯЖКІ**, в., з 1920-х гг. у Рыжкавіцкім с/с Шклоўскага р-на, 6 двароў, 11 жых. (Шкл.)

**ДЗЯКАВА ЛУКА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Прыбар Бялыніцкага р-на, у луцэ ракі. (Бял.)

**ДЗЯКАВА ЛУКА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Шапялевічы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДЗЯКАНАЎКА**, сажалка, у Пд частцы в. Пірагова Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ДЗЯКАЎ РОГ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Жыцін Асіповіцкага р-на. (Асіп.)

**ДЗЯКАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, за 5 км на У ад в. Радучы Чавускага р-на. (Чав.)

**ДЗЯКАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, на Пд в. Негаўля Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ДЗЯКАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, на Пн в. Сялецкае Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДЗЯКАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, на У ад в. Аляксандраўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ДЗЯЛЯНКА**, ур., лясная паляна, каля в. Сласцёна Чавускага р-на. (Чав.)

**ДЗЯЛЯНКА**, ур., лясное, на ПнУ ад в. Забычанне Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДЗЯЛЯНКІ**, п., частка в. Казулічы Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ДЗЯМ'ЯНАВА БАЛОТА**, ур., леса-балотнае, каля в. Водва Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ДЗЯМ'ЯНАВА РЭЧКА**, ур. Гл. Шпыркіны рэчкі Бялыніцкага р-на. (Бял.)

**ДЗЯМ'ЯНАВА**, ур., захмызав. с.-г. угоддзі, за 1 км на Пд ад в. Круча Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДЗЯМ'ЯНАВА**, фальв., да 1920-х гг. у Кручанскім с/с Круглянскага р-на. Ліквідаваны. (Кругл.)

**ДЗЯМ'ЯНАЎ БРОД**, брод, на р. Белая Натапа, на У ўскр. в. Капачы Мсціслаўскага р-на. (Мсц.)

**ДЗЯМ'ЯНАЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Мехава Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДЗЯМ'ЯНАЎКА**, п., да 1920-х гг. у Васькавіцкім с/с Слаўгарадскага р-на. Ліквідаваны. (Слаўг.)

**ДЗЯМІДАВА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, на Пн ад в. Улужжа Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДЗЯМІДАВІЦКІ С/С**, с/с, на У Касцюковіцкага р-на. Утвор. 20.08.1924 г. у Касцюковіцкім р-не Калінінскай акр., з 26.09.1927 г. у Касцюковіцкім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Касцюковіцкім р-не, перайменав.у Тупічанскі с/с 05.12.1931г., з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл., перайменав. у Прусінскі, 08.12.1959 г. перайменав. у Дзямідавіцкі с/с. СВК: "Новае Жыццё" (в. Тупічын),

"Дзямідавіцкі" (в. Дзямідавічы). 17 снп, 744 двары, 1151 жых. (Касц.)

**ДЗЯМІДАВІЧЫ**, в., ц. с/с Касцюковіцкага р-на і СВК "Дзямідавіцкі", вядом. з XVIII ст., 104 двары, 272 жых., п/а, АТС, ФАП, шк.-д/с, СДК, б-ка, шк. музей, крама, ф. Радз. П. Кандрашова, Гер. сац. працы. Да рц – 15, да чыг. ст. Камунары – 18 км. (Касц.)

**ДЗЯМІДАЎ**, х., да 1930-х гг. у Круглянскім п/с Круглянскага р-на. Ліквідаваны. (Кругл.)

**ДЗЯМІДАЎШЧЫНА**, ур., с.-г. угоддзі, па р. Рудзея, у в. Конанаўка Чавускага р-на. (Чав.)

**ДЗЯНІСАВА ПОЛЕ**, ур., с.-г. угоддзі, за 1 км на ПнУ ад в. Хадунь Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗЯНІСАЎ ХУТАР**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Кішчыцы Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ДЗЯНІСАЎКА**, ур., с.-г. угоддзі, на ПнЗ ад в. Акушкі Горацкага р-на. (Гор.)

**ДЗЯНІСАЎКА**, х., да 1920-х гг. у Горацкім р-не. Ліквідаваны. (Гор.)

**ДЗЯНІСКІ**, в. Вар. назвы – в. Варварына Чавускага р-на ў XIX ст. (Чав.)

**ДЗЯРАЖАНКА**, р. Гл. р. Дзяражня ў Касцюковіцкім, Клімавіцкім р-нах. (Клім.)

**ДЗЯРАЖАНСКАЯ**, л.д. Гл. Дзяражненская л.д. Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДЗЯРАЖНЕНСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА**, вдсх., на руч., левы прыт. р. Дзяражня, на У ад в. Дзяражня Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДЗЯРАЖНЕНСКАЯ ЛЯСНАЯ ДАЧА**, л.м., за 3 км на З ад в. Дзяражня Касцюковіцкага р-на. Пл. 1,72 тыс. га. Лясы (%): асін. (25), бяроз. (22), ялов. (14), дуб. (13), чорнаальхов. (10), ясен. (10) і інш. Вар. назвы – Камароўшчына. (Касц.).

**ДЗЯРАЖНЕНСКІ С/С**, с/с, у 1924 – 1992 гг. у Касцюковіцкім р-не. Утвор. 20.8.1924 г. у Касцюковіцкім р-не Калінінскай акр. як Красненскі с/с, з 26.09.1927 у Касцюковіцкім р-не Магілёўскай акр., з 26.07.1930 у Касцюковіцкім р-не, перайменав. у Дзяражненскі с/с 05.12.1931, з 20.02.1938 у тым жа р-не Магілёўскай вобл. Ліквідаваны ў сувязі з забруджв. глебаў цэзіем-137 ад 15 да 40 Кі/км². Тэр. с/с перададз. у Беладубраўскі с/с. (Касц.)

**ДЗЯРАЖНЯ**, в., да 1993 г. у Ціманаўскім с/с Клімавіцкага р-на. Ліквідавана. (Клім.)

**ДЗЯРАЖНЯ**, в., у XVI ст. – 1993 г. і з 1996 г. у Беладубраўскім с/с Касцюковіцкага р-на, без жых. Помн. землякам. Гарадзішча, кург. могільнік. Ц. с/с у 1924 – 1992 гг. (Касц.)

**ДЗЯРАЖНЯ**, р., у Клімавіцкім і Касцюковіцкім р-нах, пр. прыт. р. Беседзь (бас. р. Сож). Даўж. 54 км. Выток на Пн ад в. Дзяражня Клімавіцкага р-на, вусце на У ўскр. в. Белая Дуброва Касцюковіцкага р-на. Пл. вдзб. 312 км². Вар. назвы – р. Дзяражанка. (Клім., Касц.).

**ДЗЯРБІНСК**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,5 км на ПнУ ад в. Судзілы Клімавіцкага р-на. (Клім.)

**ДЗЯРГУЧКА**, р., левы прыт. р. Бася (бас. р. Проня). Даўж. 9 км. Выток на Пн ад в. Гіраўцы, вусце насупраць в. Сушчы Чавускага р-на, праз р. Бася. (Чав.)

**ДЗЯРЖЫННЕ**, в., да 1980-х гг. у Мокраўскім с/с Касцюковіцкага р-на. Ліквідавана. (Касц.)

**ДЗЯРЖЫННЕ**, ур., лясное, каля в. Жаркі Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДЗЯРЖЫННЕ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Жаркі Касцюковіцкага р-на. (Касц.)

**ДЗЯРЖЫНСК**, п., з 1920-х гг. у Каткаўскім с/с Глускага р-на, 10 двароў, 11 жых. (Глуск.)

**ДЗЯРЖЫНСКІ**, п. Гл. п. Дзяржынск Глускага р-на. (Глуск.)

**ДЗЯРЖЫНСКІ**, п., да 1977 г. у Грыбавецкім с/с Кіраўскага р-на. Ліквідаваны. Спалены фашыстамі ў 1942 г. Пасля вайны адноўлены. (Кір.)

**ДЗЯРЖЫНСКІ**, ур., с.-г. угоддзі, за 0,5 км на ПдЗ ад в. Боркі Кіраўскага р-на. (Кір.)

**ДЗЯРНІШЧА**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Навасёлкі Шклоўскага р-на. (Шкл.)

**ДЗЯРНОВАЯ**, в. Гл. в. Дзернавая. (Краснап.)

**ДЗЯРНОВІЦКАЕ ВАДАСХОВІШЧА**, вдсх., на р. Палуж, у в. Дзярновая Краснапольскага р-на. (Краснап.)

**ДЗЯРУЖКІ**, ур., леса-балотнае, за 5 км на Пн ад в. Зелянковічы Глускага р-на. Гарадзішча. (Глуск.)

**ДЗЯРУЖНІЦА**, ур., с.-г. угоддзі, поле СВК імя Будзённага Клічаўскага р-на. Пл. 79,1 га. (Кліч.)

**ДЗЯРЫШЧЫ**, ур., с.-г. угоддзі, на ПнУ ад в. Кунцы Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДЗЯРЭЎНЯ**, в., у 1572 – 1990-х гг. у Гіжэнскім с/с Слаўгарадскага р-на. Далуч. да в. Любаны. (Слаўг.)

**ДЗЯРЭЎНЯ**, п., частка в. Любаны Слаўгарадскага р-на. (Слаўг.)

**ДЗЯРЭЎНЯ**, ур., с.-г. угоддзі, луг, в. Кішчыцы Дрыбінскага р-на. (Дрыб.)

**ДЗЯСІНГЧЫ**, л. м. на пр. м бер. р. Свіслач, за 2 км на ПдЗ ад в. Брыцалавічы Асіповіцкага р-на. (Асіп)

**ДЗЯСНА**, р. Гл. р. Даска Магілёўскага р-на. (Маг.)

**ДЗЯТЛАВА БАЛОТА**, ур., забалоч. с.-г. угоддзі, на З ад в. Зарэчча, каля ўр. Саснік Круглянскага р-на. (Кругл.)

**ДЗЯЎЧЫН**, в. Гл. в. Дзеўчын Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ДЛІННАЕ БАЛОТА**, ур., леса-балотнае, каля в. Лудчыцы Быхаўскага р-на. (Бых.)

**ДЛІННЫЯ**, ур., с.-г. угоддзі, у в. Каўгары Асіповіцкага р-на, каля ўр. Галае. Даўж. больш за 1 км. (Асіп.)

**ДНЕПР**, п. Гл. п. Дняпро Магілёўскага р-на. (Маг.)

**ДНЯПРО, ДНЕПР**, п., з 1963 г. у Палыкавіцкім с/с Магілёўскага р-на, 16 двароў, 40 жых. (Маг.)

**ДНЯПРО**, р., бас Чорнага мора, у Расіі, на Беларусі і Украіне (у т.л. у Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абл. Беларусі). У вобл. у межах Шклоўскага, Магілёўскага, Быхаўскага р-наў. Даўж. 2201 км (у вобл. 170). Пл. вдзб. 504 тыс. км$^2$. Агульн. падз. у Беларусі 54 м. Сяр. нахіл водн. пав. 0,08%. Выток у РФ, упад. у Дняпроўскі ліман Чорнага мора. Гушч. натур. сеткі на тэр. краіны 0,39 км/км$^2$. Гал. пр. на Беларусі: Ухлясць, Ржаўка, Сож (злева), Аршыца, Адроў, Лахва, Друць, Бярэзіна, Прыпяць (справа). У межах краіны даліна пераваж. трапецападобн., ніжэй вусця р. Сож невыразная. Шыр. да Магілёва 0,8 – 3,0, ніжэй (да вусця Сажа) 5 – 10 км. Схілы ўмер. стромкія і спадз., выш. 12 – 35 м, парэзан. ярамі, лагамі, далінамі прыт. Пойма на знач. прац. ад Магілёва – двухбаков. тэраса, якая ўзвыш. над межан. узроўнем вады на 5 – 8 м, шыр. 0,1 – 1,0 км. Ад Магілёва да Жлобіна пашыр. да 6 км. Пав. поймы ніжэй за Магілёў перасечана старыцамі, рукавамі, пратокамі і зал., больш. часткай адкрытая і разараная. Ёсць павыш. грывістыя ўчасткі, пясч. узгоркі і прырэчышч. валы. Гал. крын. жыўлення – снегавыя воды. Сяр. выш. над самай нізкай межанню каля Магілёва 6,2 м. Замярзае ў кан. лістап. – пач. снежня, крыгалом у сяр. цяч. у кан. сакав. – пач. красав. Найб. гг.: Магілёў, Шклоў, Быхаў. У старажытн. – Барысфен, Вар, Бор, Варух (Бых., Маг., Шкл.)

**ДНЯПРОЎСКАЕ ВОЗЕРА**, воз., старык, на лев. бер. р. Дняпро, за 6 км на ПнЗ ад в. Сідаравічы Магілёўскага р-на, за 3,5 км на Пн ад воз. Выхадскае. Востраў. (Маг.)

**ДНЯПРОЎСКАЕ**, воз., старык, на лев. бер. р. Дняпро, на ПдУ ад в. Стайкі Магілёўскага р-на. Пл. 12 га. (Маг.)

**ДНЯПРОЎСКАЕ**, воз., старык. р. Дняпро, на пр. бер., на У в. Седзіч Быхаўскага р-на. (Бых.)

**ДНЯПРОЎСКІ ПАРК**, парк. Гл. сквер імя Герцэна, у г. Магілёў (Маг.)

**ДНЯПРЫЦА**, руч., (раней – р.), пр. прыт. р. Бабруйка (бас. р. Бярэзіна), у г. Бабруйск. Даўж. каля 1 км. Выток і вусце на тэр. г. Бабруйск. (Бабр.)

**ДНЯПРЭЦ**, вдсх., на р. Дняпрэц, за 7 км на у ад г. Горкі, каля вв. Буда, Кварцяны, Паляшчыцы Горацкага р-на. Пл. 0,98 км$^2$. Найб. глыб. 9 м. Аб'ём 4,42 млн. м$^3$. Пл. вдзб. 59 км$^2$. Створ. у 1979 г. для арашэння. Слабапраточ. Зарастае. Сяр. шматгадовы сцёк 15,4 млн. м$^3$. (Гор.)

**ДНЯПРЭЦ**, р., пр. прыт. р. Быстрая (бас. р. Дняпро) у Горацкім р-не. Даўж. 25 км. Пл. вдзб. 71 км$^2$. Выток за 1 км на ПнУ ад в. Зайцава, вусце за 1,5 км на Пд ад в. Паляшчыцы. Вдсх. Дняпрэц. (Гор.)

**ДНЯПРЭЦ**, р., старажытн. назва р. Дняпрыца Бабруйскага р-на. (Бабр.)

**ДОБАСНА**, а/г, ц. с/с Кіраўскага р-на, ц. СВК "Добасна-агра", вядом. з 1502 г., 159 двароў, 486 жых., п/а, аддз. ААБ "Беларусбанк", АТС, ФАП, СШ-д/с, СДК, б-ка, сац. пункт, КПП, крама, млын, ПУГП "Барс-гандаль", 3 ф., к-с БРЖ. Бр. магіла сав. воінаў і партызан. У 1560 г. – с., з 1783 г. правасл. царква, у 1839 – пач. XX ст. – цукровы з-д, у 1880 – 1914 – віна-кур. з-д, млын, абутк., кравецк., кавальск. про-

